

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

22 САКАВІКА 2002г. № 12 - 13/4146 - 4147 КОШТ 285 РУБ.





*Антон Бархаткоў: "Жыццё кароткае, мастацтва вечнае..."*



*Апошні снег. 1969 г.*

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Напамінаем, падпіска на "ЛіМ" на першае паўгоддзе працягваецца. Яе можна аформіць у любым паштовым аддзяленні. Кошт індывідуальнай падпіскі на адзін месяц — 1100 рублёў, на тры — 3300 рублёў.*

**Індывідуальны індэкс — 63856.**

*Кошт ведамаснай падпіскі на адзін месяц — 2500 рублёў, на тры — 7500 рублёў.*

**Ведамасны індэкс — 63857.**



## КОЛА ДЗЁН

***Праляцела амаль тры месяцы 2002 года. Спадзяванні на лепшае жыццё для большасці жыхароў нашай краіны, на жаль, так і засталіся спадзяваннямі. Шмат гаворыцца пра тое, што прыйшоў час усім самім зарабляць грошы. Усё гэта правільна, але...***

### ФАКТЫ ТЫДНЯ

З краін былога Савецкага Саюза на Захад, а найбольш у ЗША на пастаяннае месца жыхарства штогод з'язджаюць дзесяткі тысяч людзей. Сярод іх вялікі працэнт навукоўцаў. Так каля 200 тысяч вучоных перабраліся з Расіі за мяжу за апошнія некалькі гадоў. На ўтрыманне ж спецыялістаў, якія засталіся, дзяржава выдаткоўвае ў восем разоў менш сродкаў, чым ЗША і нават у тры разы менш, чым Мексіка. На сённяшні дзень сярэдні ўзрост расійскіх вучоных — 56 гадоў, тады як у замежжы — не больш як 45. У нашай краіне сітуацыя не лепшая, бо ад нас з'язджаюць лепшыя навукоўцы не толькі ў ЗША, але і ў Расію. Таму ці варта задаваць сабе пытанне: "Чаму ў нас усё так дрэнна?"

### ПЛАНЫ ТЫДНЯ

Чуткі на пустым месцы не ўзнікаюць, таму размовы пра тое, што рэчавыя рынкі, якія дзейнічаюць у Мінску на стадыёнах "Дынама" і "Трактар" будуць перанесены, маюць пад сабой глебу. Тое, што так будзе, пацвердзіў начальнік упраўлення гандлю і паслуг Мінгарвыканкама А. Лукашэвіч. Рэчавы рынак са стадыёна "Трактар" будзе перанесены ў іншае месца да 1 кастрычніка гэтага года. Куды і калі перанясуць рынак з "Дынама" яшчэ вырашаецца...

### АДСТАЎКА ТЫДНЯ

Як ні круці, але тое, што адбываецца ў нашых суседзяў, уплывае на справы ў Беларусі. І тое, што Віктар Герашчанка пакінуў пасаду старшыні Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі, не засталося незаўважаным для нас. Аднак па словах намесніка старшыні праўлення Нацыянальнага банка Беларусі М. Лузгіна, гэта карэнным чынам не адаб'ецца на стане валютнага рынку нашай краіны. Паводле яго слоў, валютны рынак залежыць ад унутраных фактараў, якія ў гэтым выпадку зусім не закрануты. Эмісійная і працэнтная палітыка, якую праводзіць Нацбанк краіны, не зменіцца.

### КОНКУРС ТЫДНЯ

14 лютага ў нашай краіне пастановай беларускага ўрада быў аб'яўлены конкурс на стварэнне тэксту і музыкі новага гімна Рэспублікі Беларусь. Камісія па прыняцці новага Дзяржаўнага гімна Беларусі, якую ўзначальвае віцэ-прэм'ер урада Беларусі Уладзімір Дражын, атрымала для разгляду 51 варыянт новых музыкі і тэксту гімна, 106 тэкстаў на беларускай мове, 30 тэкстаў на рускай мове, 4 варыянты музыкі, а таксама 117 новых тэкстаў на музыку Н. Сакалоўскага. Днямі павінна адбыцца пасяджэнне камісіі, якая на першым этапе адбярэ 3 варыянты гімна. Як мяркуецца, новы гімн упершыню прагучыць 3 ліпеня — у Дзень незалежнасці Беларусі.

### ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

Кожны год у рамках гуманітарнага супрацоўніцтва беларускія дзеці папраўляюць сваё здароўе ў замежжы. У мінулым годзе такіх шчаслівўчыкаў было 56 тысяч, якія адпачывалі ў 20 краінах свету. На працягу месячнага знаходжання на аздараўленні за мяжой у дзіцячым арганізме зніжаецца ўзровень цэзію-237 у сярэднім на 20-50 працэнтаў. У гэтым годзе колькасць дзяцей, якія змогуць паправіць сваё здароўе ў замежжы, у параўнанні з мінулым годам не зменшыцца, а нават ёсць перспектывы для росту...

### ПРАВЕРКА ТЫДНЯ

З 15 сакавіка ў нашай краіне ідзе праверка якасці рэалізуемых у аптовым і рознічным гандлі тавараў айчыннай і замежнай вытворчасці: каўбасных вырабаў, мясных кансерваў і цэльнамалочнай прадукцыі. Асобная ўвага ветэрынарнымі службамі ўдзяляецца праверцы тэрмінаў прыгоднасці прадуктаў, умоў іх захавання, наяўнасці дакументаў, якія б пацвярджалі якасць. Праверка працягнецца да 15 красавіка. Трэба чакаць, што вынікі праверкі прынясуць хоць нейкую карысць, а не стануць проста галачкай у справаздачах правяраючых...

### ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Ва Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь служаць не толькі мужчыны, а і жанчыны, якіх на сённяшні дзень на розных пасадах налічваецца 4321 чалавек. Сярод жанчын-ваеннаслужачых 125 афіцэраў, 815 прапаршчыкаў і 3381 сяржант і салдат, якія праходзяць службу па кантракце. З ліку жанчын-афіцэраў 7 носяць званне падпалкоўніка, 14 — маёра, 41 — капітана, 39 — старшага лейтэнанта. Адным словам, нашы жанчыны не такія ўжо і слабыя і могуць не толькі за сябе пастаяць, а за ўсю нашу Айчыну...

### СТАЎКІ ТЫДНЯ

Мінаблвыканкам распрацаваў новыя стаўкі арэнднай платы ў будынках і збудаваннях, якія размешчаны на тэрыторыі Мінска і тых, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці. Стаўкі ў большасці засталіся ранейшыя, а зменена толькі стаўка для пунктаў абмену валюты. Калі ў 2001 годзе "квадрат" для абменнага пункта каштаваў 30 долараў у месяц, то ў 2002 годзе плануецца панізіць стаўку да 15 долараў. Як і раней, мінімальная стаўка за невытворчым памяшканні ўстаноўлена ў памеры 10 долараў за 1 квадратны метр агульнай плошчы ў месяц. Так што, мяркуючы па ўсім, у нашай сталіцы абменных пунктаў валюты ў хуткім часе павінна значна прыбавіцца...

### НАПАМІН ТЫДНЯ

У адпаведнасці з парадкам вылічэння часу, вызначаным урадам Рэспублікі Беларусь, на перыяд з 31 сакавіка па 27 кастрычніка 2002 года ў нашай краіне ўводзіцца "летні" час. У сувязі з гэтым стрэлкі гадзінніка на тэрыторыі Беларусі ў 2 гадзіны 31 сакавіка 2002 года пераводзяцца на 1 гадзіну наперад. Словам, не забудзьцеся пра гэта, каб пасля не спазніцца на працу ці на сустрэчу з каханым чалавекам.

### ХВАЛЯВАННЕ ТЫДНЯ

Апошнім часам у нашай краіне стаіць цёплае надвор'е, таму многіх гараджан хвалюе пытанне пра заканчэнне ацяпляльнага сезона. Адно, што можна сказаць, — ацяпленне будзе адключана ў тым выпадку, калі на працягу пяці дзён сярэднесутачная тэмпература на дварэ будзе трымацца на ўзроўні 8 градусаў цяпла. А пакуль начамі бываюць маразы, то ацяпляльны сезон яшчэ працягнецца. Да ўсяго сінаптыкі абяцаюць яшчэ не толькі маразы, але і снег...

# Дзяржава і развіццё культуры

Абмеркаванне становішча нацыянальнай культуры і праекта закона "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у закон "Аб культуры ў РБ", што адбылося ў сталічным універсітэце культуры, чарговы раз засведчыла: праблем у гэтым рычышчы значна больш, чым дасягненняў. У прысутнасці высокапастаўленых чыноўнікаў, дэпутатаў і журналістаў выкладчыкі мінскіх ВНУ перадалі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Савета Міністраў, Міністэрствам культуры, адукацыі і іншым органам дзяржаўнага кіравання Рэспублікі Беларусь свае заўвагі і прапановы па прывядзенні ў належны стан нацыянальнага заканадаўства. У сваім дакладзе "Прафесійнае мастацтва РБ: стан і перспектывы" доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вера Пракапцова сказала: "Асобнай размовы патрабуе тэма папулярызацыі твораў беларускіх кампазітараў на электронных носьбітах. Маюцца на ўвазе магнітныя, дыскавыя запісы, якія можна было б набыць у спецыялізаваных крамах". Склалася, на думку Пракапцовай, неадназначная сітуацыя з мастацкай крытыкай і публіцыстыкай на старонках газет. Пытаннямі мастацтвазнаўства, па яе словах, часцей за ўсё займаюцца непрафесіяналы, якія лёгка маніпулююць фактамі, не даючы ім мастацтвазнаўчай адзнакі. Сышоў, маўляў, у нябыт дваццацігадовай даўніны прынцып замовы артыкулаў пэўным аўтарам — мастацтвазнаўцам. Няма навуковага часопіса, зместам якога былі б рэцэнзіі. Гэта, папершае, абумоўлівае адсутнасць выпрацаваных ацэначных крытэрыяў, замінае фармаванню грамадскай думкі. Па-другое, вельмі ўскладняе набыццё аспірантамі і маладымі навукоўцамі публіцыстычнага вопыту. Самая, бадай, спрэчная выснова, якая, як нам падаецца, грунтуецца на падставе асабістага непрыняцця асобных аўтараў. Жаданне ж адрадзіць практыку замовы матэрыялаў пэўным аўтарам для фармавання адзінапраўленай грамадскай думкі — жаданне абмежаваць свабоду слова адных і пашырыць магчымасці іншых аўтараў. Але ж, маючы заказ, ці будуць яны вольныя ў сваіх высновах? З гэтага, вядома ж, не вынікае, што мы супраць з'яўлення згаданага часопіса.

Актуальнай застаецца праблема забеспячэння ўстаноў мастацкай адукацыі сучаснымі тэхналагічнымі сродкамі. У тым ліку камп'ютэрызацыя навучання, сцэнаграфіі. Неабходна таксама праводзіць семінары творчай моладзі, на якія збіраліся б прадстаўнікі розных галін мастацтва і навукі для абмеркавання актуальных праблем і набыцця інфармацыі. Вынікам павінна стаць правядзенне семінараў-дыялогаў практыкаў і тэарэтыкаў, на якіх і будуць выпрацоўвацца крытэрыі ацэнкі з'яў мастацтва, прагназавацца перспектывы дзейнасці, фармавацца падставы для дзяржаўнай замовы. На думку Пракапцовай, разнастайнасць творчых накірункаў, аўтарскіх эксперыментаў вымагае стварэння базавых творчых лабараторый, дзе маглі б здзяйсняцца эксперыментальныя пастаноўкі ў галіне музычнага тэатра. Таксама маглі б дэманстравацца аўтарскія эксперыментальныя кінафільмы. Між іншым, жаданне вярнуцца да адзінадумства ў краіне праглядаецца і ў пункце 2.4 "Рэкамендацыяў". У ім заканадаўцаў просяць распрацаваць у сферы прафесійнага мастацтва праграмы, "якія б прадугледжвалі механізмы прыпынення і ўхілення тэндэнцыі распаду мастацкага працэсу на субкультуры, якія фармаваліся па прыкметах ці то творчага накірунку, ці то нейкай палітычнай мэты, ці то вырашэння прагматычных задач". Можна зразумець, хто маецца на ўвазе. Але ж і суполка "Пагоня", і "Бумбам-літ", і іншыя "субкультуры" маюць сваіх гледачоў і чытачоў. Што ж з імі рабіць?

У рэшце рэшт, лічыць Пракапцова, у Беларусі трэба стварыць цэнтр культуры мастацтва XX стагоддзя, дзе пастаянна дзейнічалі б экспазіцыі выяўленчага мастацтва, інсталяцыі, фатаграфіі, тэматычныя выставы поп-арта, сюррэалізму і іншых накірункаў. Функцыянавалі б бібліятэкі, чытальныя залы, кіназала, музычныя і тэатральныя салоны. Вельмі актуальнымі застаюцца пытанні сацыяльнай падтрымкі творчай інтэлігенцыі, дзяржаўнага прызнання іх дзейнасці. Сярод розных шляхоў маральнага заахвочвання прыярытэтным павінна застацца прадстаўленне лепшых да ганаровых званняў і дзяржаўных узнагарод. Поруч з маральнай падтрымкай дзеячаў мастацтва творчыя асобы і калектывы патрабуюць значных фундацый з боку мецэнатаў. Спонсарства можа стаць дадатковай дзяржаўнай крыніцай фінансавання. Але каб мецэнаты былі зацікаўлены ў фундацыях творчых працэсаў, трэба выпрацаваць пэўную сістэму заахвочвання. Неабходна асобнае палажэнне "Аб спонсарстве", якое будзе прадугледжваць ільготнае падаткаабкладанне, мэтанакіраваную адраснасць фундатарскіх укладанняў. Гэта, вядома ж, павінна датычыць акадэмічнага мастацтва, а не поп-культуры. Нельга абысціся і без адлічэння з даходаў прадпрымальнікаў.

У дакладзе старшага выкладчыка Алены Макаравай "Праблемы аматарскага мастацтва Беларусі" гучала: "Распрацавана значная колькасць дакументаў, якія забяспечваюць прававую базу дзейнасці самадзейных калектываў. Фестывальная палітыка, фестывальны рух фінансуецца дзяржавай. Гэта дае магчымасць убачыць, як развіваецца творчасць у розных рэгіёнах. Патрэбна больш увагі надаваць інфармацыйна камп'ютэрным тэхналогіям у развіцці самадзейнай мастацкай творчасці. Нават у параўнанні з нашымі бліжэйшымі суседзямі мы значна адстаём". Пытанне ліцэнзавання дзейнасці было ўзнята той жа спадарыняй Макаравай. Па яе словах нельга параўноўваць гастрольную дзейнасць прафесійных калектываў і аматарскіх. Увядзенне сістэмы ліцэнзавання можа стацца заганным і прывесці да значных праблем развіцця самадзейнасці. Пра ролю тэлебачання выказалася вельмі спрэчная думка. Шмат чаго цікавага робіцца ў рэгіёнах, але не знаходзіць свайго ўвасаблення на экранах. Святы, тыя ж "Дажынкі", якія праводзіліся ў Мазыры, не трапілі ў эфір нацыянальнай тэлевізіі. Чаго-чаго, а самадзейнасці на БТ ажно занадта. Хутка прафесійнага нічога не застанецца. Усе выступоўцы зазначылі, што неабходна падтрымка маладых спецыялістаў, выпускнікоў універсітэта культуры, вучылішчаў мастацтва. Выкладчыкі бачаць у іх патэнцыйных кіраўнікоў мастацкіх калектываў, але яны паўсюль сутыкаюцца з адсутнасцю жылля, у іх малы заробак і г.д. Як вы разумееце, гэта не спрые прыцягненню моладзі ў рэгіёны.

З даклада " Перспектывы культуралагічнай адукацыі ў Беларусі" прафесара, доктара культуралогіі Аляксандра Смоліка: "Ніхто сёння не займаецца падрыхтоўкай культуралагічных кадраў. Няма ў дастатковай колькасці і адпаведнай літаратуры, падручнікаў. Сёння цэнтры культуры ўзначальваюць толькі 17% супрацоўнікаў з вышэйшай адукацыяй. У XXI стагоддзі, аказваецца, і такое магчыма! Маю на ўвазе любую вышэйшую адукацыю, не культуралагічную, нават не мастацтвазнаўства. У лепшым выпадку гэта выпускнікі педінстытутаў. Можа, таму амерыканская культура пануе ў свеце, што ў іх аналагічныя цэнтры пачалі развівацца яшчэ сто гадоў таму?"

**Вадзім ДОЎНАР**

ФЕСТЫВАЛІ

# Гайда́ ў карагод!

Міністэрства культуры Беларусі, Міністэрства спорту і турызму, Гомельскі абласны выканаўчы камітэт прынялі пастанову аб правядзенні III Міжнароднага фестываля харэаграфічнага мастацтва "Сожскі карагод". Мэта — развіццё фестывальнага руху на Беларусі, папулярызацыя харэаграфічнага мастацтва і ўмацаванне культурных сувязяў паміж народамі. Дата і месца правядзення — з 20 па 22 верасня 2002 года, горад над Сожам, ён жа Гомель. А падрыхтоўка пачалася ўжо сёння, па ўсёй краіне і за яе межамі.

Колькі ўсяго рознага ды цікавага плануецца! Мноства конкурсных і паказальных праграм; маршпарады па гарадскіх вуліцах; прэзентацыі калектываў, іх сольныя і сумесныя выступленні на канцэртных пляцоўках Гомельшчыны; Міжнародны адкрыты турнір па спартыўных бальных танцах; тэатралізаваныя фальклорна-этнаграфічныя імпрэзы; эстрадныя шоу з удзелам салістаў, мадэльераў, мастакоў; балетныя спектаклі; конкурс балетмайстарскіх работ; творчая лабараторыя...

Мяркуецца, што "Сожскі карагод" улучыць у сваё кола прадстаўнікоў прафесійнага і аматарскага, у тым ліку дзіцячага, харэаграфічнага мастацтва Балгарыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Кітая, Латвіі, Малдовы, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі, іншых замежных краін. І, вядома, — Беларусі. Лепшыя з лепшых атрымаюць званні лаўрэатаў, спецыяльныя дыпломы, каштоўныя падарункі ды прызы. Асобна будуць адзначацца выканаўчае майстэрства, арыгінальнасць, лепшы касцюм. Калектывы, якія не зоймуць прызавыя месцы, атрымаюць дыплом "За ўдзел у фестывалі" ды адмысловыя сувеніры. Склад журы будзе зацверджаны да 1 чэрвеня. Тады ж вызначыцца і смета фестывальных выдаткаў. Дарэчы, фінансаванне "Сожскага карагода" ажыццяўляецца за кошт арганізатараў, якія, да таго ж, разлічваюць і на частковае фінансаванне фестывалю з боку Выканаўчага камітэта Саюза Беларусі і Расіі.

У ліку выданняў, да якіх накіравана просьба арганізатараў наконт асвятлення фестывальных імпрэзаў, — і "ЛіМ". Значыць, варта спадзявацца, што нялёгкія эканамічныя варункі не перашкодзяць нашаму карэспандэнту далучыцца да вераснёўскага карагода?

**С. Б.**

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

На чарговым пасяджэнні рады СБП, што адбылося ў Доме літаратара, з паведамленнем аб сённяшнім стане пісьменніцкай арганізацыі, аб шматлікіх пытаннях, што наспелі апошнім часам у творчым асяродку, выступіла старшыня Саюза пісьменнікаў Вольга Іпатава, якая выказала заклапочанасць сённяшнім станам мовы, літаратуры, грамадства, закранула таксама надзённыя праблемы творчай арганізацыі. На пасяджэнні выступілі таксама В. Праўдзін, У. Мачульскі, С. Законнікаў, А. Мальдзіс, М. Мятліцкі, М. Мушынскі, В. Зуёнак, У. Гніламёдаў, У. Някляеў, Л. Дранько-Майсюк, А. Камароўскі, А. Бутэвіч, Г. Каржанеўская, Н. Загорская, Ф. Сіўко, Г. Далідовіч, С. Панізнік, К. Цвірка, Г. Чарказян і іншыя. Па прапанове А. Лойкі рада большасцю галасоў прыняла рашэнне аб скліканні ў маі бягучага года з'езда Саюза пісьменнікаў з парадкам дня "Аб стане літаратуры і літаратурных выданняў", а таксама аб правядзенні ў рамках з'езда справаздачна-выбарчага агульнага сходу "Беллітфонду".

**М. Р.**

АНОНС

# Наш голас на Вялікдзень

Ёсць такое міжнароднае супольніцтва — Еўрапейскі вяшчальны саюз. А ў яго структуры, апроч вядомага Еўрабачання, ёсць і Еўрарадыё, якое працуе ў некалькіх напрамках: старадаўняя музыка, джаз, фальклор і г.д. Фальклорная група Еўрарадыё арганізуе, напрыклад, міжнародныя фестывалі фальклору і так званыя святочныя праекты, прымеркаваныя да Калядаў і да Вялікадня. З 1998 года творчыя прапановы гэтай групы паступаюць на Беларускае радыё. Музыказнаўца Таццяна Песнякевіч, якая рыхтуе да эфіру перадачы пра фальклор, пры канцы мінулага года атрымала інфармацыю пра новы праект: падрыхтоўку CD з велікоднымі песнямі розных народаў Еўропы. А нядаўна ёй даслалі ўжо гатовы дыск...

Меламаны могуць не хваляваццa: гэта навінка "для службовага карыстання". Ніякага мастацкага афармлення, толькі пералік нумароў і час гучання кожнага з 18-ці.

Усе праекты, у тым ліку фестывальныя, рэалізуюцца па чарзе краінамі, чые радыёстанцыі прадстаўленыя ў кіраўніцтве фолк-групы. Новы дыск рыхтавалі чэхі, якія звярнуліся да іншаземных калег з прапановай прыслаць велікодны спеў (аўтэнтычны, у традыцыйнай аранжыроўцы або ў сучаснай манеры) разам з віншаваннем на нацыянальнай мове. З атрыманых матэрыялаў была скампанавана святочная праграма, у якой прадстаўлены Чэхія (двойчы), Фінляндыя, Эстонія, Харватыя, Іспанія, Украіна, Славакія, Расія, Летува, Польшча, Балгарыя. Шостым нумарам — Беларусь з валачобнай песняй "Борам, борам" у выкананні гурта "Палац" і велікодным віншаваннем ад валачобнікаў.

Дыск са святочнай праграмай 18 сакавіка "круцілі" праз спадарожнік на ўвесь свет, каб кожная зацікаўленая радыёстанцыя магла скарыстаць каларытны музычны падарунак у сваіх тэматычных трансляцыях. Беларускі слухач мае магчымасць пазнаёміцца з гэтай міжнароднай вяшчальнай праграмай 31 сакавіка. У велікодную нядзелю, што адзначаецца паводле заходняга календара, а 21-й гадзіне на першым канале Нацыянальнага радыё будзе, як заўсёды, "Музычны атлас", аўтарская праграма Таццяны Песнякевіч, дзе яна прадставіць і незвычайны CD. Аповед пра новы фальклорны праект Еўрарадыё прадоўжыцца і ў наступных выпусках "Музычнага атласа" — аж да праваслаўнага Вялікадня.

**Н. К.**

# Фанфары маладосці

Дырыжоры "сваёй гадоўлі" на Беларусі раз-пораз пра сябе абвяшчаюць. Ды вось толькі годная артыстычная кар'ера на радзіме ў іх зазвычай не складваецца: ці мусяць адступаць перад залётнымі прэтэндэнтамі на "майку (дакладней, фрак) лідэра", ці самі ўрэшце з'язджаюць за мяжу...

Можа, нарэшце, сітуацыя пачне мяняцца? Прынамсі, гэтак думаеш, прыглядаючыся да кожнай новай постаці ў нешматлікай дырыжорскай грамадзе. Гэтак думаеш, назіраючы, як энергічна і радасна ступае па сваёй сцяжыне ў мастацтва Віктар Бабарыкін.

Яго імя на старонках "ЛіМа" з'яўляецца не ўпершыню. Калісьці адзначалі яркі ўпэўнены дэбют маладога дырыжора, студэнта з бігбэндам Беларускай акадэміі музыкі. Летась — паспяховае выступленне пад яго кіраўніцтвам духавога аркестра Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі. Чарговая нагода павітаць Віктара Бабарыкіна — яго нядаўні дэбют у Вялікай зале сталічнай філармоніі за пультам знанага аркестра "Фанфары Беларусі".

Так, гэты духавы аркестр ведаюць і на радзіме, і за мяжой. Амаль восем гадоў таму яго стварыў у Беларускай акадэміі музыкі, а неўзабаве і "раскруціў" прафесар Аркадзь Берын. На пачатку сёлетняга навучальнага года калектыў узначаліў новы мастацкі кіраўнік — спрактыкаваны музыкант, знаны маэстра Барыс Чудакоў. Студэнт В. Бабарыкін, які быў салістам гэтага аркестра (грае на барытоне), атрымаў запрашэнне папрацаваць у якасці дырыжора...

Канцэрт, падрыхтаваны і праведзены пад яго кіраўніцтвам у філармоніі, упрыгожыў чараду разнастайных імпрэзаў, якія ладкуюцца ў Мінску насустрач 70-годдзю Беларускай акадэміі музыкі. Духавы аркестр заўсёды настройвае на ўрачыстасць. Выступленне "Фанфараў Беларусі" сталася святам сонечнага маладога мастацтва. Без малога дзве гадзіны доўжылася праграма! Дарэчы, рэпертуар, нягледзячы на праблемы з партытурамі для духавога аркестра, — складаны і разнастайны: пераложэнні музыкі эпохі барока, вялікага Баха, Чайкоўскага, Шастаковіча, сучасныя арыгінальныя творы кампазітараў ЗША, Нідэрландаў...

Пяцікурснік В. Бабарыкін, як і яго настаўнік, старэйшы калега Б. Чудакоў, робіць аранжыроўкі для "Фанфараў Беларусі". Аднак выдае на тое, што ў маладога маэстра хопіць энергіі і на супрацоўніцтва з беларускімі кампазітарамі, якіх ён здолее натхніць на сумесную творчасць.

**С. Б.**

ДАТЫ

# Кампазітар, настаўнік...

У Беларускай акадэміі музыкі — свята. Сюды прыйшлі сябры, калегі, вучні выдатнага беларускага кампазітара, педагога Эдзі Тырманд павіншаваць яе з 85-годдзем. Цеплыня, шчырасць панавалі ў зале, калі ўсхваляваная, прыгожая, маладжавая з'явілася юбілярка ў суправаджэнні калег-кампазітараў. Прамоўцы гаварылі пра яе высокі прафесіяналізм, эрудыцыю, мудрасць, сілу волі. Пра тое, што яна стварыла школу выкладання канцэртмайстарскага майстэрства, якой захапляліся многія спецыялісты, у тым ліку і замежныя. Прыгадвалася і тое, што ў Э. Тырманд — тры дыпломы вышэйшай музычнай адукацыі.

Яна атрымала дыплом харавіка ў Варшаўскай кансерваторыі, і толькі год заставаўся да заканчэння фартэпіяннага факультэта, калі пачалася Другая сусветная вайна. Пазней у Беларускай кансерваторыі Э. Тырманд працягвала піяністычную адукацыю па класе Рыгора Шаршэўскага, а па кампазіцыі была сярод першых вучняў Анатоля Багатырова.

На вечарыне адзначалі такія высакародныя якасці юбіляркі, як мужнасць, вытрымка, упэўненасць, чалавечая годнасць і... гумар. Кожны, хто размаўляе з ёю, міжволі адзначае яе цікавыя жарты, дасціпныя анекдоты. Гумарам прасякнуты амаль усе музычныя творы Эдзі Тырманд. Ён дапамагае жыць, трымацца, перамагаць цяжкасці.

Ад Беларускай акадэміі музыкі вялікую ўдзячнасць Эдзі Майсееўне выказалі Вадзім Яканюк, Барыс Спектар, Соф'я Окалава. (Яна зазначыла, што Э. Тырманд мела яшчэ шмат сіл, жаданне працаваць, але, на жаль, пачала дрэнна бачыць і звольнілася.) Шчырае дзякуй юбілярцы, свайму педагогу, выказаў дырэктар Рэспубліканскага каледжа пры БАМ Уладзімір Кузьменка. Падзяка гучала і ад кампазітараў Ігара Лучанка, Дзмітрыя Смольскага.

Канцэрт з твораў Эдзі Тырманд прадоўжыў святочную размову. Гралі сольна, акампанавалі спевакам вучні яе вучняў: Маша Палазкова, Андрэй Мануйлік. Тонкі, каларытны гумар кампазітара перадалі спявачка Людміла Златава і нядаўна партыі фартэпіяна студэнтка БАМ Юлія Баранава ў вакальных творах на вершы англійскіх паэтаў. Непаўторны стыль знайшлі артыст Віктар Скорабагатаў і малады выкладчыца фартэпіяна Таццяна Лазуткіна, якія выканалі вакальныя творы Эдзі Тырманд на вершы Роберта Бёрнса. Бліскуча прагучалі рамансы на вершы Максіма Танка: спяваў Дзмітрый Марозаў, а партыю фартэпіяна выканаў студэнт Акадэміі музыкі Сяргей Смірноў.

Кампазітар старанна падбірала для сваіх твораў блізкія ёй па духу вершы. Спачатку ў гэтым ёй дапамагаў Рыгор Шырма, які прапанаваў для напісання хораў вершы Паўлюка Труса, Максіма Багдановіча, Якуба Коласа. А яна лічыць найбольш удалым свой вакальны цыкл "Зямное прыцягненне" на вершы Максіма Танка, які падараваў Э. Тырманд свой трохтомнік з усхваляваным надпісам. Новае жыццё ў яе музычным увасабленні атрымалі і многія вершы Еўдакіі Лось, Эдзі Агняцвет, з якімі яна сябравала.



Шкада, што на гэтым свяце не прагучала ніводнага яскравага інструментальнага камернага твора, якіх у Э. Тырманд нямала.

На вечары было шмат вучняў Эдзі Тырманд, якія працуюць у акадэміі музыкі, Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі, гімназіі-каледжы пры Беларускай акадэміі музыкі. І сёння яны па-ранейшаму адносяцца да сваёй настаўніцы з вялікай павагай, пяшчотай, любоўю, атрымліваючы яе мудрыя парады, вучацца жыць, тварыць. А яна па-мацярынску хвалюецца, клапоціцца пра іх — як і належыць Педагогу.

**Вера КРОЗ**

*Фота А. МАЦЮША*

АБСЯГІ

*ГОМЕЛЬШЧЫНА...*

## Майстарклас Дрынеўскага

У Гомельскім каледжы імя Н. Скалоўскага, які ўзначальвае заслужаны дзеяч культуры Беларусі Э. Кірыленка, прайшла чарговая VIII Пеўчая акадэмія пад назовам "Музычная культура на рубяжы другога і трэцяга тысячагоддзяў". У мерапрыемстве прынялі ўдзел Народная харавая капэла абласнога Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці ўпраўлення адукацыі аблвыканкама (мастацкі кіраўнік і дырыжор, заслужаны работнік культуры Беларусі У. Курылін), народны акадэмічны хор і народны хор каледжа, узорныя дзіцячыя калектывы "Жаваранačкі" і "Рапсодыя" гомельскіх сярэдніх школ №№ 58 і 30. Прыехаў на Пеўчую акадэмію і народны артыст Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, прафесар Міхаіл Дрынеўскі. У майстаркласе знанага артыста займаліся ўдзельнікі народнага хору каледжа.

## Экспануюцца батыкі

Мастачка з Гомеля Таццяна Отчык плённа працуе ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яна — аўтар шматлікіх медалёў. А ў экспазіцыі, якая надаўна адкрылася ў абласным цэнтры народнай творчасці, прадстаўлены дзесяткі батыкаў, выкананых Таццянай Отчык.

## Пацвярджаюць званне

У Палацы культуры адкрытага акцыянернага таварыства "Гомельшкло" існуе самадзейны цыркавы калектыў, які з поспехам выступае на манежах Беларусі і Заходняй Еўропы. Званне народнага носяць і вакальны ансамбль "Спадчына", і тутэйшы духавы аркестр. Кожнае выступленне названых калектываў пераконвае, што высокае званне яны носяць нездарма.

*БРЭСТЧЫНА...*

## Казкі з роднай вёскі

У Пружанскай раённай дзіцячай бібліятэцы прайшла прэзентацыя кнігі казак "Чыстага ўсё нячыстае баіцца: чарадзейныя народныя казкі". Іх сабраў і апрацаваў паэт, сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Алесь Каско. Разам з ім у прэзентацыі бралі ўдзел літаратары з Пружаншчыны Мікола Антаноўскі і Мікола Папека.

Казкі, якія ўвайшлі ў кнігу, Алесь Каско запісваў у роднай вёсцы Чудзін Ганцавіцкага раёна, у іншых вёсках Берасцейшчыны. Дарэчы, у Чудзіне яшчэ ў XIX — пачатку XX стагоддзя вядомы фальклярыст і этнограф А. Сержпутоўскі запісаў вельмі шмат казак. Творы, сабраныя ў новую кнігу, захоўваюць дух традыцыйных народных казак, спалучаючы ў сабе мудрасць і прастату...

У выкананні ўдзельнікаў гуртка маляванай лялькі, што працуе пры Пружанскай дзіцячай бібліятэцы, удзельнікі прэзентацыі пагледзелі казку "Іванка", якой пачынаецца кніга. А цётка Наста, якая завітала ў бібліятэку, расказала казку "Чорны, калматы ды рагаты..." Складальнік кнігі Алесь Каско паведаміў чытачам, як запісваў казкі, шмат цікавага расказаў пра жанчын-казачніц, з якімі сустракаўся.

**НАШ КАР.**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА...*

## Мір ушаноўваў паэта

Старажытны Мір урачыста адзначыў паўвекавы юбілей настаўніцкай і творчай дзейнасці паэта Міколы Мамонькі. Павіншаваць вядомага педагога і літаратара сабраліся сябры са сталіцы, шматлікія мясцовыя жыхары. На вечарыне ў Доме культуры выступілі Алесь Рыбак і Эрнест Ялугін, літаратуразнаўца Уладзімір Мамонька... Гучалі не толькі вершы юбіляра, а і напісаныя на яго словы песні.

## Радзіма Цёткі багатая на творцаў

Прэзентацыя гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць", якая нядаўна выйшла ў свет, адбылася ў Шчучыне. На сустрэчу прыйшлі настаўнікі, работнікі культуры, краязнаўцы... Разважаючы пра кнігу, яны адзначалі, што радзіма слыннай Цёткі — Пашкевічанкі багатая на творцаў. Называліся выбітныя асобы мінулага — браты Казімір і Гіяцынт Альхімовічы, Вікенцій Дмахоўскі, Мацей Догель і інш. На гэтай зямлі нарадзіліся і пачыналі свой творчы шлях пісьменнікі Алена Руцкая, Валянцін Блакіт, Іван Пяшко, Мікалай Ількевіч, мастакі Ян Кузьміцкі, Станіслаў Кічко, папулярны польскі спявак Чэслаў Немен, скульптар Генрых Шумскі, архітэктар Эдуард Марцінчык... Праз Шчучыншчыну прайшлі шляхі-пуцявіны Лідзіі Арабей, Івана Лепешава, Марыі Шаўчонак.

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

*ВІЦЕБШЧЫНА...*

## Чытала вершы, спявала песні

У Віцебскім літаратурным музеі адбылася творчая вечарына паэткі Леры Сом, якая расказала пра свой творчы шлях, чытала вершы. Асаблівую цікавасць у слухачоў, пераважна студэнтаў Віцебскага дзяржуніверсітэта (яго ў свой час скончыла госця з Полацка), выклікалі яе песні ў аўтарскім выкананні. Прыхільнікі таленту паэткі змаглі набыць апошнюю кніжку Л. Сом "Там, на небе".

У вечарыне ўзялі ўдзел віцебскія літаратары А. Канапелька, Д. Сіманові, С. Рублеўскі.

## Другі зборнік

У Полацкім цэнтры рамёстваў і нацыянальных культур адбылася прэзентацыя другога паэтычнага зборніка Надзеі Салодкай "На ўзлёце малітвы". Паэтку шчыра віталі і віншавалі з выхадам кніжкі калегі па пяры Ірына Жарнасек, Вінцэсь Мудроў, Алесь Аркуш, Змітрок Куніцкі, Віктар Леаненя і іншыя. Своеасаблівым аздабленнем пранікнёнага і цёплага мерапрыемства з'явіліся песні Ізмаіла Капланава на словы Н. Салодкай. Добрым падарункам сталі для паэткі словы віншавання рэдактара выдання Леры Сом, прадстаўніка гарадскога аддзела культуры Таццяны Мажэйкі, святара і вернікаў мясцовай грэка-каталіцкай грамады, сяброў юнацтва. Быў агучаны факс ад намесніка старшыні СБП Навума Гальпяровіча. Прэзентацыю вяла дырэктар цэнтра Марыя Бабко.

**Ф. С.**

## "ЛіМ" даў пуцёўку

На працягу ўсяго свайго сямідзесяцігадовага шляху газета "Літаратура і мастацтва" ўдзяляла вялікую ўвагу выхаванню маладых літаратараў — паэтаў, празаікаў, крытыкаў. Не адзін з іх друкаваў свае першыя творы на яе старонках. Газета па сутнасці была і ёсць Парнасам, на які яшчэ ў гады сваёй маладосці ўзышлі многія таленавітыя пісьменнікі. Хачу пацвердзіць гэта канкрэтнымі прыкладамі.

Помніцца пачатак 1957 года. Мяне перавялі на працу са "Звязды" ў газету "Літаратура і мастацтва", якую тады рэдагаваў Мікола Ткачоў. Я стаў загадваць у "ЛіМе" аддзелам літаратуры. Са мной разам у гэтым аддзеле працавалі Станіслаў Шушкевіч, які вярнуўся з далёкіх краёў пасля рэабілітацыі, Сцяпан Александровіч, Навум Кіслік, Уладзімір Бойка, зусім малады яшчэ Анатоль Клышка. Пазней праходзіў практыку выпускнік БДУ Міхась Стральцоў. Гэта быў час "хрушчоўскай адлігі", і ў нас усталявалася, можна сказаць, поўная дэмакратыя.

Кожны ў аддзеле займаўся сваёй справай, але галоўныя пытанні вырашалі калектыўна. Навуму Кісліку было даручана адказваць на ўсе лісты, якія паступалі ў рэдакцыю. Не цураўся гэтай справы і сам загадчык аддзела, які ўжо меў багаты вопыт журналіста, працуючы раней у вайсковым друку.

І вось аднойчы прыйшоў ліст з Гродна. Я першым разгарнуў яго, прачытаў напісаны ад рукі на лістку з вучнёўскага сшытка акуратным почыркам верш "Роднае слова" і перадаў Кісліку, сказаў пры гэтым: "Пачытай, Навум Зіноўевіч, які цудоўны верш, трэба падрыхтаваць у наступны нумар". Навум Кіслік пачытаў, потым пакруціў у руках канверт і спытаў нібы ў самога сябе: "А хто ж гэта напісаў — жанчына ці мужчына? Пад вершам стаіць подпіс Д. Бічэль. Невядомае імя. Так нельга друкаваць..."

Сапраўды, друкаваць адразу верш, не ведаючы поўнага імя аўтара, нельга. Мы адразу ж напісалі ў Гродна на імя Д. Бічэль ліст з просьбай, каб аўтар верша падрабней напісаў (напісала) пра сябе. Праз некалькі дзён атрымліваем адказ. Аўтарам верша "Роднае слова" аказалася Данута Бічэль — студэнтка Гродзенскага педагагічнага інстытута імя Янкі Купалы, родам з вёскі Біскупцы Лідскага раёна. Год нараджэння 1938. Вучыцца на другім курсе інстытута.

Верш адразу ж быў накіраваны ў набор і з'явіўся на старонках газеты ў наступным нумары. Было гэта вясной 1961 года.

Цяпер, дарагі чытач, разгарні трэці том "Анталогіі беларускай паэзіі", які выходзіў у свет яшчэ ў 1961-ым годзе, ці адкрый адпаведную старонку ў выбраных творах Дануты Бічэль-Загнетавай і перачытай гэты верш. Ён стаў хрэстаматыйным. Яго дзеці вывучаюць у школах, у дзіцячых садках. Вось некалькі радкоў з яго, каб не прыводзіць цалкам:

*Над казачным дубам,*
*над Нёманам сінім*
*Хлапец прызнаваўся*
*ў каханні дзяўчыне.*
*І рэхам той шэпт адгукаўся між гаю:*
*— Кахаю, кахаю...*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Шапталі яго сенажаць і дуброва,*
*Мільёнамі казана, тысячам нова*
*Цудоўнае, дзіўнае вечнае слова*
*— Кахаю, кахаю...*

*Кахаю, люблю... Беларускаму краю*
*Бясконца я слова*
*"люблю" паўтараю.*
*У шчырых размовах,*
*калоссем жытнёвым,*
*Вялікім будовам у шчырай размове*
*Кажу гэта слова на матчынай мове.*

Кожны чытач можа зрабіць сам высновы: словы тут не патрабуюць тлумачэння. Можна сказаць толькі адно. Пасля гэтага свайго першага верша, надрукаванага ў газеце "Літаратура і мастацтва", Данута Бічэль стала вядомым на ўсю рэспубліку паэтам, аўтарам многіх цудоўных кніг, якія ўзбагацілі сваімі вобразамі і думкамі нашу багатую на таленты беларускую паэзію.

Трэба падкрэсліць яшчэ раз, што газета, а цяпер штотыднёвік "Літаратура і мастацтва" заўсёды дапамагала і дапамагае маладым аўтарам знайсці сваю дарогу ў літаратуру. На 83-ім годзе свайго жыцця, як былы супрацоўнік, пастаянны падпісчык, актыўны чытач і аўтар, я мог бы пацвердзіць гэта яшчэ многімі прыкладамі. На старонках "ЛіМа" былі надрукаваны першыя вершы Янкі Сіпакова, Юрася Свіркі, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Яўгена Крупенькі і многіх іншых таленавітых паэтаў. А зусім нядаўна з'явіліся творы маладых аўтараў Янкі Лайкова, Маргарыты Прохар і іншых, якія гавораць самі пра сябе — наша літаратура папаўняецца ўсё новымі і новымі талентамі. У гэтым вялікая заслуга і "ЛіМа".

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**

*2 сакавіка 2002 г.*

# Спачатку было слова...

***З 88-га па 91-ы гэты часопіс называўся "Беларуская мова і літаратура ў школе", цяпер — "Роднае слова". З цягам часу змянілася не толькі назва, павялічыўся аб'ём і фармат штомесячнага выдання (ва ўмовах сённяшняга газетна-часопіснага заняпаду — з'ява надзвычайная!). Зараз у "Роднага слова" не толькі навукова-метадычны накірунак дзейнасці. Чытаюць яго не адны педагогі. Рэдакцыйны калектыў актыўна працуе на ніве адраджэння нацыянальна-краёвага духу, адраджэння беларускасці. І ўвесь гэты час "Слова" рэдагуе Міхась ШАВЫРКІН.***

**— Міхась Мікалаевіч, як сталі галоўным рэдактарам?**

— У 70-ым закончыў філфак БДУ, вучыўся ў партыйнай школе, працаваў у сістэме кнігадруку, выкладаў беларускую мову ў Політэхнічнай акадэміі, чатыры гады ўзначальваў аддзел часопіса "Народная асвета". З гэтага аддзела, па сутнасці, і ўтварылася "Роднае слова". Як галоўны рэдактар добра разумеў тады, якія спатрэбяцца намаганні, каб насельнікі Беларусі адчулі сваю прыналежнасць да прасторы, дзе нарадзіліся, дзе працуюць, запамінай! Калі і ўздзейнічаем на яго духоўнасць, то вельмі апасродкавана. Не на розум трэба выходзіць — на пачуцці! І сці да культуры, духоўнасці праз адукацыю. Нават фізіку з матэматыкай можна і трэба выкладаць, кранаючы не толькі розум, але й душу вучня, працуючы на ўмацаванне яго нацыянальнай свядомасці. А што ўжо казаць пра літаратуру, мову?!

І справа тут не столькі ў методыках выкладання. Дасканалае веданне, скажам, мовазнаўства — рэч для школьніка неабходная. Але яна ніколі не заменіць асэнсавалі ўзаемасувязь асабістага лёсу і гісторыі, культуры нашай краіны. Гэтая праблема застаецца першачарговай не толькі для школы, педагагічнага выдання, але і для ўсяго нашага грамадства...

Дык вось, пачалі арганізоўваць матэрыялы, рыхтаваць іх да друку. У 87-ым на старонках "ЛіМа" выступілі з анонсам свайго выдання, дзе выклалі яго найпершую праграму — дзейсная дапамога настаўнікам у выхаванні гарманічна развітой асобы, здольнай успрымаць сябе творчай адзінкай як у беларускім грамадстве, так і ў Сусвеце.

Пасля дзесяцігадовага юбілею "Роднага слова", на працягу 96—97-га гадоў на 40 працэнтаў павялічылі аб'ём часопіса. Дапамог заснавальнік — Міністэрства адукацыі і навукі. Натуральна, не ўбаку застаўся і Дзяржкамдрук. Але і сённяшні аб'ём для нас малаваты. "Роднае слова" — патрэбна, яго — чытаюць! Наклад перавысіў 8 тысяч асобнікаў. Вельмі шмат індывідуальных падпісчыкаў. І гэта не толькі педагогі... Летась акупляльнасць выдання за кошт падпіскі склала 52 працэнты. Паверце, гэта вельмі важкі паказчык.

**— Ведаю і веру, што наконт падпісчыкаў любое беларускамоўнае выданне пазайздросціць вам самай чорнай зайздрасцю. Лімаўцы Віктар Шніп і Людміла Рублеўская выпісваюць "Слова" ўжо 15 гадоў, выпісалі і сёлета. Да добрага хутка прывыкаеш... Вы кім сябе зараз у большай ступені адчуваеце: настаўнікам ці журналістам?**

— І настаўнікам, і журналістам, і асветнікам у нейкай ступені... Усім нам цяпер вельмі не хапае супольнай творчай дзейнасці. Культура, навука, школа знаходзяцца як бы самі па сабе. Таму і вынікі працы іншым разам не надта плённыя. Школа на сёння займаецца ў большай ступені разумовым, інтэлектуальным развіццём вучняў. Увесь навучальны працэс іншым разам абмяжоўваецца адзіным патрабаваннем да школьніка: вучы і дасканалага ведання мовы... Мы ж зараз з вамі не гутарым з дапамогай прэфіксаў і суфіксаў! Яднае іншае — родная мова, як аснова беларускай душы, як аснова стварэння гэткай здаровай радасці ад магчымасці разумець і быць зразумелым. І з гэтай нагоды вельмі проста патлумачыць неабходнасць тэрміновага пераводу выкладання школьных дысцыплін на беларускую мову. Я прыхільнік прыродацэнтрысцкай тэорыі: мы толькі частка сусвету, і сонца заходзіць ці ўзыходзіць зусім не для таго, каб пацешыць наша самалюбства. А таму перакананы, што чалавек — частка той прасторы, дзе жыве, думае, кахае і марыць. Беларус — частка Беларусі. І ён не можа не адчуваць дыскамфорту (нават не ўсведамляючы гэтага іншым разам) ад таго, што думае, разважае і марыць па-руску. І робіць гэта, як ні шкада, на святой зямлі са старажытнай непаўторнай і гераічнай гісторыяй. Грэх страшэнны! Відаць, усе нашы беды менавіта з-за гэтага!.. Мы зараз (у які ўжо раз!) вучымся ганарыцца Беларуссю, вучымся самаўсведамленню ў кантэксце з нацыянальнай культурай, вучымся духоўнасці. Спадзяюся, у гэтай высакароднай справе ёсць унёсак і "Роднага слова".

**— Калі шукаў вашу рэдакцыю і калі ўрэшце зачапіўся вокам за шыльду над уваходам, то не вельмі здзівіўся выяве нацыянальнай сімволікі. Усё натуральна для часопіса з такой назвай і з такой наскрозь нацыянальна-адраджэнскай праграмай дзеяння...**

— І паверце, у гэтым няма ніякага выкліку. Усё, сапраўды, вельмі натуральна. Прынамсі, хаця б у межах рэдакцыйнай прасторы імкнёмся звесці ў адно і дзяржаўнае, і нацыянальнае. Асобных чыноўнікаў гэта калі і не раздражнее, дык здзіўляе вельмі. Ніяк не дацямлю: чаму?! На Беларусі для чалавечага жыцця хапае ўсяго: і ўмелых рук, і нястомных розумаў. Не стае толькі "дробязі": супольнасці ды суладнасці. Ніяк не можам выбраць паміж раздраем і талакой.

**— Асноўны чытач "Роднага слова" — настаўнік. Які ён на сёння, Міхась Мікалаевіч? Запалоханы, затурканы, баязлівы (а таму — хлуслівы), фанатычны, самаахвярны?**

— Калі гэта сапраўдны настаўнік, то ён у першую чаргу — асоба! Якая нястомна творыць: вучыць і вучыцца. І робіць гэта не за грошы (настаўніцкая стаўка — 60 тысяч у сярэднім), не дзеля шчырага вучнёўскага "дзякуй" праз гады (якога іншым разам проста не дачакаешся), а па прычыне звычайнай патрэбы творчай душы: атрымліваць задавальненне ад працы. Натуральна, гэта цяжка, калі штодня даводзіцца даваць па 6-7 урокаў (інакш на пражыццё не зарабіць!), а таму пра зацкаванасць, пра стомленасць настаўніцкую можна сцвярджаць з поўнай адказнасцю. Не ўсе вытрымліваюць. Але той, хто вытрымаў, застаецца ў школе, служыць гэтай справе да канца і з поўнай аддачай. Нікога не баіцца, нікому не хлусіць.

**— З боку "Роднага слова" падтрымка настаўнікам адчувальная?**

— Вельмі спадзяюся на гэта. Прынамсі, рэдакцыя робіць усё магчымае. Але бываюць і прэтэнзіі да нас. У час заўсёдных сустрэч настаўнікі просяць: дапамажыце правесці ўрок, дайце ў часопісе метадычныя распрацоўкі! Заўжды адказваю: вы ж прафесіяналы высокага кшталту, маеце вышэйшую адукацыю, цудоўна ведаеце, як і ўрок правесці, як і методыку выкладання захаваць. І "Роднае слова" — часопіс не столькі метадалагічны, не прыкладны, а хутчэй — **светапоглядны**. Гэта вельмі важна! Разам з педагогамі мы павінны даць вучню глебу, аснову для выпрацоўкі свайго светаўспрымання, свайго разумення беларускіх з'яў і падзей.

(Заканчэнне на стар 15)

ТРЫ ГРОШЫ

# Беларусь без TV?

Ніякага БТ-2 не будзе. Такую выснову можна зрабіць, узгадваючы асобу Рыгора Кісяля, прызначанага надзвычай старшынёй праўлення віртуальнага пакуль тэлеканала і зыходзячы з яго ных каментароў прэсе.

Па-першае, не будзе (гледзячы па ўсім) самой абрэвіятуры з двух літар і лічбы. Ва ўсялякім выпадку сам Рыгор Аляксеевіч у размове з карэспандэнтам "БДГ" паабяцаў падарунак за ўдала прыдуманую назву новага "канала".

Па-другое, самога канала таксама не будзе. Не лічыць жа такім трансляцыю расійскага ОРТ з заменай іх інфармацыйных блокаў уласнымі. З лёгкім перабольшаннем такі падыход можна параўнаць з існуючай ужо практыкай перакрыцця расійскай рэкламы ролікамі айчыннай вытворчасці. Калі на НТВ замест прапаганды мыла "Камэй" запрашаюць наведаць канцэрты Іны Афанасьевай, ніхто пра стварэнне беларускага рэкламнага канала не кажа.

Па-трэцяе, ужо не можа быць гаворкі ўласна пра існаванне новага БЕЛАРУСКАГА тэлебачання, паколькі пераважная большасць праграм застанецца "оэртэшнымі". Значыць, культурная, духоўная асіміляцыя працягнецца. Нават калі ўласныя праграмы стануць цалкам беларускамоўнымі, перавага "великого и могучего" застанецца безумоўнай. Нам абяцаюць, што з цягам часу колькасць праграм айчыннай вытворчасці павялічыцца. Але дазвольце запытацца: які эфірны час плануецца ім аддаць, за кошт якіх расійскіх праграм? Прафесіянальнасць маскоўскіх тэлевізійшчыкаў сягнула на такую вышыню, што беларусам, "неразбэшчаным" якасным прадуктам, будзе даволі балюча развітацца з КВН, "Временами", "Последним героем" і г.д. Таму, як нам падаецца, трэба дзейнічаць больш рашуча (нельга быць крыху цяжарнай!): ці то адключаць ОРТ цалкам (як гэта зроблена на Украіне), ці то не чапаць зусім.

Улічваючы вышэйсказанае, не толькі змрочна чакаеш першага траўня (запланаванага дня пачатка працы БТ-2), але і не можаш зразумець што адбываецца з БТ-1. Ледзь не кожны дзень прыносіць навіну пра звальненне ці сыход чарговага прафесіянала, іншыя непрыемныя "навацыі". Так днямі не быў прадоўжаны кантракт з Уладзімірам Шпітальнікавым, чалавекам, які 34 гады аддаў нашаму ТБ, курыраваў вяшчанне пра спорт. "Дакарамболіўся" дарэшты генпрадзюсер Ягор Хрусталёў. Яшчэ раней пакінулі роднае тэлебачанне Зінаіда Бандарэнка, Уладзімір Даўжэнка. (Тут спіс можна працягваць і менш "засвечанымі" асобамі.) "Твар" БТ Ларыса Грынько вымушана задавольвацца выключна дзённымі выпускамі навінаў і падпрацоўваць у якасці карэспандэнта. Значная частка калектыву знаходзіцца ў "адстойніку", які здзекліва названы "перспектыўным вяшчаннем".

Не будзем тут згадваць пра падставы, што абумовілі гэтыя "навацыі", але ж тэндэнцыя, як бачым, красамоўная. БТ яшчэ больш правінцыялізуецца, губляе прафесіяналаў. Яно фактычна ператварылася ў эксперыментальную студыю. Не, я не кажу, што ранейшае БТ мне падабалася. Як і большасць нашых грамадзянаў, я вымушаны значную частку сваёй увагі аддаваць расійскаму TV. Але я заўжды мог назваць якіх пяць праграм і аўтараў роднага БТ. Зараз жа ў мяне, як і ў іншых беларусаў, такую магчымасць амаль адабралі. Міжволі хочацца прапанаваць вярнуць хаця б прапагандысцкія "Рэзананс" і "Тайныя спружыны палітыкі", бо не засталося нічога.

**Вадзім ДОЎНАР**

# З’езды настаўнікаў: нумарацыя аднолькавая, падыходы розныя

У ПЕРШЫЯ дні лістапада мінулага года ў Мінску праходзіў II з’езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь. На справе ж гэта быў зусім не другі па ліку з’езд, бо такія сустрэчы настаўнікаў ладзіліся і ў даваеннай Беларусі. Што і належала б паказаць у нумарацыі мінулага лістападаўскага педагагічнага форуму. Невыпадкова адмовілася ад гэтага кіраўніцтва народнай адукацыі Беларусі, бо першыя даваенныя з’езды настаўнікаў, як неба ад зямлі, адрозніваюцца ад сучасных паводле свайго стаўлення да нацыянальнага фактару ў арганізацыі навучальна-выхаваўчага працэсу. Таму і адпадае ўсялякая патрэба ў захаванні пераемнасці пры правядзенні падобнага роду мерапрыемстваў з педагагічнай інтэлігенцыяй.

Звернемся да гісторыі. Першы ўсебеларускі з’езд адкрыўся 8 студзеня 1925 года, г.зн. менш як праз паўгода пасля прынятай 15 ліпеня 1924 года Цэнтральным выканаўчым камітэтам БССР пастановы “Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі”. Гістарычнае значэнне дадзенай пастановы заключалася ў тым, што ёю быў нададзены дзяржаўны характар палітыцы беларусізацыі. З улікам гэтага праходзіў і Першы ўсебеларускі з’езд настаўнікаў. Да яго была прыкута пільная ўвага і афіцыйных колаў, і грамадскасці, бо ўсе яны шчыра жадалі, каб народная асвета найхутчэй павярнулася тварам да беларускай нацыянальнай ідэі. У лісце ЦК КП(б)Б “Усім настаўнікам БССР” была выказана цвёрдая ўпэўненасць, што яны стануць самымі надзейнымі памочнікамі “КП(б)Б у справе далейшага правядзення беларусізацыі”, г.зн. будуць дапамагаць партыі ствараць беларускую нацыянальную школу.

З асноўным дакладам на з’ездзе “Нацыянальная палітыка і асвета” (вось бы такі даклад сёння пачуць ад нашых дзяржаўных дзеячаў і кіраўнікоў народнай асветы!) выступіў слынны навуковец, аўтар папулярных прац па гісторыі Беларусі, наркам асветы БССР Усевалад Ігнатоўскі. Маладой нацыянальнай сістэме адукацыі Беларусі вельмі пашчасціла, што на чале яе ў той пераломны час стаяла такая неардынарная асоба. Ігнатоўскі на з’ездзе казаў: “Пераход культурна-асветных устаноў на матчыну мову выкладання вымагае ад усіх працаўнікоў асветы, каб яны добра ведалі тую мову, на якой павінна працаваць яго ўстанова, асабліва гэта датычыцца тых культасветных устаноў, якія ў гэтым годзе перайшлі на беларускую мову выкладання. Выходзячы з гэтага, Усебеларускі з’езд працаўнікоў асветы прапануе ўсім настаўнікам усіх школ, дзе першы год навучання перайшоў на беларускую мову, да 1 кастрычніка г.г. навучыцца ёй дасканальна. НКА па сканчэнні гэтага тэрміну праверыць веданне беларускай мовы паасобнымі працаўнікамі.

...Тэрміновае вывучэнне беларускай мовы і патрэбнасць у падняцці кваліфікацыі настаўнікаў наогул ускладае на НКА адпаведны абавязак дапамагчы настаўніцтву ў яго імкненні да пашырэння сваіх ведаў. Улетку гэтага года неабходна арганізаваць кароткатэрміновыя педагагічныя курсы ды разаслаць па ўсіх школах па камплекту літаратуры як педагагічнай, так і па вывучэнні беларускай мовы”.

Шкада, што нічога падобнага пра беларускую мову нельга было прачытаць у матэрыялах Першага з’езда настаўнікаў Рэспублікі Беларусь, які праходзіў 3—5 кастрычніка 1997 года ў Мінску. Моцны фактар у працы гэтага форуму павінен быў бы заняць пануючае месца, бо пасля праведзенага ў маі 1995 года рэферэндуму ў дашкольных установах, агульнаадукацыйных школах, вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах беларускую мову спрэс сталі замяняць рускай. Такое становішча не выклікала аніякай занепакоенасці ў запрошаных на з’езд. Ніхто з іх, у тым ліку і сам міністр адукацыі РБ Васіль Стражаў, не карыстаўся беларускай мовай. Падобна было, што гэтае мерапрыемства адбывалася дзесьці на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі, але толькі не на этнічных землях беларускага народа. Рэдакцыі “Настаўніцкай газеты” і часопіса “Народная асвета” паступілі няправільна: змясціўшы на сваіх старонках даклад В. Стражава па-беларуску, не зазначылі, што ён перакладзены з рускай мовы. З прычыны гэтага ў чытачоў складзецца памылковае ўяўленне пра моўную сітуацыю на з’ездзе.

У прэзідыума праз дасланую запіску прасіў дазволу выйсці за трыбуну старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны паэт Генадзь Бураўкін. Але, відаць, каб не парушыць рускамоўнага аднагалосся з’езда, палічылі за лепшае адмовіць вядомаму паэту ў слове.

Дзеля сцвярджэння нацыянальнага фактару ў навучальна-выхаваўчым працэсе вялікае значэнне меў праведзены 5—9 мая 1926 года ў Мінску Другі ўсебеларускі з’езд настаўнікаў. У яго працы ўдзельнічала 285 дэлегатаў, з іх мужчын — 200, жанчын — 85. Беларусаў было 227 чалавек (79,8%), яўрэяў — 33 (11,5%), палякаў — 9 (3,1%), рускіх — 8 (2,8%) і іншых — 8 (2,8%). Яшчэ за колькі дзён да адкрыцця з’езда перыядычны друк, і найперш рэдакцыя тагачаснай беларускамоўнай газеты “Савецкая Беларусь”, знаёміў грамадскасць з праблемамі, што належала грунтоўна абмеркаваць настаўніцтву. Аўтар артыкула “Аб зьезьдзе настаўніцтва БССР” (“Савецкая Беларусь”, 5 мая 1926 г.) А. Крыніцкі (у газеце не пазначана, што ён тады з’яўляўся генеральным сакратаром ЦК КП(б)Б) узяў на сябе адказнасць яшчэ да адкрыцця з’езда ацаніць яго як “факт вялікага палітычнага значэньня. Зьезд будзе новаю вялікаю вехаю на тым шляху, па якім ідзе настаўніцтва, — вялізарная частка ўсяе інтэлігенцыі...” Аўтар даводзіў чытачам, што ў поўнай суладнасці з дзяржаўнай палітыкай беларусізацыі “настаўніцтва на зьезьдзе павінна абмеркаваць, як у далейшым ажыцьцяўляць задачы нацыянальнае палітыкі ў культурным будаўніцтве БССР. Уперадзе стаіць яшчэ вялікая праца ў галіне вывучэньня беларускае мовы і пераводу працы ўстаноў і арганізацый на беларускую мову (такой ударнай задачы ўрад сучаснай “суверэннай” Рэспублікі Беларусь амаль за ўсе восем апошніх гадоў яшчэ ні разу не ставіў!). Час шырэй разгарнуць гэту працу. Неабходна пашырыць вывучэньне ўсіх галін беларусазнаўства... Таксама неабходна ўзмацніць працу па нацыянальнай палітыцы сярод нацыянальных меншасьцяў”.

У гэтым жа нумары газеты “Савецкая Беларусь” уся яе пятая старонка была запоўнена публікацыямі, прысвечанымі маючаму адбыцца Другому ўсебеларускаму з’езду настаўнікаў (падобнага і блізка не назіралася напярэдадні адкрыцця форумаў педагагічнай грамадскасці ў кастрычніку 1997 і лістападзе 2001гг.). Прывітаў з’езд старшыня Цэнтральнага выканаўчага Камітэта БССР Аляксандр Чарвякоў артыкулам “Савецкая ўлада і сельскі настаўнік”.

Другі ўсебеларускі з’езд настаўнікаў распачаў сваю працу 5 мая а 6-й гадзіне ў Мінску ў памяшканні Беларускага дзяржаўнага тэатра, з прычыны чаго давялося адмяніць прызначаны на гэты дзень спектакль. У газеце “Савецкая Беларусь” было дадзена такое кароткае паведамленне пра гэтую падзею: “Ад імя ЦК КПБ зьезд вітаў генеральны сакратар т. Крыніцкі (ураджэнец г. Цвер. — **Е. А., Л. Л.**), які выклікаў гучныя воплескі сваёй прамовай на прыгожай беларускай мове (во прыклад для пераймання нашымі сучаснымі першымі дзяржаўнымі асобамі!)... Апрача таго зьезд віталі: старшыня СНК БССР т. Адамовіч, народны камісар асьветы т. Баліцкі, ад ЦК ЛКСМБ т. Бараньнікаў, ад ЦСПСБ т. Конанаў, удзельнікі першага настаўніцкага зьезда (у 1906 годзе ў Мікалаеўшчыне. — **Е. А., Л. Л.**) т. Сянькевіч і інш. Пасьля ўрачыстай часткі вечарам для ўдзельнікаў быў наладжаны спектакль”.

З прывітання наркама асветы БССР А. Баліцкага з’езду варты асаблівай увагі яго апошнія словы: “..Усю нашу працу мы павінны дапасаваць да нацыянальных умоў, усе формы нашай работы трэба дапасаваць да тых ці іншых нацыянальнасцяў” (у нас жа ў апошнія гады ўсе формы працы скіраваны толькі на ўмацаванне рускага фактару ў сферы народнай адукацыі Беларусі).

Вялікую зацікаўленасць у прысутных на форуме выклікала прывітанне аднаго з арганізатараў і ўдзельніка нелегальнага настаўніцкага з’езда ў Мікалаеўшчыне Мінскай губерні (ліпень 1906 г.) Аляксандра Сянкевіча (расстраляны паводле рашэння Ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у чэрвені 1938 г.). Акрамя яго, у зале прысутнічалі і іншыя ўдзельнікі таго з’езда: Якуб Колас, Лапцэвіч, Фёдараў (пазней будзе добра вядомым у рэспубліцы пісьменнікам пад літаратурным псеўданімам Янка Маўр), Самахвалаў, Уладзімір Міцкевіч. Параўноўваючы ўмовы працы з’ездаў настаўнікаў у Мікалаеўшчыне і другога — у Мінску, прамоўца адзначыў: “У той час, калі вас склікалі сюды, і ўлада і камуністычная партыя, вітаюць вас, мы, удзельнікі настаўніцкага зьезду пры царызме, мусілі ўцякаць і ад генэралаў і губэрнатара Курлова, каб там правесці працу зьезду. Але і там нас палавілі.

Стражнікі і паліцэйскія абкружылі нас і некаторых з нашых таварышоў паслалі туды, куды, як кажуць, Макар і цялят ня гоніць.

Вы ўсе памятаеце, як былі абмежаваны правы настаўніка ў сваёй школе. За самы маленькі крок, які рабіў настаўнік у асьвеце, ён трапляў у ссылку.

Нашы ўдзельнікі з’езду — Якуб Колас і В. (правільна “У.”. — **Е. А., Л. Л.**) Міцкевіч былі зьвяволены і адпакутвалі ў турмах па некалькі гадоў”.

Па завядзёнцы таго часу першым з дакладам на Другім усебеларускім з’ездзе настаўнікаў выступіла галоўная дзяржаўная асоба ў рэспубліцы, старшыня ЦВК БССР Аляксандр Чарвякоў. Яго даклад меў агульны характар і насіў назву “Міжнароднае і ўнутранае становішча СССР” і таму не мог выклікаць дыскусіі па праблемах народнай адукацыі. Затое глыбока быў прааналізаваны яе стан у дакладзе наркама асветы БССР А. Баліцкага. Спыніўшыся на ролі нацыянальнага фактару ў дадзенай сферы духоўнага жыцця, дакладчык адзначыў, што гэтую палітыку неабходна праводзіць у адпаведнасці з планавымі ўстаноўкамі. Ён не ўтаіў ад прысутных на з’ездзе, што “прыкмячаецца некаторы нездаровы ўхіл у працы паасобных культурна-асьветных працаўнікоў, напр.: фармальныя і нават варожыя адносіны да правядзеньня нацыянальнай палітыкі, нязнаньне беларускай мовы, шавіністычныя ўхілы. З боку кіраўніцтва прыкмячаюцца няправільныя зьявы адміністраваньня і інш. Усе гэтыя хібы трэба выправіць і **весьці далейшы плянавы перавод культурна-асьветных устаноў на нацыянальныя формы працы**” (падкрэслена намі. — **Е. А., Л. Л.**). Заўважым, калі ў 1979 г. выйшаў у свет першы том зборніка дакументаў і матэрыялаў “Народное образование в БССР”, дык яго складальнікі апусцілі гэтыя словы з даклада А. Баліцкага, і зразумела чаму: у 70-я гады ўжо ніхто не звяртаў увагі на нацыянальны фактар у працы культурна-асветных устаноў.

Удзельнікі Другога ўсебеларускага настаўніцкага з’езда паслалі адозву настаўніцтву Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, Польшчы і Латвіі, выказаўшы шчырую занепакоенасць, што там беларусам і ўкраінцам “польская буржуазія і паны не даюць магчымасьці мецць сваю нацыянальную школу, разьвіваць сваю нацыянальную культуру; гвалтоўна зачыняюцца нацыянальныя школы (ах які недарэчна, што з падобнымі фактамі даводзіцца сутыкацца беларусам і сёння ў сваёй уласнай “суверэннай” дзяржаве!), настаўнікам нацменшасьцяў не даецца магчымасьць працаваць на роднай мове...”

Пра ўсё, аб чым гаварылася на гэтым настаўніцкім форуме, паведамляла сваім чытачам і рускамоўная ў той час газета “Звезда” (орган ЦК КП(б)Б), прычым усе асноўныя даклады змяшчала на беларускай мове, паколькі ёю карысталіся выступоўцы.

Нічога падобнага, што гаварылі дзяржаўныя і партыйныя дзеячы, педагогі пра нацыянальны накірунак у дзейнасці школы на Усебеларускім з’ездзе настаўнікаў у 1926 годзе, і з дапамогаю лупы не знойдзеш у матэрыялах прайшоўшага адносна нядаўна II з’езда настаўнікаў Рэспублікі Беларусь. У падыходах да ацэнкі ролі нацыянальнага фактару ў народнай адукацыі гэты форум істотна ўступае нават свайму папярэдніку — I з’езду настаўнікаў Рэспублікі Беларусь, які праходзіў у лістападзе 1997 года. Што асноўныя два даклады на II з’ездзе, як і на папярэднім, прагучалі на рускай мове (праўда, прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ў сваім дакладзе ўсё ж ужыў пару дзесяткаў беларускіх слоў у рускамоўных сказах), мы ўжо прызвычаіліся: ва ўсіх сферах афіцыйнага жыцця на беларускую мову нібыта кімсьці накладзена табу, таму яна ўжо восьмы год не гучыць з вуснаў дзяржаўных дзеячаў. А вось што ў дакладзе міністра народнай адукацыі РБ Пятра Брыгадзіна аніякай спробы не зроблена, каб разабрацца з прычынамі амаль поўнага выцяснення дзяржаўнай мовы краіны з навучальна-выхаваўчага працэсу, — гэта зусім незразумела. Яго папярэднік на дадзенай пасадзе Васіль Стражаў не абышоў гэтай лёсавызначальнай для Бацькаўшчыны праблемы на першым з’ездзе настаўнікаў. Праўда, аналіз ёй даваўся неаб’ектыўны. Рабілася спроба апраўдаць поўны абвал беларускай мовы ў агульнаадукацыйнай школе. Маўляў, “праграма пашырэння выкарыстання беларускай мовы навучання ў пачатку 90-х гадоў аказалася, па сутнасці, непадрыхтаванай. Не былі створаны неабходныя перадумовы яе ажыццяўлення, не ўлічвалася ступень псіхалагічнай падрыхтаванасці грамадства”. Такое тлумачэнне зусім не новае. Яно амаль цалкам паўтарыла тыя аргументы, якімі некалі першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў абгрунтоўваў нязгоду партыі надаць статус дзяржаўнай беларускай мове.

Выходзячы з усяго вышэйназванага нам трэба рашуча адмовіцца ад афіцыйнага ўжывання дэфініцыі “нацыянальная адукацыя”. Сёння мы, як і раней, развіваем ужо даўно ўкаранёную ў нас звычайную, тыповую рускамоўную адукацыю з уключэннем у яе ў якасці самастойных толькі двух-трох беларусазнаўчых прадметаў. Такую адукацыю аніяк нельга называць беларускай, нацыянальнай. Да яе не падрыхтаваныя і самі арганізатары народнай адукацыі, і прафесарска-выкладчыцкі склад, і настаўнікі, бо абсалютная большасць з іх не валодае, не карыстаецца па службе беларускай мовай.

Між тым перавод рускамоўнай народнай адукацыі Беларусі на нацыянальны грунт у незлічоную колькасць разоў больш важней за ўкараненне ў ёй камп’ютэрызацыі, дзесяцібальнай ацэнкі ведаў, дванаццацігадовага навучання ў сярэдняй агульнаадукацыйнай школе і г.д., бо ўсё гэта не ў стане сфармаваць у нашага маладога пакалення здаровую беларускую нацыянальную самасвядомасць.

II з’езд настаўнікаў Рэспублікі Беларусь — гэта ўжо гісторыя. Зараз, думаем, трэба было б рыхтавацца да правядзення яшчэ больш значнага па сваёй важнасці форуму прагрэсіўнай педагагічнай інтэлігенцыі з мэтай вызначэння шляхоў пабудовы па-сапраўднаму нацыянальнай сістэмы народнай адукацыі.

**Ефрасіння АНДРЭЕВА,**
**доктар педагагічных навук, прафесар**
**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук, прафесар**

## “Старасвецкія міфы...”




**Кніга прозы Людміды Рублеўскай “Старасвецкія міфы горада Б”, што выйшла ў Маладзечне ў “Бібліятэчцы часопіса “Куфэрак Віленшчыны”, надзіва арыгінальная і адметная. Аўтар, а Л. Рублеўская, як вядома, упэўнена пачувае сябе і ў паэзіі, драматургіі, дзіцячай літаратуры, прапануе чытацкай увазе цыкл апавяданняў, што па сваім змесце ўяўляюць спалучэнне антычных міфаў і рэалій сённяшняга дня, характэрных для жыцця старасвецкага беларускага мястэчка. У анатацыі гэты сінтэз пазначаны так: “літаратурная гульня — і псіхалагічная проза”. Што да псіхалагізму, дык ён і сапраўды ў творах вельмі моцны, а наконт “гульні”, дык можна сказаць, што калі гэта, будзем прытрымлівацца вызначэння анатацыі, гульня дарослых, дык яна абавязкова высвеціць актуальныя і значныя праблемы, тым больш, што выбраны Л. Рублеўскай горад Б” — тыповы. У ім ёсць усё, акрамя б... Адсутнічае бутафорыя, інакш кажучы, лёгка дапасоўваецца класічнае выказванне аднаго з тых класікаў, якіх сёння не прынята згадваць, бо яны... марксісты: тыповыя характары ў тыповых абставінах, а не штосьці далёкае ад рэальнасці. Хоць калі быць праўдзівым да канца, у апавяданні “Арфей і Эўрыдыка” гэтае самае б... (бутафорыя) прысутнічае, бо “горад Б” меў уласны тэатр”, але не меў сталай трупы. Здарылася так, што адна з юных жыхарак “горада Б” Ксеня Чычаловіч збегла з заезджымі артыстамі і ўжо як Клелія Лебедзева праз некаторы час завітала з гастролямі дамоў, дзе ўвесь гэты час гараваў па ёй пакінуты жаніх Стась Гарбузак. Пра тое, што адбывалася далей, і можна даведацца з апавядання, якое сваім зместам вельмі блізкае да аднаго старажытнагрэчаскага міфа, што сведчыць пра наступнае: “Каханая жонка вялікага спевака Арфея, чароўная німфа Эўрыдыка, загінула ад укусу змяі. Арфей спусціўся ў царства памерлых душ і моцай свайго мастацтва пераканаў Аіда, уладара гэтага царства, адпусціць Эўрыдыку на зямлю. Але на зваротным шляху, ля самага выйсця, Арфей азірнуўся, каб паглядзець, ці ідзе за ім Эўрыдыка, што рабіць яму было забаронена. І Эўрыдыка назаўсёды знікла”. Назаўсёды знікла і каханая няшчаснага Гарбузака... Іншыя апавяданні таксама** ***ўспрымаюцца свайго роду ілюстрацыяй*** **да пэўнага міфа, пераказ якога змяшчаецца як своеасаблівы эпіграф да твора. Гісторыі гэтыя розныя па сваім характары: ёсць жартаўлівыя, сустракаюцца больш сур’ёзныя, а апавяданне “Семела і Юпітэр” — драматычнае ў сваёй сутнасці, а адштурхоўвалася, пішучы яго, Л. Рублеўская ад такога міфа: “Аднойчы Юпітэр пакахаў зямную прыгажуню Семелу. Па намове раўнівай жонкі Юпітэра Юноны Семела папрасіла, каб каханы паказаўся ва ўсім бляску боскай славы. Невыноснае для зямных вачэй відовішча забіла Семелу”. Зразумела, варыянт апавядання іншы, але выснова, да якой прыходзіш, пазнаёміўшыся з творам, яшчэ раз прымушае задумацца, а ці любая праўда неабходна ў сваёй аголенай сутнасці. Паненка Аўгіння, якая недабачвала, любіла свайго мужа Міхася Кудыку, ласкава называючы яго Мішэлем, са спагадай ставіліся да яе ў горадзе. Але так доўжылася да той пары, пакуль заезджы афтальмолаг не зрабіў Аўгінні аперацыю. Яна стала відушчай і... пазбавілася шчасця, бо даведалася, што сама брыдкая, а любы яе Мішэль трымае ў сябе на тумбачцы здымак “незнаёмай нахабнай брунеткі”, будучы ўпэўненым, што жонка пра гэта не здагадваецца... Над жыццём-быццём прымушаюць задумацца і іншыя апавяданні. Яны сведчаць пра тое, што Л. Рублеўская, мадэлюючы тую ці іншую “антычную” сітуацыю, нязменна дасягае поспеху, таму што тое, пра што расказваецца, жыццёвае. Гэта можна сказаць і пра апавяданне “Артэміда і Актэон”, якое, як на маю думку, у гэтым цыкле лепшае і напісана проста па-майстэрску. У ролі ж “цнатлівай багіні Артэміды” выступае панна Канстанцыя, якая з-за сваёй пераборлівасці засталася ў дзеўках. Тым не менш марыць напаткаць свайго суджанага. Завяршэнне твора нельга ўспрымаць без усмешкі: “А панна Канстанцыя круцілася на пуховай пярыне і паўтарала ў салодкай драме: “Гэта несумненна быў афіцэр...” Толькі тут смех з гаркавінкай, бо мы ведаем, што ніякі не афіцэр плюхаўся ў возеры, а мястэчковы алкаголік Хведзька Чараціла. Кніга “Старасвецкія міфы”...” адметная яшчэ і тым, што яна цалкам аўтарская. У тым сэнсе, што Л. Рублеўская сама намалявала вокладку і выканала афармленне зборніка, пры гэтым таксама засведчыўшы пра сваё майстэрства. Хочацца сказаць і добрае слова М. Казлоўскаму, В. Герновічу, цэнтру “Супольнасць” (Мінск), якія паспрыялі выданню кнігі.**

**Алег ГУЛІЦКІ**

КРЫТЫКА

# Добры дзень, Франц Іванавіч!

**У** анатацыі да кнігі “Удог” віцебскага празаіка Франца Сіўко сцвярджаецца, што аўтар у творах апошніх гадоў даследуе асаблівасці нацыянальнага менталітэту на пераломным этапе станаўлення незалежнай беларускай дзяржавы, адлюстроўвае вострыя сацыяльныя і маральна-этычныя праблемы сучаснасці. Цалкам пагаджаючыся з падобнымі высновамі, хочацца паасобныя з іх адзначыць больш рэльефна, узмацніць і *пашырыць, каб больш адэкватна спазнаць* сутнасць паняцця *сучаснасць* і звязаных з ім праблем пераемнасці і традыцыйнасці. Бо сама кніга дае для гэтага вельмі грунтоўныя падставы.

Паасобныя творы Ф.Сіўко апошніх гадоў, і асабліва аповесць “Удог”, што была надрукавана ў часопісе “Полымя”, адразу згадваюць класічную традыцыю, звязаную ў першую чаргу са слаўным Янам Баршчэўскім. І не толькі таму, што Ф.Сіўко зямляк вялікага рамантыка, што таксама даволі істотна. Але ў першую чаргу асэнсаваннем надзвычай складаных, *анталагічных праблем бытавання беларусаў* на гэтай зямлі, што, на жаль, актуальна для нас як у сярэдзіне XIX, так і на пачатку XXI стагоддзя.

Галоўная з іх — часовасць нацыі ў свеце, якая не ўспрымаецца гаспадаром гэтай быццам бы для яе Богам дадзенай зямлі. Прычым як самімі беларусамі, так і больш-менш нахабнымі і не вельмі суседзямі. Першым гэтую амбівалентнасць існавання народа заўважыў якраз Ян Баршчэўскі, які ўжо ў тыя часы не ўспрымаў новых парадкаў, што разбураюць традыцыйныя ўстоі, адвяргаў свет, дзе ўсё прадаецца і купляецца, а таму адлюстроўваў рэальнае ў алегарычна-міфалагічным аспекце. Праўда, як дзіця свайго часу, як чалавек надзвычай веруючы, даволі часта разбураныя могілкі, апаганеныя святыні, разрабаваныя курганы, дзе пахаваны героі мінуўшчыны, над якімі галосіць Плачка, Ян Баршчэўскі ў “Шляхціцы Завальні” паказваў як месца бітвы Бога з сатаною. Стрымліваючым пачаткам для чалавека павінен быў быць страх Божы, г.зн. *такое благоговение к беспредельной святости Божей и такое опасение оскорбить господа нарушением Его святой веры, что невольно развивает в христианине особенную бдительность, смирение. Христианин, исполненный страха Божия... почитает гнев Отца небесного величайшым для себя несчастьем, а потому старается, что бы не прогневать Его (Библейская энциклопедия).* Нешта падобнае надзвычай уласціва светаразуменню Ф.Сіўко. Прычым гэта характэрна не толькі для апавядання «Грэх», надрукаваным у часопісе «Наша вера», № 3 за 2000, дзе паказана рэалістычна і праўдзіва спроба смяротна хворага чалавека здзейсніць самагубства недалёка ад роднай хаты. І толькі здавалася б звычайны збег абставін ратуе яго ад страшэннай памылкі, бо ён разумее сілу болю, які прынясе сваім учынкам самым дарагім на свеце людзям. Кожны павінен плаціць за свой несамавіты ўчынак.

У якасці пакарання для мясцовых жыхароў Ян Баршчэўскі выбірае загадкавых прыхадней *асташоў* з *шырокімі барадамі, круглымі тварамі і вялікімі скуранымі фартухамі.* Паганыя людзі, звязаныя з чарнакніжнікам, “ *пасылаюць пад лёд злога* і той заганяе рыбу ў нерат, дык яны спустошылі ў нас азёры, навучылі нашу моладзь бязбожным учынкам, чарам, бессаромным песням”. Менавіта яны і ўяўляюць галоўную небяспеку: “Даўней і пра тых асташоў нікаму і не снілася, а цяпер хутка забяруць у нас зямлю і ваду, так што і нам трэба ўжо ўцякаці куды далей”.

Рэальна — фантастычную прыпавесць у духу свайго вялікага папярэдніка (зразумела, з адпаведнымі часавымі зменамі) аб гібельнасці і незваротнасці дадзенага працэсу і паведаў Франц Сіўко ў аповесці “Удог”. Як і ў класічных узорах жанру (успомнім смакоўніцу, вінаград, пшаніцу ў прытчах Хрыста, дрэва, падгрызваемае чорнай і белай мышамі ў прытчы пра адзінарога), галоўным стане сімвалічнае напаўлегендарнае дрэва *удог.* Дарэмна эрудыты ад батанікі гартаюць слоўнікі і энцыклапедыі — падобнай расліны ў прыродзе не існуе, гэта проста мастацкая знаходка аўтара, які стварыў складаную метафару чужынца (незразумелага, падазронага, магутнага, каварнага, хітрага etc ), прывіўка якога на чужародную глебу спалучаецца з выключнымі трагічнымі і крывавымі падзеямі. Нельга перасадзіць на чужую зямлю дрэва ў ягонай поўнай сіле, бо яно змарнее і счэзне. Іншая справа — маленькае семя, сіла якога непамерная. У прыпавесці нумар два Хрыстос апавядае пра добрае семя і плевелы. Якраз нячысцік, выкарыстаўшы сон чалавечы, і засявае апошнія сярод першых. Вораг чалавечы апякуецца гэтым невядома да якога роду належнага дрэва, клапоціцца пра яго, абараняе ў хвіліны небяспекі. Невыпадкова працэс ягонага апекавання ў нечым нагадвае працэс выседжвання цмока з яйка, знесенага чорным пеўнем. Ды і сам ён (працэс) суправаджаецца, як і ў “Шляхціцы”, анамальнымі з’явамі. Так, з’яўленне нячыстай сілы ў навелістыцы Яна Баршчэўскага заўсёды звязана з навальніцай, маланкай, землятрусам. Пад гром з яснага неба (*На небе не было ні хмурынкі, а гром не сціхаў увесь надвячорак. Сіплаваты, як кашаль сухотніка, ён нечакана ўсчынаўся дзесьці ўдалечыні, пракаціўшыся па наваколлі, павольна патанаў у знямелых ад пярэпалаху гаях і дубровах. Кожны раз зямля страхавіта ўздрыгвала пад ягонымі ўдарамі, а аблепленыя птушкамі дрэвы глуха рыпелі патрывожаным голлем. Раптам невядома адкуль узлятаў вецер, разбэрсваючы леташні сухастой на балацінах, з гучным самотным свістам кружыў над імшарамі. Спалохаўшыся яго, птушкі сягалі па-над дрэвамі, павісеўшы ў паветры хвілінудругую, як толькі ён аціхаў, роем кляліся назад, на голыя з зімы камлі. Зрэдку грымоцце суправаджала бліскавіца. Тады гром неяк глушэў, рабіўся кароткі і рэзкі, бы пошчак пугі)* высаджвае Пелагея расток невядомага дрэва-чужаніцы, якое павінна завалодаць гэтай зямлёй. Гэта значыць, перад намі дзве роўнавялікія падзеі — з’яўленне цмока і высадка саджанца. Невыпадковы і той факт, што як са з’яўленнем першага ў доме Карпы пачынаюцца з’явы полтэргейства, так і са з’яўленнем Пелагеі ўзнікаюць спарадычныя і масавыя (прычым мэтанакіраваныя) псіхозы (рэальныя і не вельмі). У кнізе Ф.Сіўко гэта, у першую чаргу, чатырнаццаць моцных дзецюкоў-паўстанцаў, якія адурманена знішчаюць усю раслiннасць навокал. Зразумела, што засталася толькі адзіная расліна — нядаўна пасаджаны ўдог.

Дзеянне сваёй прыпавесці Ф.Сіўко пачынае з 1831 года, г.зн. за дзесяць гадоў да з’яўлення першых тамоў “Шляхціца”. Па сутнасці мы можам прасачыць паралельны духоўны ўплыў філасофскай ідэі Яна Баршчэўскага і фізічнай дыверсіі, учыненай Пелагеяй. Таму заканамерна, што першая частка прыпавесці Ф.Сіўко ўспрымаецца своеасаблівым пралогам, а галоўнае дзеянне разгортваецца ўжо не ў сярэдзіне XIX ст., як у “Шляхціцу”, а ў другой палове XX стагоддзя, аднак у той жа самай мясцовасці, у прыкладна падобных умовах, у той самай сям’і. Для прыпавесці з яе выразнай умоўнасцю гэта надзвычай заканамерна. Тым болей, што разам са злым духам Нікітронам, які з’яўляецца з язычка агню (*Полымя свечкі ўсё вышэй і вышэй падымаецца ўгору, і тут з яго ўзнікае высокая лёгкая і гнуткая чалавечая постаць, саскоквае на падлогу і вось ужо стаў перад ім чалавек у пунсовай вопратцы*), нячыстая сіла пералятае ў нашыя дні і авалодвае адным з герояў. Злы дух пранікае не толькі ў свядомасць, але і ў душу Ромкі, якую той раскрыў сусвету неўсвядомленым забойствам бацькі. Гэтае ззянне *(сияние)* застаецца з хлопчыкам назаўсёды. Падобнай творчай знаходкі ў беларускай мастацкай традыцыі яшчэ не было. Аўтар смела, нават падчас рызыкоўна ўводзіць у тэкст твора (заўсёды вылучаючы нават графічна) матыў хваробы, калі нібы фурыі да ахвяры, у свядомасць хлопца пранікае вобраз бацькі ў самых фантастычных праявах ягонай гібелі. (Па сутнасці можна нават скласці невялічкі асобны калейдаскоп трызненняў). І як сакральная хвароба таго ж Цэзара, прадвызначае ягоную долю і ў рэшце рэшт спапяляе (фізічна і метафарычна) няшчаснага. Зразумела, згаданае *сияние* адразу выклікае пэўныя асацыяцыі са славутым раманам *караля жахаў* Стывена Кінга. Аднак тут мы маем справу хутчэй з супадзеннем эвалюцыі, развіцця вобразнасці ў двух выключна непадобных пісьменнікаў. Бо ў амерыканскага літаратара забойчае ззянне накіравана вонкі ад асобы, на іншых; у беларускага, у поўнай адпаведнасці з менталітэтам, на сябе, на самазнішчэнне і самаразбурэнне. Гераіня Кінга можа помсціць свету, Ромка толькі сабе, бо непераадольны жах прымушае юнака баяцца нават сонца.

Ды і рэальная нечысць у Ф.Сіўко не менш жахлівая, чым фантастычная ў Яна Баршчэўскага. Якраз яна, хоць і амаль віртуальна, прыбірае ксяндза, што з’яўляецца ўвасабленнем добрага пачатку, люта ненавідзіць усё мясцовае — *з іх недарэчнымі імёнамі і звычкамі. Гэтае нельга, тое — нявольна,* знішчае ўсё акаляючае. І не менш паспяхова вядзе *тутэйшых* на знішчэнне ўжо адноўленага палаца — сімвала гістарычнай памяці. Ф.Сіўко ў прыпавесці — песіміст у вызначэнні гістарычнай перспектывы беларусаў, у творы ён падчас нават фаталіст. Ці не таму невыпадковы і фінал твора, у якім вёску Дуброўка перайменавалі ў Падкрайну. Ды яшчэ падкузьмілі: “*Скажы дзякуй цётка, што свісцёлкай не назвалі. Усе вы тут свістуны сваё прасвісталі*”.

Як бы баючыся, што ягоная галоўная думка застанецца незразуметай, ці нават не давяраючы ў нечым чытачу, які зможа толькі ўбачыць знешні антураж падзей, а не іх вялікі філасофскі пачатак у кніжным варыянце пісьменнік даў працяг прыпавесці “Удог”, назваўшы яго “Голас”, дзе захацеў паказаць мажлівы працяг гэтага незвычайнага здарэння. Што ж, падобная справа традыцыйная для беларускай прозы, дзе амаль кожны аўтар пасля з’яўлення таленавітага рамана спрабуе адразу працягнуць яго, ператварыўшы задуму ў эпапею (прыкладаў гэтаму — легіён, прычым празаікі даволі часта забываліся на народнае: кожная наступная жонка ў два разы горшая за папярэднюю). Уяўная глыбакадумная іронія зусім не тычыцца творчага эксперыменту Ф.Сіўко, які выключную ўвагу ўдзяляе (не ў прыклад нашай звыклай традыцыі) паэтыцы сваіх твораў. Гэта і дзяленне звыклага мастацкага тэксту на пралогі і фіналы, паказ адной і той жа падзеі з пункту гледжання ўсіх яе ўдзельнікаў і сведкаў, каментары зусім, здавалася б, пабочных асобаў, з’яўленне фантастычных вобразаў, што цалкам апраўдвае ўмяшанне іх, нягледзячы на пратэст аўтара, у ход развіцця падзей і далейшы лёс ягоных герояў. Хаця аповесць Ф.Сіўко мы называем з поўным правам прыпавесцю, аўтар свядома пазбаўляецца ад прамых маралізатарскіх высноў і прымітыўных павучанняў. Як і ў класічнай прытчы, ён стварае мажлівасць чытачу зрабіць уласную выснову ў поўнай адпаведнасці з уласным жыццёвым і мастацкім вопытам.

Эксперыментатарам пісьменнік застаецца ў аповесці “Мяціна дачка”. Да якой ён выбраў у якасці эпіграфа словы з Евангелля ад Мацвея: “*Будзе ж слова ваша : “але, але”, “не, не”, а што апроч таго, тое д’яблава”,* дзе адзіная скразная падзея — пошукі маладой дзяўчынай слядоў сваёй маці. Аўтар сцвярджае, што няма адзінага для ўсіх успрымання рэчаіснасці, гэтага свету, людзей і іх учынкаў у ім, усе знаходзяцца ў пастаянным пошуку (усведамляючы тое ці не) самога сябе ( падчас у *прамым значэнні слова*), сваіх продкаў, сябе ў людзях, бо нават абыякавая прырода не заўсёды з’яўляецца такой на самай справе. Таму невядома, хто ж такі кіруе

---

*Ф. СІЎКО. “Удог”. Аповесці, апавяданні. Мінск, Беллітфонд, 2001.*

## "Калінавыя гроны"



Працягваючы добрую традыцыю адкрыцця новых імёнаў, рэдакцыя часопіса "Маладосць" чарговую, кастрычніцкую кніжку сваёй "Бібліятэкі..." за мінулы год аддала Алесю Стадубу. "Калінавыя гроны" — так назваў ён свой паэтычны зборнік. Родам А. Стадуб з вёскі Юшавічы Нясвіжскага раёна, скончыў Яраслаўскі педагагічны інстытут імя К. Д. Ушынскага (Расія). Працуе намеснікам старшыні таварыства "Веды" ў Лідзе. Не толькі з вершамі, а і з апавяданнямі выступаў у "Настаўніцкай газеце", "Чырвонай змене", "ЛіМе", "Гродзенскай праўдзе", часопісах "Беларусь", "Родная прырода" і іншых перыядычных выданнях. Паэзія А. Стадуба пазбаўлена вобразнай эквілібрыстыкі. Яго вершы традыцыйныя па форме, у іх прысутнічае само жыццё ў яго паўсядзённым праяўленні. Лірычны герой А. Стадуба з тых нашых сучаснікаў, для якіх паняцці Радзімы, прывязанасці да родных мясцін — святыя. Ён настойліва шукае адказы на тыя пытанні, што не могуць не ўзнікаць у чалавека, які неабыякавы да таго, што дзеецца вакол яго: хто ты на гэтай зямлі, якія твае памкненні, наколькі яны адпавядаюць высокім маральным патрабаванням? Разам з тым герой гэты вельмі сціплы. Дый, па сутнасці, таго патрабуе і ад іншых. Ва ўсякім разе падобныя думкі выклікае верш "Астравок", якім кніга адкрываецца:

*На фоне вечнасці —*
*астравок.*
*У гібелі ў вачах —*
*жывучы.*
*Я на плаве — у лёсу —*
*паплавок,*
*У спадчыны —*
*надзейны вучань.*
*Пад сцягам Бацькаўшчыны*
*сох і мок,*
*Здаваў на вернасць ёй*
*экзамен.*
*...І кожны з нас*
*да часу астравок*
*Між астраўкоў такіх,*
*як самі.*

Ён перакананы, што "ў гэтым свеце ўсё адносна; // Шанцунак, гонар і спакой". Бадай, з падобнага ўсведамлення з'яўляецца і пэўны песімізм, як у вершы "Будуць": "Аджыву і не вярнуся // Ні дадому, ні да кніг. // Будуць Колі і Ганусі // Па слядах хадзіць маіх", дзе заключныя радкі выклікаюць пэўную нязгоду: "Будуць праўнукі і ўнукі // Думаць толькі не пра нас". Але, думаецца, гэта і добра, што паэт як бы запрашае да дыскусіі, значыць — яго творы абуджаюць думку, а не толькі штосьці канстатуюць. Удаюцца А. Стадубу вершы, у якіх ён прывязаны да канкрэтных рэалій асабістага жыцця. Найперш гэта тычыцца верша "Некалі было", зместам звязанага з тым куткам, дзе нарадзіўся:

*Некалі было Гародзей,*
*А сягоння — Гарадзея.*
*Я амаль адсюль што родам,*
*Тут надзею абнадзейваў.*

*У фантазію ўлюбёны,*
*Падбадзёрваў смела смеласць.*
*Рушыў я адсюль зялёным*
*У нязведаны свет белы.*

І вось вяртанне: радасць ад сустрэчы і так добра знаёмы ў падобных выпадках кожнаму сум з-за незваротнасці пражытых гадоў:

*Завядзе дарога ў вёску —*
*У прыполік маладосці, —*
*Для адных тут свой у дошку,*
*Для бязвусых — нейкі, хтосьці.*

*Чарка скліча на прыемнасць,*
*Пагамонім, пабядуем.*
*Пазайздросціць узаемнасць,*
*Узаемнасць пашкадуе.*

Жадаючы А. Стадубу далейшых поспехаў, хацелася б засцерагчы яго ад радкоў, якія просяцца ў пародыю: "У цябе самога ёсць чало, // Цяжарнае на веды".

**Алег ГУЛІЦКІ**

ПАЭЗІЯ

# З паэзіяй па жыцці

## Алесю ЕМЯЛЬЯНАВУ — 50

***Нарадзіўся Алесь Емяльянаў 20 сакавіка 1952 года ў вёсцы Забалацце Чавускага раёна. Вучыўся ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, служыў у арміі, працаваў электрыкам у Мінску, а ў 1977 годзе перайшоў на журналісцкую працу, з'яўляўся супрацоўнікам газет "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі". У 1983 годзе завочна скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, літаратурным кансультантам Саюза пісьменнікаў. Першы верш апублікаваў у 1968 годзе на старонках часопіса "Бярозка". У А. Емяльянава выйшлі кнігі паэзіі "Ранак поўніцца жыццём", "Нязжатае поле", "На падкове дарог".***

***З поўднем веку, шаноўны Аляксандр Міхайлавіч! Доўгіх год жыцця вам і новых твораў!***

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ



## Вопыт дзён

●

*Мы жывём у розных вымярэннях:*
*я ў сваім,*
*а ты ў сваім жывеш...*
*Ды яднае чуйнае карэнне —*
*верш.*

●

*Размінуліся...*
*Развінуліся*
*шлях-дарогі на два бакі.*
*Схамянуліся,*
*азірнуліся,*
*за плячыма ці наш блакіт?*

*Заманулася,*
*Прыгарнулася*
*сум-туга да нямых грудзей.*
*Страпянулася*
*сэрца чуласцю:*
*дзе святая надзея, дзе?*

*Спатыкаемся,*
*павяртаемся*
*па ўспамінах у нікуды?*
*Сустракаемся,*
*моўчкі каемся*
*за не нашы грахі-сляды?*

*Песня петая,*
*недапетая*
*заблукала ў цянётах слоў.*
*Нам не злятаваць,*
*пералетаваць,*
*прычакаць пералёт-буслоў?*

*Саламянае,*
*заламанае*
*двуадзінства плыве ў гады.*
*Болем званыя,*
*закаханыя*
*ці ўскіпяць па вясне сады?*

### Скарына

*У жылах пульсуе бунтоўная кроў.*
*Хоць нелюдзь стараўся, ды нас не абрынуў.*
*Ідзе праз вякі ў шыхтах змагароў*
*мой прашчур — Скарына.*

*З зямлі ў небасінь уздымаецца птах,*
*ды зноў да зямлі павяртаюцца крылы.*
*Гуляла дубіна па чорных хрыбтах, —*
*жывіла надзея Скарыны.*

*Гад ведае норы і сховы свае,*
*звер ведае лес, а шчупак азярыну.*
*Да родных крыніцаў гукае, заве*
*няскораны голас Скарыны.*

*І мы павяртаемся ў людскасць бацькоў:*
*час еднасці рокатна грымнуў!*
*Палынным ды родным вядзе бальшаком*
*няздрадны Скарына.*

*Крывіцкая ў жылах бунтуецца кроў,*
*душа ўваскрасае айчынна.*
*Не! Не застылі сляды ваяроў:*
*народ мой — Скарына.*

●

*Продак сеяў жыта і косці,*
*Продак ведаў волі цану...*
*Чарнеюць крыжы на пагосце.*
*Калоссе нішчымнае жну.*

*Мярцвее зямля. Камянее*
*Ад жыта ці ад касцей?*
*На песню забыліся жнеі,*
*Ды і знайдзі тых жней!*

*Як жа так, Божухна, Божа!*
*Калоссе тугое ў снапах?*
*Хто нашу песню стрыножыў?..*
*Дрэмле пацук на снапах.*

*Палынна галосіць далеч,*
*Зорны у свеце сверб.*
*Халоднай асвечвае сталлю*
*Месяц, як згублены серп.*

*Дзе заблукалі душы,*
*Дзе іх гняздоўе, дзе?*
*Жыта і косці сушыць*
*Скнары на ласку дзень.*

*Зорак дапялі высокіх,*
*Мамін распялі крыж...*
*Апошняй надзеяй — покліч,*
*Апошняй надзеяй крык*
*Рвецца з грудзей збалелых*
*І падае ў немы жвір...*

*Са страхам гляджу, як целы*
*Гушкае мёртвы вір.*

*...Чарнеюць крыжы на пагосце,*
*Яшчэ не ўчарсцвеў пагост...*
*Продак сеяў жыта і косці,*
*Продак ведаў вольнасці кошт!*

### Звон

*Рвалі Звону язык,*
*нібы джала змяі.*
*Звон кідалі з-пад неба ў цямніцы.*
*І нямелі сыны здратаванай зямлі*
*ля маёй без'языкай Званіцы.*

*Доўга боль агняваў, чырванеў і грымеў,*
*дым атрутны наўкола струменіў.*
*І здавалася ўжо — нарадзілася смерць,*
*і памерла жыццё ў пакаленнях.*

*Ды ў бяссіллі асмяг уладарны касцёр,*
*што Званіцу спаліў да падвалін.*
*Дзень крывавай слязой*
*на пажарышча сцёк,*
*дзе мой Звон на агні катавалі.*

*Цёпла туліцца снег да халоднай зямлі,*
*выплывае з нябыту зара-заранiца,*
*лес аддайна гадуе*
*тугія камлі —*
*павяртаецца ў неба Званіца,*

*і плыве белакрыла над Памяццю дзён,*
*асвячае святыя магілы...*

*Не! Не ўмёр першароднасці Звон,*
*зноў звініць жыццядайнаю сілай.*

●

*"Вы шуміце, шуміце*
*нада мною, бярозы"...*

*Хочаш, сцішна чытай,*
*хочаш, стомна адкінь...*
*Упаду ля шчыта*
*ў галубіную стынь.*

*Вочы вып'е туман —*
*пасвятлее ў вачах.*
*Ні царква, ні турма*
*мой апошні прычал.*

*Не пішы, не гукай,*
*Не звані да мяне...*
*Кожны мае свой край,*
*кожны край не міне.*

*Дзедаў весніцца крыж,*
*я з Дзядамі даўно.*
*Памінальна акрый*
*ручнікамі акно.*

*Бохан пахкі спячы,*
*чарку трэбна сагрэй,*
*у паўдзённай начы*
*памаліся за грэх.*

*Я жыву-не-жыву?..*
*Я іду-не-іду?..*

*Сонца сушыць траву,*
*нетра поўніць ваду,*
*ладна ў Свеце, ці — играй,*
*светла ў свеце, ці не.*

*Кожны мае свой край,*
*кожны край не міне...*

*"Вы шуміце...*
*шуміце..."*

●

*Конь начное расістае звыкла скубе —*
*траў някошана*
*ў траўні зялёным.*
*Я апошнім уздыхам згадаю цябе,*
*калі дзень мой*
*звякуе стамлёна.*

*Слухай шэпт вечаровы за нас за дваіх,*
*раскажы мае думкі*
*світанку.*
*Я застаўся. Я ўплецены ў косах тваіх*
*шчабятаннем дачкі*
*Сьвятаянкі.*

*Нам не ўпару было па залеве з табой,*
*нам не ўпару было*
*ў зараніцы.*
*Двуадзінства сцяжынаў*
*вяло ў лістабой,*
*хоць адны нас паілі грамніцы.*

*Пі жыццё-першацвет,*
*не маліся журбе,*
*ўсміхніся дажджам непагоды...*
*Я апошнім уздыхам*
*сагрэю цябе*
*на ўзыходзе ў бязмежнасць свабоды.*

●

*Нібыта ўсё размерана і гладка,*
*нібыта ўсё,*
*як калісь, як тады,*
*ды павузела між гадамі кладка,*
*і ўжо няма той*
*пэўнае хады.*

*Багаж-багацце летаў мулкім грузам*
*на плечы ціснe,*
*гне да долу, ніц,*
*і вопыт дзён пражытых свербным грузам*
*смыліць над смагай выпітых крыніц.*

*У дол з гары сцякае сцежка ціха,*
*а жаўрукі вясну*
*вястуюць зноў,*
*і ўсходзяць над зямлёю парадзіхі*
*нібыта поўні несаснёных сноў.*

*Шырэе кладка да кладоў дзядовых*
*смялей жыты калосяцца*
*ў палях.*
*Нясу няскрушна тузін лап яловых*
*на мой астатні векавечны шлях...*

ПРОЗА

# КРЭСЛА

Васіль ТКАЧОЎ

АПАВЯДАННЕ



Хто выносіў крэсла з кабінета дырэктара, цяпер паспрабуй разбярыся. Кажуць: усе. Быццам і так. Пасля многія прыгадвалі, як усё было, і атрымлівалася, што яно, крэсла, ці не само плыло над натоўпам, які гуў, нёсся, як ўсё роўна селявы паток з гор, на шырокі двор вучылішча, і раптам — бац! — яно ўсімі чатырма ножкамі-рожкамі ўваткнулася з усяго размаху ў лысы пляц. І людзі, узрушаныя, шчаслівыя глядзелі адзін на аднаго, весела гаманілі, каб яшчэ трохі ім волі, то пачалі б штурхацца, як дзеці. Хоць усе яны дарослыя, як не адзін з вышэйшай адукацыяй і немаленькім педагагічным стажам. Але нічога не зробіш: кажуць, калі генералы збіраюцца разам, то пачынаюць шчыпацца. А што ж тады возьмеш з іх, выкладчыкаў музычнай вучэльні? Ды яшчэ ў тыя рэдкія шчаслівыя хвіліны, што доўгачаканым каракумскім дажджом шуганулі на іх!

– Запалкі! — працягнуў руку да калег барадаты Пырх.

Яму запярэчыў Марасанаў:

– Дык а карасін дзе? Спярша карасін! Быў жа! Хто нёс карасін? Сам бачыў! Без яго ж крэсла не запалім!

Так спяшаліся спаліць крэсла, на якім яшчэ ўчора сядзеў дырэктар вучэльні Мельнік, што газу недзе згубілі, ніхто, акрамя Марасанава, не бачыў, што нехта нават з ёй бег на двор. Пайшла ў ход мінулагодняя падшыўка раённай газеты. Яе расшкуматалі, растрэслі, і атрымалася цэлая гара паперы.

– Падпальвай! — загадаў Марасанаў Пырху, які нарэшце раздабыў запалкі. — Не марудзь. Чым хутчэй не будзе гэтага крэсла, на якім сядзеў паскуднік Мельнік, тым хутчэй мы забудзем, што ён, падла, піў амаль пяць гадоў нашу кроў. Палі, Пырх! І запомніце: мы спальваем не проста крэсла, мы спальваем стыль кіраўніка, яго метаду, яго нахабства і жорсткасць! Ура-а!

"Ура-а!" падтрымалі, і неўзабаве гара паперы захапілася вясёлым полымем, пачало лізаць вострымі язычкамі ножкі крэсла... Яно вось-вось гатова было ўспыхнуць... Усе толькі і чакалі гэтага моманту. Аднак ледзь не сапсаваў усю містэрыю намеснік дырэктара па гаспадарчай частцы Плюшкін, як звалі яго за вочы ў вучэльні. Ён нечакана прыбег аднекуль і ўзняў такі лямант, што было далёка чуваць:

– Яно ж на мне вісіць! Я ж за яго адказваю! Самае дарагое крэсла-а-а! Пусціце-е-е!

Плюшкіна ніхто і не трымаў, але ён малайчына: усё ж зразумеў, што прыбег позна — калі і выцягне крэсла з полымя, яно ўсё роўна ўжо прапала, пакрамсанае полымем, таму затрос галавой, пракаўтнуў нейкую таблетку і пашоргаў ад людзей у бок дзвярэй, што вялі ў вучэльню. А людзі, здавалася, і не заўважалі яго, яны весела гаманілі, смяяліся, і бачылі, як крэсла на іх вачах ператваралася ў клубок зыркага полымя.

– Добра гарыць як!

– Х-ха, яшчэ б!

– І вымыць, і вымыць кабінет!..

Прыбіральшчыца Цітаўна стаяла побач, таму адрэагавала адразу ж, для чаго нават выпрамілася і падала наперад тулава.

– Ды ўжо ж! — сказала яна. — Сваё дзела знаем! За мяне не турбуйцеся! — Яна памаўчала, пацерла вочы кулачком, хлюпнула носам і кіўнула: — А крэсла шкада. Згарэла. Яно ж толькі тут пры чым? Добрае, добрае крэсла было. Я ўсё завідавала: каб мне такое ў кватэру, то б сядзела на ім, як каралева...

Нехта зарагатаў:

– Хопіць, што кароль пасядзеў! Іш, і Цітаўна разагналася! Куды, куды табе? Ты, добрая душа, пасядзіш і на зэдліку.

– Не, ну вот вы ўсе вучоныя, разумныя, а хай я дурная, забітая баба: калі чалавек паганы, то крэсла за што парашылі? — быццам апраўдвалася прыбіральшчыца Цітаўна і, не дачакаўшыся якога-небудзь спагадлівага адказу, рушыла таксама з двара. Ёй, падобна на тое, было ўсё роўна, хто кіруе вучылішчам — ці той паскуднік і крывасмок Мельнік, як кажуць цяпер пра яго, ці хто іншы. Невялікі начальнік Цітаўна — у падпарадкаванні толькі мятла дыануча, з гэтага нейкую фатыгу яна мець, вядома ж, не магла, а сваю справу ведае і добра робіць, таму папрокаў не чула. А крэсла шкада. "А калі яшчэ паскуднік які пападзецца, дык што тады, га, канапу паліць, на якой ён, можа, будзе ляжаць?" З гэтым Цітаўна пагадзіцца не магла. Яна шкадавала грамадскае дабро, а далей нікуды носа не сунула: страсці, што бушавалі апошнім часам у вучэльні, яе не тычылі.

Неўзабаве двор апусцеў, і каля горкі попелу, што засталася ад крэсла, тапталіся двое — барадаты Пырх і Марасанаў, які першаму мог бы быць бацькам. Ён лічыўся лепшым выкладчыкам і нават някепскім кампазітарам: некаторыя песні, створаныя ім, выконваліся ў межах вобласці, аднак далей прабіцца не маглі. Вінаваты ў тым быў, на думку Марасанава, і Мельнік, які прыціскаў усяляк, як толькі мог, таленавітых выкладчыкаў — не любіў, калі хто выторкваўся вышэй за яго самога. Быццам нават заяўляў: "Вучыце дзяцей, а песню напішуць і ў Мінску. Лучанкоў хапае сёння — хоць гаць гаці, а выкладчыкаў — не. Добрых выкладчыкаў, я маю на ўвазе..." Намёк, як кажуць, шматзначны. А зусім нядаўна, ужо нават тады, калі ўверсе быў падпісаны загад аб ягоным пераводзе ў іншы горад, не пусціў у сталіцу на конкурс навучэнку Варатынскую, калі даведаўся, што яна павязе туды песню Марасанава. Цмок самы што ні ёсць! І хто ж пасля ўсяго гэтага, калі не сам Марасанаў, павінен быў цягнуць, лічачы гэта за гонар, крэсла з кабінета Мельніка, дбаць пра газу і запалкі?! Было і яшчэ некалькі такіх чалавек, якім Мельнік напаскудзіў больш чым трэба. Што ж да барадатага Пырха, то з Мельнікам ён і пазнаёміцца як след не паспеў, бо працуе ў вучэльні зусім мала, толькі нядаўна скончыў інстытут культуры. А крэсла падхапіў адным з першых і падпальваў толькі таму, як прызнаўся сам, што ў Мінску любіў па закліку выходзіць на плошчу Незалежнасці, і таму лічыў сябе мэтрам у гэтай справе. Трэба дык трэба.

– Попел, відаць, належыць прыбраць, — закурыў Марасанаў і паглядзеў на барадатага Пырха, які варочаў дручком апошнія вугельчыкі. — А то вецер разнясе па дварэ — Цітаўна выскаліцца. Чым бы толькі прыбраць?

Пырх насупіўся:

– Напаскудзілі разам, а сляды замятаць — нам?

– А што тут такога? Камусьці ж трэба...

– Нічога! Во падгарну трохі, вадой прыльём, ды і няхай ляжыць. Каб усе бачылі, што ад крэсла засталося. Можна і шыльду ўторкнуць у зямлю з надпісам, каб усе ведалі: "Тут было крэсла Мельніка".

Марасанаў не паспеў адказаць — уявіў толькі былога дырэктара ў гэтым згарэлым крэсле, з якога ён, бадай што, рэдка калі вылузваўся, як пачуў гырканне аўтамашыны і, павярнуўшы голаў на гул, убачыў міліцэйскі легкавік. Вопытны жыццялюб і ў нейкай меры няспраўджаны кампазітар адразу змікіціў: яны з Пырхам папаліся. Усе своечасова збеглі, а навошта яны тут тырчэлі, папытаць бы? Дурні! Гэта ж Пырх павінен мець вопыт, хваліўся ж, што бралі за каўнер на плошчы ў сталіцы, дык быў бы, паразіт, разумнейшым і сам, і павучыў бы яго, старога дурня. Дык не ж! А цяпер што ён скажа міліцыянтам? Што? Смелыя мы, браткі, бываем, калі не бачым людзей у форме, а толькі варта заўважыць — трымцяць лыткі...

Легкавік гайдануўся перад самай кучай чорна-шэрага попелу, знерухомеў, з яго вылезлі два міліцыянты — капітан і старшыня. Капітан строга запытаў:

– Што вы тут робіце?

Пырх пагладзіў сваю густую бараду і адказаў:

– Вогнішча дзеці, пэўна, расклалі, то небяспечна... Сочым, каб іскры не разляцеліся.

На гэта капітан спакойна заўважыў:

– Ці ты дужа разумны, ці я дурань. — І, паказаўшы рукой на легкавік, загадаў: — У машыну! Хутчэй!

Марасанаў паслухаўся, а Пырх палез у легкавік толькі атрымаўшы рэзкі штуршок у плячо. Агрызнуўся:

– Цішэй, не такіх бачылі!

– Пагавары мне!..

Аднекуль узялася тут Цітаўна, заступілася, хоць і шкада было ёй крэсла, аднак старая хуценька скеміла, што трэба ратаваць выкладчыкаў:

– Дык вы што, не надзёрлі вушы тым нехрысцям? — сур'ёзна глядзела Цітаўна на Марасанава і Пырха, настолькі сур'ёзна, што тыя, мусіць, і самі не адразу здагадаліся, што задумала старая, а яна працягвала: — Бачу ж у акно: вогнішча! І малеча скача каля яго. Ну, думаю, не хапала нам яшчэ на сённяшні дзень пажару... Усяго ж было сёлета і паводкі, і замаразкі... А тут перад выбарамі ў прэзідэнты — яшчэ й пажар... Дык разагналі, кажаце? Таварышы выкладчыкі, вам што, затлуміла? Ці вушы пазакладала? Гэй, вы!..

– Не верацъ, — з легкавіка выгукнуў Пырх.

Марасанаў змоўчаў.

– Я, я вас жа папрасіла разагнаць! — наступала на легкавік Цітаўна. — Дык што атрымліваецца: хацела, як лепш, а атрымалася, як тады... І тое выходзіць, што я, качарга старая, падштурхнула вас на тое, што міліцыя забірае? Так? Таварыш начальнік! Тады і мяне ў машыну, таму што калі хто і вінаваты, то я. Чуеш, начальнік?

– Усе месцы заняты, — адказаў капітан і параіў старой шкрабаць мятлой там, дзе трэба, а не малоць языком абы-што, а калі залез, цяжка заносячы атлусцелае цела на пярэдняе сядзенне, загадаў сяржанту-вадзіцелю. — Паехалі!

Куды паехалі, Марасанаў зразумеў адразу. Па дарозе гадаў-думаў, чым усё гэта скончыцца, раіў Пырху маўчаць, не харахорыцца, бо той хваліўся, што не такое бачыў і не там бываў, але цяпер перад ім здымаюць шапкі многія, чым раздражняў міліцыянтаў. Тыя абяцалі, што яны перад ім ніколі шапкі здымаць не будуць, а калі што і зробяць, то добранька намуляць бакі, і раілі трымаць язык за зубамі. Калі ж не трымаецца ён у Пырха за зубамі, хоць ты што! Ну і атрымаў у бок кулаком: сціхні ты, бля!..

Там, куды іх прывезлі, было людна, але ціха. Правялі паўз дзяжурнага на другі паверх, і Марасанаў здагадаўся, што зараз трапіць ён да свайго старога знаёмага. Так і ёсць.

– Яны, — коратка сказаў падпалкоўніку Страмавусаву капітан і сеў, не пытаючы на тое дазволу ад начальніка, на стул.

Страмавусаў жа распарадзіўся інакш:

– Па адным.

– Ёсць! — па-вайсковаму лёгка ўзняўся капітан і кіўнуў Пырху, каб ішоў за ім.

Такога павароту Марасанаў не чакаў, але трымаўся спакойна, чаму і сам, прызнацца, здзівіўся. Калі за Пырхам і капітанам зачыніліся дзверы, Страмавусаў закурыў, важка адкінуўся ў крэсле, і Марасанаў заўважыў, што ў гэтага міліцыянта крэсла яшчэ больш саліднае, чым у Мельніка. і чамусьці ўявіў, як яно гарэла б... Палала б!

– Вось і сустрэліся, — трэба было бачыць нахабную ўсмешку на задаволеным твары начальніка гарадскога аддзела міліцыі. — Я разумею, таварыш Марасанаў: самога Мельніка вам было ніяк не дастаць, а крэсла і школьнік можа знішчыць, дай толькі яму волю. Ну, дык што цяпер будзем з вамі рабіць? Пятнаццаць сутак, або трыццаць на двух, для вас будзе дастаткова. А потым крэсла купіце. Яно цяпер каштуе некалькі вашых заработных плат. Адчуеце. А то іншы раз мы бываем ганарлівымі, фанабэрыстымі... Ну, ну! Але, як паказвае жыццё, ад сябе не ўцячэш. Вось і ты трапіў у сіло. Ну скажы, скажы што-небудзь, Марасанаў! А Мельнік, між іншым, быў добрым чалавекам...

– Чаму — быў? — насцярожыўся Марасанаў.

– Правільна, правільна: і ёсць, — паправіўся Страмавусаў.

– Тады гледзячы для каго ён добры, — прамовіў выкладчык. — Для вас добры, не пярэчу... У горадзе адна больш-менш прыстойная вучэльня — гэта наша, і тут вучыліся, вучацца і, спадзяюся, больш не будуць вучыцца вашы далёкія і блізкія сваякі, дзеці сяброў і знаёмых...

– Чым я вам так не дагадзіў?

– Я ж вам неяк раней усё растлумачыў... У нашай вучэльні павінны вучыцца таленавітыя дзеці. Няважна, хто ў іх бацька, маці... Я заўсёды быў супраць блату. І хабар не бяру. Лепш у адным касцюме хадзіць, чым запэцкаць сумленне...

– Дык а як вы корміце сям'ю? — вырачыў вочы на Марасанава падпалкоўнік. — Падзяліцеся вопытам.

Марасанаў адказаў не адразу:

– Цяжкавата...

– А Мельнік купіў зяцю новую іншамарку. І сам ездзіць на "маздзе". А чаму? А таму, што разумны чалавек, галава-а! Вось так трэба і жыць...

– Не вучыце мяне, калі ласка, — запярэчыў Марасанаў.

– Ды вас, гляджу, позна вучыць, — пагадзіўся падпалкоўнік. — Ну, што ж... Будзем лічыць, што размова закончана. Пасядзіце пакуль. А там ужо што пракуратура скажа...

За дзвярыма пачуўся голас Пырха, той узняў ніяк вэрхал: відаць, нагадаў, што ў сталіцы ён і не такое рабіў і нічога, а тут і слова ім не скажы. Надакучыла! Колькі можна цярпець?! "Пусціце мяне-е!" Пырх, мусіць, нагадаў, што ў яго зрываюцца ўрокі, але каму гэта цікава? Капітану? Падпалкоўніку? Каб паводзіў ён сябе больш прыстойна ў міліцыі, нехта варсануў яму ў бок, а мо гвазданўў і па галаве — тут, у кабінеце начальніка, Марсанаву было не відаць, але калі Пырх залямантаваў не сваім голасам "уй-й-й-й!", ён быў упэўнены, што так і было.

Страмавусаў націснуў на кнопку і загадаў капітану, які прасунуў галаву ў дзверы:

– Забярыце. І таго разам з ім...

Выходзячы з кабінета, Марасанаў павярнуўся да падпалкоўніка, усміхнуўся:

– А той кавалак золата... помніце сваю пляменніцу, якая вучылася ў нас па вашай пратэкцыі... так і не навучыўся граць ні на адным музычным інструменце. Не заблішчэла золата... Сустрэў на днях... Працуе той кавалак золата на базары ў гандлёвым радзе...

– Выйдзіце! — Страмавусаў грукнуў кулаком па стале.

Пырх ужо больш не нагадваў пра сталіцу, моўчкі плёўся паперадзе Марасанава і прыкідваў, на каго раскінуць ягоныя ўрокі. І — што і не дзіўна! — ніколькі не дакараў сябе, што заставаўся каля вогнішча да канца, пакуль крэсла не дагарэла... Хоць, можа, і не трэба было спадзявацца на Сцяпана Віктаравіча, а драпаць? А што, калі яго ўжо няма ў горадзе?..

Як толькі за Марасанавым зачыніліся дзверы, былы дырэктар мясцовай вучэльні Мельнік выглянуў з невялічкага пакойчыка для адпачынку, які быў адразу ж за спіной Страмавусава. Яны перакінуліся позіркамі, усміхнуліся.

– Ты ўсё чуў. Гэтае крэсла ім доўга будзе помніцца, — паабяцаў падпалкоўнік і дастаў з сейфа пачатую бутэльку з каньяком. — Таму што жыць не ўмеюць. І самае галоўнае — не хочуць вучыцца. Вось у чым бяда. Вось у чым іх загана. Падсядай, Сцяпан Віктаравіч, да стала. Хваляваўся, бачу...

Мельнік пацвердзіў:

– Ды не жалезны...

– Рукі дрыжаць. А хваляваўся дарэмна. Дарэмна хваляваўся, шаноўны. Мы сяброў у бядзе не пакідаем. Ну, спалілі крэсла. Каб жа ты раней нам паведаміў, то мы б іх усіх і замялі...

– Усіх не трэба, — замахаў рукамі Мельнік. — Не, не! Там і добрыя людзі ёсць.

– Але ж палілі крэсла, так бы мовіць — вас...

– За кампанію. За кампанію, — Мельнік праглынуў даўкі камяк, пацягнуўся да келіха з каньяком, падняў яго дрыжачай рукой. — Не будзем пра крэсла... Забудзем. Раз і назаўсёды. Няхай яны думаюць, што я нічога не ведаю. А мне, між іншым, сам Пырх... той, што з барадой, і сказаў, што будуць паліць крэсла... І што ён будзе таксама паліць... Але каб ведаў. Папярэдзіў. Малайчына. Свой чалавек. Калі ён нават і адмовіцца, сказаў, то спаляць іншыя. Папрасіў загадзя і прабачэння. Гэта ж я яго запрасіў у вучылішча. Друг мой інстытуцкі слова замовіў за Пырха...

Пачуўшы пра Пырха, падпалкоўнік адразу ж пракаўтнуў пітво, крэкнуў і механічна ўтапіў кнопку ў стале, і ў дзвярах паказаўся лейтэнант, якому Страмавусаў загадаў адпусціць "на ўсе чатыры стораны" падпальшчыкаў крэсла. А Мельніку, не хаваючы расчаравання, гучна заўважыў:

– Маць вашу!.. Папярэджваць трэба!..

І плюхнуўся ў сваё крэсла, пра якое Марасанаў падумаў, што яно б гарэла яшчэ лепш, чым гарэла крэсла іхняга былога дырэктара...

## Так працуе паэт...

**Калісьці Ніл Гілевіч сказаў: "Больш блізкай еднасці, як музыка і паэзія, я не бачыў". Таму не дзіўна, што сустрэча гэтага выдатнага беларускага паэта з маладзечанскай моладдзю прайшла менавіта ў Музычным вучылішчы імя М. Кл. Агінскага. Паслухаць паэта прыйшлі студэнты і выкладчыкі вучылішча, жыхары горада.**

**Вечар пачаўся з песні "Малітва" на верш Н. Гілевіча, напісанай і выкананай студэнткай Т. Аўгусціновіч.**

**Паэт прайшоў, як вядома, складаную дарогу жыцця. А прафесію сабе абраў невыпадкова: вельмі рана абудзілася жаданне стаць паэтам, не было іншага захаплення, акрамя паэзіі. Усё жыццё ён шмат чытае і лічыць, што яго як літаратара, грамадзяніна, чалавека выхавала класіка, у першую чаргу беларуская, руская і, безумоўна, еўрапейская. Працуе Н. Гілевіч у многіх жанрах: вершы, паэмы, публіцыстычныя артыкулы, творы сатырычныя і нават раманы. Вялікую частку жыццёвай энергіі і творчых сіл аддае паэтычным перакладам. Прычым лічыць, што "пераствараць" часта цяжэй, чым напісаць свой верш, бо трэба захаваць дух, характар, галоўную ідэю ўжо напісанага твора.**

**Але не заўсёды меў ён магчымасць выдаваць свае творы свабодна. Савецкая цэнзура жорстка сачыла за тым, каб на старонках друку не з'явіліся творы патрыятычнага характару (так, доўгі час не мог убачыць свет верш "Родная мова"). А патрыятычныя творы замежных паэтаў, удала перакладзеныя Н. Гілевічам, не прыцягвалі да сябе ўвагу і заўсёды выдаваліся. І паэт быў вымушаны хаваць уласныя думкі між чужымі радкамі.**

**На вершы Н. Гілевіча пішуць песні. Больш за 100 вершаў пакладзены на музыку і выдадзены ў трох песенных зборніках. Сярод яркіх прыкладаў сумеснай творчасці Ніла Гілевіча і кампазітара Эдуарда Ханка — песня "Вы шуміце, бярозы", якая з'явілася каля 18 гадоў таму. Яна абышла ўвесь свет і зрабілася сапраўдным шлягерам.**

**Пры канцы вечара паэт пажадаў кожнаму знайсці сябе ў жыцці, стаць добрымі прафесіяналамі, сумленнымі людзьмі, рабіць як мага больш дабра. Сам жа Н. Гілевіч прытрымліваецца вельмі простага прынцыпу: "Працуй так, нібы жыць будзеш вечна".**

**Наталля ДЗЕНІСЕВІЧ**

## Усё ад... Рымскага-Корсакава?

**З дня нараджэння народнага артыста Беларусі, кампазітара і педагога Васіля Залатарова споўнілася 130 гадоў. Салідная дата! А між тым ёсць яшчэ сярод нас людзі, якія Васіля Андрэевіча ведалі асабіста. Напрыклад, адзін з яго першых вучняў, цяпер ужо 88-гадовы прафесар, патрыярх беларускай кампазітарскай школы Анатоль Васільевіч Багатыроў.**

**Сёння практычна кожны наш кампазітар прайшоў школу Багатырова або вучыўся ці стажыраваўся ў яго выхаванцаў. А "музычныя дзеці" ды "ўнукі" Багатырова цудоўна ведаюць улюбёную прымаўку прафесара: маўляў, сучасная беларуская кампазітарская школа — непасрэднае прадаўжэнне традыцый школы М. Рымскага-Корсакава. Не-не, гэта не жарт! Проста вучнем Рымскага-Корсакава па кампазіцыі дый па ўсіх музычна-тэарэтычных прадметах быў Васіль Залатароў, які скончыў Пецярбургскую кансерваторыю. Мінуў час — і лёс прывёў Залатарова ў Мінск выкладаць кампазіцыю ў кансерваторыі.**

**Адным з першых выпускнікоў класа В. Залатарова быў, як ужо гаварылася, А. Багатыроў, праз якога традыцыі школы Рымскага-Корсакава маглі перайсці да новых пакаленняў беларускіх кампазітараў. Перайшлі, не перайшлі?.. Бясспрэчна, што імя самога В. Залатарова перайшло ў гісторыю беларускай музычнай культуры разам з яго творчай спадчынай, вяршыня якой — балет "Князь-возера", адзначаны ў 1950 г. Дзяржаўнай прэміяй СССР.**

**С. ВЕТКА**

# Не правакуйце крытыкаў на кастапраўства...

***На размову Міхал Баразна заўжды згаджаецца з задавальненнем, а нечаканыя павароты тэмы, нестандартныя ацэнкі сітуацый і творцаў выяўляюць у ім выдатнае веданне мастакоўскага асяроддзя, прафесійнасць развагі над сутнасцю і шляхамі развіцця беларускага мастацтва. А пачыналася ўсё са студэнцтва на аддзяленні графічнага дызайну, працы ў беларускіх кніжных выдавецтвах і толькі пасля – выкладчыцкай дзейнасці ў Беларускай акадэміі мастацтваў, куды яго запрасіў М. Раманюк. Сёння Міхал Баразна – прарэктар акадэміі па навукова-творчай рабоце, кандыдат мастацтвазнаўства. Ім распрацаваны аўтарскі курс лекцый пра беларускае выяўленчае мастацтва XX ст., выдадзена асобнай кнігай дысертацыйнае даследаванне беларускай кніжнай графікі другой паловы XX ст., агучаны на старонках друку і ў каталогах мастакоў многія мастацтвазнаўчыя ідэі. Вядомы Міхал Баразна і як цікавы фотамастак, аўтар нечаканых разваг пра маладых беларускіх мастакоў, што маюцца ў будучым выйсці асобнай кнігай.***

**— Традыцыйным, але ад гэтага не менш важным стала пытанне, што ёсць сучаснае мастацтва? Але тым не менш без вырашэння гэтага пытання не абысціся ні ў напісанні новай гісторыі мастацтва, ні ў падрыхтоўцы моладзі ў Акадэміі мастацтваў, ні, урэшце, падчас выпрацоўкі навуковай канцэпцыі Музея сучаснага мастацтва...**

— Пытанне гэта такое, што на яго цяжка адказаць і ў ім складана разабрацца. Памылкай будзе называць усё тое, што стваралася ў апошнія дзесяцігоддзі — сучасным мастацтвам, але такое меркаванне распаўсюдзілася не толькі на Беларусі. Ніхто не думаў пра тое, што прыйдзе двухтысячны год і мы сутыкнёмся з новай праблемай — як называць мастацтва дваццаць першага стагоддзя: паслясучаснае ці, можа, звышсучаснае... Тая і другая назва падкрэсліваюць другаснасць. Думаю, правільна называць сучасным мастацтва, якое ствараецца ў час нашага сведчання, мастацтва, адпаведнае свайму часу, што мае рэальныя перспектывы для шырокага прызнання, знаходзіцца ў цэнтры палемічнага навуковага поля. Канешне, многія могуць сказаць, што творы Леанарда і квадрат Малевіча актуальныя і сёння. Няхай будзе і так. Але сучасныя найперш тое мастацтва, якое выяўляе новыя перспектывы. І тут вельмі важнае пытанне — гэта крытыка, якая павінна вельмі актыўна аналізаваць, класіфікаваць такія з'явы, цвёрда выказваць свае меркаванні.

**— Тут ты выступаеш, напэўна, ад імя Акадэміі мастацтваў?**

— Нават калі б я не быў афіцыйным прадстаўніком акадэміі, я б не адмаўляў галоўнага прызначэння яе — рыхтаваць кадры для сённяшняй, а не ўчарашняй мастацкай практыкі. Гэтай мэце ўсё павінна быць падпарадкавана. Мы не архіў і не музей. Пытанне — як разглядаць сучасны тэндэнцыі і накірункі. Хто сёння возьмецца сцвярджаць, што сучаснае мастацтва толькі хэпінінг ці перформанс або фотамастацтва, інтэрнэт-арт? Сучаснае мастацтва — гэта і жывапіс, і графіка, і скульптура. Але разгледжаныя менавіта па тых параметрах, якія выяўляюць прагрэс творчага жыцця.

**— Спрэчкі пра неабходнасць альбо адмену акадэмічнай, класічнай адукацыі ў мастацтве вядуцца ўжо не адзін год. Суб'ектыўныя меркаванні мастакоў толькі заблытваюць сітуацыю. Якія аргументы як мастак і мастацтвазнаўца лічыш важнымі ты сам?**

— Мне здаецца, што без класічнай адукацыі мастак у сучасным мастацкім свеце не здольны дасягнуць вяршыняў. Нават мастак заходні, адукацыя якога, як здаецца нам, далёкая ад акадэмічнасці. Напрыклад, Удо Шэль, адзін з вядомых нямецкіх мастакоў, прафесар Мюнстэрскай акадэміі мастацтваў. Ён скончыў універсітэт па спецыяльнасці германістыка, атрымаўшы класічныя веды. Дадаў да гэтага вышэйшую мастацкую адукацыю. Такія нормы адукаванасці — характэрная з'ява для еўрапейскага сучаснага мастацтва. Адукацыя мастакоў можа там разглядацца шырэй за засваенне толькі тэхналагічных навыкаў, але яна павінна быць класічнай.

**— Значыць, мы не выпадаем з культурнай прасторы Еўропы?..**

— Так, культурнае поле ў нас з Заходняй Еўропай адно, але мы доўга не ўдзельнічалі ў агульнай "палеміцы". Не столькі ў палеміцы выставачнай прасторы, што таксама вельмі важна, але і ў палеміцы крытыкі, навукі. Мала паміж сабою спрачаліся і вызначалі нашы агульныя кропкі і асаблівасці сваёй культуры. Таму існуе досыць праяў непаразумення, чым кардынальных праблем у адрозненні. Часам сярод моладзі заўважны стэрэатып другаснасці перад Захадам. Але ўсё ўзаемна. Пад пэўнымі стэрэатыпамі, часцей ідэалагічнымі, знаходзяцца таксама і заходнікі. Па-другое. Многія праблемы звязаны не столькі з актам мастацкай творчасці, колькі з агульнай атмасферай і з такой з'явай, як рынак, які сам надзвычай цесна звязаны з эканомікай. На сённяшні дзень адкрытага, разгалінаванага мастацкага рынку на Беларусі не існуе. Няма сітуацыі, калі б сучаснае мастацтва знаходзіла шмат пакупнікоў сярод інжынераў, навукоўцаў, настаўнікаў. І, зразумела, існуе пэўная зайздрасць беларускіх мастакоў да заходняга свету, дзе існуе рынак, хоць ён не да кожнага паварочваецца тварам. Але сам факт шырокага продажу і набыцця твораў выяўленчага мастацтва характэрны для заходняга рынку. Мастакам з Беларусі, натуральна, крыўдна, што іх работы маюць меней магчымасцей трапіць на сцяну ў кватэры настаўніка сярэдняй школы...

**— Гэта аб'ектыўная праблема, якую мастакі самі вырашыць не ў стане. Але ж штогод шэрагі іх папаўняюцца. Якая будучыня чакае маладых творцаў у нашай краіне пры адсутнасці рынку і пакупной магчымасці насельніцтва?**

— Я не лічу, што мастакоў досыць многа. Такая думка ўзнікае там і тады, калі дзяржава не вельмі многа грошай укладае ў культуру. І тады здаецца, што ў краіне вельмі многа пісьменнікаў, мастакоў, рэжысёраў. Моладзь, якая атрымала адукацыю ў БДАМе, мае здольнасці, прафесіяналізм, на сённяшні дзень яна ў стане рэалізавацца. Каменнай сцяны, мяжы з іншымі краінамі для Беларусі не існуе. Але ёсць пэўнае правіла, якое ніхто не адменіць: каб атрымаць прызнанне "там", трэба мець прызнанне "тут". "Турыстаў" нідзе не любяць. Я згадаю многія прозвішчы мастакоў — Заборава, Задорына, Заслонава, Шалюту і Кітаеву, Цэслера і Войчанку, іншых — іх узлёт пачынаўся, прынамсі, на Беларусі.

І тут вялікае значэнне мае крытыка: яе задача — асвятляць тыя праблемы, якія нараджаюцца ў кантэксце творчасці адзінак. Калі мы пачнём аналізаваць і багата часу аддаваць кожнай праяве мастацкай творчасці, мы адмовім крытычнаму аналізу. Ёсць тыя маякі, графемы, астовы, на якія павінна трапляць увага крытыкі. Калі мы будзем аналізаваць кожны перформанс, а не будзем бачыць сапраўдны перформанс, то мастацтва акцый будзе ў крытычным аглядзе ацэнена неадпаведна, местачкова, не ў кантэксце еўрапейскага мастацтва.

**— На жаль, многія мастакі, як старэйшага, так і малодшага пакалення ставяцца да крытыкі без павагі і цікаўнасці. Не адзін раз у гутарках і на старонках друку даводзілася чуць, што крытыка на Беларусі проста не існуе як сур'ёзная з'ява, з якой варта лічыцца ці хаця б да яе прыслухоўвацца...**

— Я не збіраюся з імі спрачацца. Але магу сказаць, што крытыка на сённяшні дзень знаходзіцца ў такім жа стане, як і само мастацтва. І калі кажуць, што ў нас вельмі высокае мастацтва і вельмі нізкая крытыка, то я хацеў бы пабачыць доказы аднаго і другога. І калі гэта сапраўды *высокае мастацтва*, то мне хацелася б пагартаць даследаванні аб ім вядучых навукоўцаў расійскай, нямецкай, польскай, французскай, швейцарскай школ мастацтвазнаўства, найбольш магутных у свеце. Тады я згаджуся, што наша крытыка не ў стане адпаведна ацаніць беларускае мастацтва, што тут поле дзейнасці толькі для вядучых спецыялістаў Цэнтра Пампіду, куратараў выставы "Дакумента", экспертаў Метраполітэн-музея. На сёння ж (можа, праўда, я не ўсе газеты чытаю) такой



інфармацыі я не бачыў. Калі ж адкінуць жарты, крытыка і мастацтва настолькі зніцаваныя, што нерэальна ставіць адно вышэй другога. Другая справа, што ў параўнанні з мастакамі, а іх сёння больш за тысячу дзвесце чалавек толькі ў Беларускім саюзе мастакоў, такой "арміі" мастацкіх крытыкаў няма. І яны прайграюць мастакам у моцы галасоў, у вазе "коснай масы"...

Хацелася б, каб нашы вядучыя мастакі выступалі не толькі з абвінавачаннямі крытыкі, але і з асабістымі публікацыямі, і не толькі ў выглядзе інтэрв'ю, але і ў выглядзе аналізу. Напрыклад, пра беларускі жывапіс 90-х гадоў... Большасць вядомых заходніх мастакоў не толькі ў стане чытаць тэарэтычныя лекцыі, але яны выдаюць кнігі па канцэптуальных даследаваннях сучаснага мастацтва, друкуюць артыкулы. І гэта нармальная праява сённяшняга мастацкага працэсу, на які нібыта спрабуюць арыентавацца і беларускія творцы. Беларуская крытыка, у адрозненне ад іншых, вельмі тактоўная ў адносінах да творцаў. І правакаваць яе на большую жорсткасць, магчыма, і не варта. Калі крытыка не заўважае нейкую з'яву, то, магчыма, сама з'ява проста не вартая ўвагі. А крытыка, якая б навешвала ярлыкі, займалася "кастапраўствам", мне асабіста не цікавая. Цікавая тая крытыка, дзе я магу знайсці жывую думку, дослед прафесійнага, нацыянальнага мастацтва, клопат пра паўнавартаснасць успрымання нашай культуры ў міжнародным кантэксце, без правінцыйнасці. Гэта цяжкі шлях. Можна напісаць дзесяць-дванаццаць артыкулаў і толькі ў адным з іх нешта намацаць.

Другое. Нашу крытыку часта абвінавачваюць у кампліментарнасці. Але, мне здаецца, час кампліментарнай крытыкі скончыўся з заканчэннем савецкага часу. Калі сёння мастацтвазнаўца дапамагае мастаку ў адкрыцці выставы ці напісанні артыкула ў каталог, магчыма, першага ў жыцці, называць гэта кампліментарнай крытыкай беспадстаўна. Крытык не атрымлівае ад гэтага ніякіх прывілеяў ці вялікіх грошай. Найчасцей такая праца проста гаворыць пра штодзённы клопат крытыкаў аб развіцці беларускага мастацтва.

**— Але ці не атрымаецца, што крытыка зусім згубіць сваю зубастасць, крытыкі застануцца проста гісторыкамі і апісальнікамі, без права сказаць слова супроць, нават калі мастак заслугоўвае адмаўлення ці развянчання?**

— Думаю, што гэта не пагражае, таму што зубастасць павінна праяўляцца не ў крытыцы асобных хібаў асобных твораў асобнага мастака, а там, дзе ёсць сапраўдны перакос асноў нашага мастацтва, дзе парушаюцца традыцыі і законы іх перасэнсавання.

**— Часам пануе адчуванне, што крытычныя артыкулы пішуцца крытыкамі нібы для саміх сябе. Мастакоў па-сапраўднаму закранае за жывое толькі непрыязнае слова ў свой бок, але зусім не тве шчырыя меркаванні...**

— Часта сустракаюся з мастакамі, ім цікавы мае меркаванні, як і мне іх. У мяне няма сіндрому "забітага" крытыка, чыя справа нікому не патрэбная. Але і не памятаю такога выпадку, каб нашы "прызнаныя ў свеце" мастакі склаліся і арганізавалі на ўласныя сродкі нейкую канферэнцыю ці тэлеперадачу, калі ім цікава меркаванне крытыкі і саміх мастакоў пра сучасны мастацкі працэс. І пры гэтым яны крыўдзяцца на недастатковую ўвагу да сябе з боку крытыкі і прэсы. Як бы ёсць нейкія абстрактныя крытыкі, якім няма чаго рабіць, яны днямі ходзяць па вуліцы, п'юць каву і чамусьці пра іх не пішуць. Але жартам магу адказаць, а дзе, спадарове мастакі, галерэя партрэтаў беларускіх крытыкаў?..

Сёння, на жаль, мы маем вельмі нізкую развітасць інфраструктуры бытавання, існавання крытыкі. У рэспубліцы няма выдавецтва, якое б спецыялізавана займалася кнігамі па сучасным мастацтве, альбомамі, сучаснымі медыя-выданнямі. Таму поле для рэалізацыі крытыкі вузкае, абмежаванае такімі выданнямі, як "ЛіМ", "Культура", часопіс "Мастацтва". Часта я не магу ўсур'ёз успрымаць суб'ектыўныя зацемкі маладых журналістаў у іншых СМІ. Не сакрэт, што такая "крытыка" піша не пра карціны, скульптуры, а хутчэй пра фуршэты ды прэзентацыі. Існуе дасюль заганная практыка дасылаць практыкантаў менавіта ў аддзелы культуры газет, маўляў, там яны шкоды не наробяць. Большасць мастацкай крытыкі таму існуе ў славеснай палеміцы, пра якую ведаюць толькі яе ўдзельнікі... Ну а мастакам, што выдаюць на ўласныя ці спонсарскія грошы каталогі, цікавей бачыць у іх не крытычны агляд сваёй творчасці, а паболей рэпрадукцый...

У БДАМе выпускі дзённага аддзялення мастацтвазнаўства сталі рэгулярнымі, існуе і завочнае навучанне, гэта дае надзею на пэўныя змены ў маладзёжным асяроддзі крытыкаў. Студэнты — людзі адукаваныя, для іх Інтэрнэт не з'яўляецца нечым касмічным, яны тонка рэагуюць на сучаснасць, удзельнічаюць у мастацкіх праектах, у дыскусіях. Я б не хацеў, каб яны мелі ў думках, што ў стане перавярнуць беларускае мастацтва. Але яны ў стане актыўна сябе паводзіць у гэтым працэсе.

І тут перспектывы Беларускай акадэміі мастацтваў значныя. Таму што заўжды ёсць людзі, якія прагнуць вучыцца, нягледзячы на матэрыяльныя варункі і праблемы жыцця. Як крытык, назіраючы за працэсамі, што адбываюцца ў сценах акадэміі, заўважаю пэўныя праблемы, якія не лепшым чынам могуць адбіцца на наступным пакаленні мастакоў. І найбольш гэта — магчымая рафінаванасць мастацтва. Некаторыя ўмоўнасці, звязаныя з паступленнем, перашкаджаюць талентам з правінцыі быць гэтак жа тэхнічна падрыхтаванымі, як выпускнікі мастацкіх вучэльняў і каледжаў. Усё павінна быць збалансавана — колькасць абітурыентаў з правінцыі і выпускнікоў мастацкіх школ і вучэльняў, колькасць хлопцаў і дзяўчат. Акадэмія павінна быць прыцягальная не толькі для учарашніх школьнікаў, але і дарослых, якім за дваццаць пяць. Але я супраць, каб такі баланс існаваў як дырэктыва і штучна фарміраваўся. Сама культура, вось задача крытыкі, павінна быць прыцягальная для моладзі. Бо культура — гэта фільтр для праяў бездухоўнасці. Адзін мастак тут нічога не вырашае, але мастакоўскі цэх, пісьменніцкі ці іншы складае магутную сілу. Каб гэты фільтр працаваў, павінна быць добразычлівая нармальная атмасфера, каб людзі не баяліся ісці ў мастацтва, займацца мастацтвазнаўчымі праблемамі.

**Гутарыла**
**Наталля ШАРАНГОВІЧ**

ЮБІЛЕІ

# Душэўная прасветласць фарбаў



Мастака Віктара Нямцова ніяк не аднясеш да тых, хто падладжваецца пад моцныя павевы часу, імкнецца дагадзіць ці штучна навязвае сябе грамадству праз паслужлівую рэкламу прылашчаных крытыкаў. Не належыць ён, апрача Саюза мастакоў, ні да якіх іншых суполак і груповак, якія гуртам прабіваюць сабе дарогу ці тут, ці на заможны Захад. Такім чынам ягоная персанальная выстава ўпершыню адбылася з нагоды шасцідзесяцігоддзя ў Палацы мастацтваў. А магла б і раней. Бо выстава для мастака — амаль тое ж, што кніга для пісьменніка.

Зрэшты, не так і важна, калі ты ў больш ці менш поўным аб'ёме пакажаш сябе людзям. Галоўнае, каб было што паказаць. Як і кніга, так і выстава патрабуюць прадуманасці, адбору і завершанасці.

Як адзначалі дасведчаныя выступоўцы і сам юбіляр, шмат са зробленага ім засталося за межамі выставы. Засталося, дык і добра. Бо персанальная выстава — гэта не поўны збор твораў. Яе задача — паказаць творчую асабістасць мастака ў выглядзе лепшага са зробленага, ці ў паказе эвалюцыі, а мо і пакручастага яго шляху. Вядома, пры ўмове, што ў апошнім выпадку перад намі мастак, які актыўна шукае, ідзе на свядомыя мастацкія эксперыменты. Да мастакоў такога кшталту з поўнай падставай можна аднесці, напрыклад, Аляксея Марачкіна, пераднавагодняя выстава якога заняла вялікую залу другога паверха Палаца мастацтваў.

Віктар Нямцоў мастак іншага, класічнага накірунку. Тры працы, выкананыя ў фармальна-мадэрнісцкім плане, глядзеліся тут сіратліва і досыць чужародна. Яны хутчэй — вынік навучання (1966—1972 гады) на факультэце манументальна-дэкаратыўнага мастацтва ў Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце, які ад пэўнага часу носіць назву Акадэміі мастацтваў. Ды Віктар, як і шмат хто з ягоных аднакашнікаў, з часам перакваліфікаваўся ў чыстых мастакоў-жывапісцаў. Адных паклікала да гэтага творчая інтуіцыя, іншых прымусіла жыццё, бо вітражы і габелены патрабуюць заказчыкаў і укладання немалых сродкаў, якіх у нашай дзяржавы вобмаль. Аднак і ў дэкаратыўна-прыкладным мастацтве В. Нямцоў пакінуў свой след. Гэта вітражы "Белавежская пушча" на дзяржаўнай дачы Савета Міністраў у Віскулях, "Песні Беларусі" і "Поры года" ў Тэатры юнага гледача, габелены "Музыка" ў Белдзяржфілармоніі і "Беларусь — край родны" ў будынку Савета Міністраў...

Згадаю жыццёвы шлях Віктара Нямцова, які і прывёў яго ў мастацтва. Нарадзіўся 8 верасня 1941 года ў сяле Белая Гліна Краснадарскага краю. На падставе гэтай геаграфічнай прывязкі адзін з выступоўцаў нават спрабаваў развіць "думку" наконт таго, як рускі па паходжанні мастак арганічна ўрос у Беларусь, якая стала яму другой Бацькаўшчынай. На гэта ў сваім слове Віктар з тонкай іроніяй зазначыў, што ягонае нараджэнне прыпала на першы год вайны, а таму маці ратавалася ад прыхадняў, і яму проста трэба было хоць дзе нарадзіцца. І ўсё. Бо ягоныя бацькі родам з Баранавіч і, вярнуўшыся ў Беларусь, увесь час жылі ў Мінску. Тут Віктар спачатку вучыўся ў школе, потым у мастацкай вучэльні і БДТМІ, дзе ён і застаўся пасля заканчэння працаваць — спачатку выкладчыкам, потым дацэнтам, загадчыкам кафедры малюнка. Пра яго, як мастака, выкладчыка, метадыста, што выпусціў некалькі дапаможнікаў па тэорыі выкладання малюнка, шмат добрых слоў сказалі народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, мастацтвазнаўца Міхась Баразна, намеснік міністра культуры Валерый Гедройц. І гэта ўспрымалася як своеасаблівая ўзнагарода на развітанне, бо Віктар Віктаравіч пакідае акадэмію і пераходзіць працаваць у апарат Саюза мастакоў намеснікам старшыні.

Віктар Нямцоў у кожнай сваёй рабоце даводзіць гледачам сваю шчырую беларускасць — вобразамі, стылем, каларытам. А крыніцай яго натхнення была і застаецца родная зямля, што, аднак, не забараняе творцу "зачапіцца вокам" за штосьці ўражлівае ў чужым далёкім краі, дзе мастаку даводзілася бываць. Як ілюстрацыя — карціна з арыгінальным выглядам Амстэрдама, зробленая тонка і пранікнёна, зусім не дзеля экзотыкі і пашырэння геаграфічных абсягаў творчасці, чым нярэдка асобныя мастакі "зухуюць".

Жыццяпіс мастака сведчыць, што ён гадаваўся, вучыўся і працаваў у гарадскім асяроддзі. Да вышэйзгаданага варта дадаць год стажыроўкі ў Інстытуце жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя Рэпіна ў Ленінградзе. Але песняром горада, за асобнымі выключэннямі, не стаў. Адбылося ў творчасці непрадказальнае: яго як мастака-жывапісца "нарадзіла" нічым асабліва непрыкметная, родная мне вёска з даўняй славянскай назвай Пабрэззе. Гонар далучэння да яе належыць вядомай мастачцы Раісе Сіплевіч, якая выйшла за Віктара замуж.

А яму пашанцавала яшчэ і ў тым сэнсе, што паспеў ён пабачыць незгвалтаваную прыгажосць Наваградскага наднёманскага краю. Меліярацыя была наперадзе, амаль з самага порога Сіплевічавай хаты плюскацела гаманлівая рачулка Валоўка, стаялі парныя ночы і можна было, сеўшы на ганку, да поўначы слухаць цёхканне закаханых салаўёў, валтузню выдраў і норак, плёскат пружыністых стронгаў і іншай рыбы. Пройдзе некалькі гадоў, на цнатлівыя берагі прыйдуць пачварныя экскаватары і бульдозерамі пачнуць прастаць рэчышча, перамешваючы з гразёю ўсё жывое і прыгожае. І там, дзе перакочвалася па каменьчыках гаманлівая Валоўка-Пакручанка, засляжацца ў несуцешнай скрусе мёртвыя канавы...

Пашанцавала Віктару і на цесця з цешчай, бо Раіны бацькі (афіцыйна Павел і Таццяна, а па-тутэйшаму Паця і Пацінка) — фізічна і духоўна прыгожыя людзі, увасабленне класічнага беларускага характару. Дый уся вёска тады яшчэ ўяўляла сабой цэласны арганізм, што жыў па няпісаных законах асвечанай тысячагадовым вопытам народнай маралі, якая асуджала цямноту, п'янства, зладзейства, мацяршчыну, непавагу да старэйшых, распусту і іншыя пошасці. Камуністычная ўлада, адабраўшы ў людзей уласнасць, замяніўшы мараль крывадушнай агітацыяй і прапагандай, пазбавіла чалавека грунту, адчування сябе гаспадаром на зямлі, праўды і справядлівасці. І ў выніку вёска (маю на ўвазе не толькі канкрэтную) паступова дэмаралізавалася і дэнацыяналізавалася. Дзякаваць Богу, дзядзька Паця і цётка Пацінка здолелі неяк уратавацца ад агульнай бяды і застацца беларусамі ў высокім значэнні гэтага слова.

Мае згадкі могуць сяму-таму здацца непатрэбным адступленнем ад тэмы. Але я ўпэўнены, што мікраклімат канкрэтнага месца на зямлі з яго людзьмі невідочна і неўсвядомлена ўплывае на стан душы, на настрой твораў аўтара. У пацвярджэнне сказанаму можна прывесці шмат прыкладаў з гісторыі сусветнага мастацтва. І зусім верагодна, што мае высновы ў дачыненні да творчасці Віктара Нямцова з часам будуць пацверджаны развагамі прафесійных мастацтвазнаўцаў. Перакананы, што атмасфера Пабрэззя і ягонага наваколля дабратворна паўплывала на станаўленне Нямцова як нацыянальнага мастака, паспрыяла душэўнай прасветласці фарбаў, якая, у сваю чаргу, уплывае на ўспрыманне ягоных твораў гледачамі і далучае нас да прыгажосці, як з'явы не толькі эстэтычнай, але і этычнай, маральнай.

Найбольш паслядоўна, удала і цэласна Віктар Нямцоў выяўляе сябе ў пейзажы. Цалкам згодзен са сказаным на адкрыцці выставы Васілём Шаранговічам, што жанр пейзажнага жывапісу — адзін з самых патрыятычных на Беларусі. Бо, зрэшты, без прыроды, як і без мовы, нельга ўявіць паўнакроўнае жыццё нацыі.

Пейзаж — гэта не проста "перанясенне" кавалкаў прыроды з натуры на палатно. Мастацтва — гэта не капіраванне, а жывая таямніца, якая нясе ў сабе не толькі адбітак першакрыніцы, але душы творцы, яго светаўспрымання і адчуванняў: радасці, замілавання, трывогі, прадчуванняў. Каб перадаваць гэтыя складаныя пачуцці, павінен быць высокі прафесіяналізм, уменне адчуваць жыццё фарбы так, як сапраўдны пісьменнік адчувае слова, кампазітар — гук, ствараючы з іх жывыя непаўторныя вобразы. Там, дзе няма гэтага адчування — фальш, пустата, самадзейнасць...

Віктар Нямцоў паказвае прыроду ў часы яе роскіту, буяння, квіцення, што вымагае ад мастака багацця колеравай палітры. Ён увасабляе летнюю спёку ("Сонца паліць агнём"), імкнецца злавіць і перадаць тонкія нюансы перадвечаровага згасання ("Апошні прамень"), стан пераднавальнічнай трывогі ("Як вецер па полі гуляў").

Арганічнай часткай прыроднага наваколля ўспрымаюцца на карцінах будынкі традыцыйнага драўлянага дойлідства: "Млын" на Валоўцы ля вёскі Пабрэззе, двойчы паўтораная каплічка на могілках ля мястэчка Нягневічы. Апошняя, дарэчы, дажывае (бо ні святар, ні сельсавецкае кіраўніцтва так і не парупілася пра яе ўратаванне) свае апошнія дні, як і унікальная гаспадарчая пабудова ў колішнім маёнтку графа Храптовіча ў Шчорсах, дзе нават планавалася адчыніць творчую дачу Саюза мастакоў, але адзінае, што здолелі асобныя з іх зрабіць, дык гэта, як і Віктар Нямцоў, пакінуць нам "Мураванку" на мастацкім палатне. Дык суцешым сябе хоць бы тым, што згодна з вядомым старажытным выказваннем напісанае, як, дабавім, і намалёванае, застаецца людзям. Калі гэта зроблена шчыра, ад сэрца і з высокім прафесіяналізмам.

**Яўген ЛЕЦКА**
*Фота М. ПРУПАСА*

## Звязаны з роднымі мясцінамі

МІКОЛУ МІНЧАНКУ — 60

**Літаратурнай працай Мікола Мінчанка займаецца з 1956 года, а з першымі вершамі ў абласным і рэспубліканскім друку выступае з 1967-га. Яго творы змяшчаліся ў калектыўных зборніках "Галасы Прыдняпроўя", "Адданасць", "Дняпроўскія хвалі" і іншых. У М. Мінчанкі выйшлі кнігі паэзіі "Зялёны звон", "Давер", "Ліпацвет"... Для яго паэзіі характэрна лірычнасць, светласць матываў. Выступае і ў галіне прозы. А жыве і працуе ў горадзе Клімавічы. На Клімаўшчыне і нарадзіўся. Радзіма М. Мінчанкі — вёска Кавалёўка. Пасля заканчэння ў 1959 годзе Мілаславіцкай сярэдняй школы ў роднай вёсцы загадваў сельскім клубам. Служыў у арміі. У 1964—1968 гадах — студэнт Жытомірскага педагагічнага інстытута. З 1969 года працуе ў рэдакцыі раённай газеты "Новае жыццё", займаючы розныя пасады, быў і карэспандэнтам мясцовага радыё. З 1988 года — галоўны рэдактар "Новага жыцця".**

**Віншуем Мікалая Нікіфаравіча з 60-годдзем! Зычым далейшага плёну ў жыцці і творчасці!**

## Сустрэча ў педкаледжы

**Нядаўна сябры творчай суполкі "Літаратар" на чале з яе кіраўніком Алесем Масарэнкам завіталі ў госці да навучэнцаў педагагічнага каледжа № 1. Нагодай для візіту сталася прэзентацыя "Анталогіі маладога верша", што выйшла летась у выдавецтве "Ураджай". Перад аўдыторыяй выступіў загадчык аддзела выдавецтва Уладзімір Герасімовіч, які расказаў пра гісторыю стварэння анталогіі, а ўкладальнік зборніка А. Масарэнка прадставіў маладых аўтараў. Потым свае вершы чыталі Аксана Камінская, Таццяна Сямірская, Сяргей Патаранскі, Ілля Мажар, Янка Лайкоў. Атмасферы шчырай увагі ў значнай ступені спрыяла і тое, што і ў саміх сценах гэтай навучальнай установы здаўна жыве дух творчасці. Тут ужо шмат гадоў існуе творчая суполка "Маладзічок". Кіраўнік суполкі, маладая паэтка з Валожыншчыны, навучэнка каледжа Аня Кананович расказала гасцям пра гісторыю стварэння літаб'яднання, а таксама пачытала свае вершы. Члены суполкі маюць і свой друкаваны орган — газету "Веснік педкаледжа" з літаратурнай старонкай. Гасцям даспадобы прыйшоўся дэвіз газеты: "Мілы дружа, дзе ні йдзеш — завітай у педкаледж". Галоўным рэдактарам выдання з'яўляецца выкладчык беларускай мовы і літаратуры А. Чэчат.**

Я. МЯДОЦКІ

## Імпрэзы ў Купалавым доме

**Сёлетні юбілейны год у музеі Янкі Купалы распачаўся вечарам-сустрэчай з адным са старэйшых мастакоў Беларусі Яўгенам Ціхановічам. Імпрэза была арганізавана ў гонар 90-годдзя мастака і чалавека, які меў шчасце ў свой час быць знаёмым з Янкам Купалам. Яго аповед-успамін пра мінулае і відэафільм, дзе Яўген Мікалаевіч адказвае на пытанні Уладзіміра Содаля, выстаўка унікальных экслібрысаў мастака (а іх каля сотні), з удзячнасцю ўспрыняты наведвальнікамі музея.**

**Нядаўна ў Купалавым доме адбылася яшчэ адна прэзентацыя. На цэлы месяц у музеі "прапісаліся" работы мастакоў творчага аб'яднання "Верасень", якое існуе ўжо больш за 10 гадоў. Суполка налічвае каля трох дзесяткаў вядомых творцаў. Большасць з іх сталі ўдзельнікамі выстаўкі — Т. Беразенская, С. Волкаў, Я.Жылін, В. Кліменка, М. Казлоў, М. Міронаў, Я. Ларчанка, І. Лобан, Георгій, Наталля і Кацярына Паплаўскія і сям'я мастакоў Марачкіных, М. Сенькін, Т. Чарнышова і У. Шнарэвіч.**

**Некаторыя аўтары з'яўляюцца даўнімі сябрамі музея, як да прыкладу Міхась Міронаў і Георгій Паплаўскі. Цыкл М. Міронава "Па купалаўскіх мясцінах. Яхімоўшчына" і серыя "Янкавы горы", а таксама ілюстрацыі Г. Паплаўскага да паэмы "Яна і Я" і да кнігі "Слова аб палку Ігаравым" у перакладзе Янкі Купалы — захоўваюцца ў фондах музея.**

**Імёны такіх мастакоў, як Сяргей Волкаў, Віктар Кліменка і Мікалай Казлоў таксама занесены ў спіс аўтараў мастацкай купаліяны — ілюстрацыі да дзіцячай кнігі "Хлопчык і лётчык" зроблены Сяргеем Волкавым, кніга Я. Купалы "Паэмы" аформлена Віктарам Кліменкам, а апошні збор твораў Янкі Купалы выходзіць у афармленні Мікалая Казлова.**

Л. МАКАРЭВІЧ

ВІНШУЕМ!

# З лімаўскай кагорты

## Хведару ЖЫЧКУ — 75

*Родам Хведар Дзмітрыевіч з пасёлка з касмічнай назвай Марс Жлобінскага раёна. У 1944—1951 гадах служыў на Балтыйскім ваенна-марскім флоце, пасля працаваў у рэдакцыях газет "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі" (цяперашняя "Раніца"), часопісе "Бярозка". У 1959 годзе скончыў у Маскве Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Загадваў рэдакцыяй выдавецтва "Беларусь", быў галоўным рэдактарам "ЛіМа", старшым рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". Як паэт дэбютаваў у 1947 годзе на старонках часопіса "Полымя". Выдаў кнігі паэзіі "Стой на вахце, сэрца", "Росныя лілеі", "Настой", "Абеліск", "Абавязак", "Карэц калодзежнай вады", "Абрус" і іншыя. Плённа працуе і ў галіне дзіцячай літаратуры, што, у прыватнасці, засведчылі аповесці "Каштанавы "Масквіч", "Піфагоравы штаны", "Зброю бяруць сыны", "Дзе растуць бяссмертнікі", а таксама зборнікі апавяданняў, кніга вершаў "Сонца скача па траве". У сааўтарстве з П. Беразняком напісаў кнігі апавяданняў і фельетонаў "Сукенка ў крапінку", "Лясныя страхі". Аўтар зборніка гумарэсак "Спагадлівыя людзі". Ярка раскрыўся і перакладчыцкі талент пісьменніка. За пераклады і прапаганду чэшскай і славацкай паэзіі ён удастоены звання лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Віцезслава Незвала, а таксама ўзнагароджаны дыпломам і медалём Славацкага літаратурнага фонду.*

*З 75-годдзем, шаноўны Хведар Дзмітрыевіч! Няхай Вам яшчэ доўга жывецца і хораша пішацца!*

Хведар ЖЫЧКА



### Госці паехалі...

*Адзвінелі госці і паехалі...
Зноўку ў хаце — сум і цішыня...
На канапцы, дзе гулялі дзеці,
бесклапотна дрэмле кацяня.*

*І бабуля апусціла рукі;
коціцца слязінка па шчацэ,
шэпчуць вусны:
"Родненькія ўнукі,
ці дасць Бог пабачыць вас яшчэ?.."*

*І цалуе ўнучкаю забыты
паркалёвы змяты фартушок...
Вечарэе...
Над кустом ракіты
выплывае з хмар маладзічок...*

### Калі б у цуды я не верыў...

*Калі б у цуды я не верыў,
дык не псаваў бы і паперы,
у рыфму слоў не падбіраў...
Ці ж мала ў свеце іншых спраў?
Зямлю б араў,
рубіў бы зрубы,
на скрыпцы граў,
дудзеў бы ў трубы,
ці кашаварыў,
печ разводзіў,
або слясарыў на заводзе,
ці падганяў бы
вокны,
дзверы...*

*Калі б у цуды я не верыў...*

•

*Пацішэе толькі на світанні,
зоркі заміргаюць весялей.
І ў тым зорным мігатлівым ззянні
прысмірэе, сціхне снегавей.*

*Я прачнуся,
гляну за фіранку,
усміхнуся свежай белізне,
нібыта сурвэтку-самабранку
ўбачу я напраўду, а не ў сне.*

### Аблокі

*Над полем,
над вершалінамі бору
плывуць аблокі ў сінюю прастору,
і летам і зімой плывуць
над нашым краем.
У радасці — мы іх не заўважаем,
і толькі ў час бяды
жальбы і
і слёз
да іхняга
мы свой прыпадабняем лёс.*

### Варона

*Навошта я прагнаў варону
з закрыліны пахілай хаты?
Няма ж ні права,
ні закону
рабіць на песню забарону,
хоць песня тая —
крык хрыпаты...*

*Навошта ж я прагнаў варону
з закрыліны пахілай хаты?*

### Дарунак роднай зямлі

*За прывідамі велічы і славы
ганяцца я, паверце, не прывык,
бо не было ніякае падставы
мне лезці ў ганаровы пералік
праслаўленых,
вядомых,
знакамітых, —
зусім не падыходзіў я туды,
бо — з мужыкоў,
з лапцей
і шэрых світак,
з галечы
і бясхлебнае жуды.*

*Такім вось і застаўся бессаслоўным,
калі глядзець і сёння ўжо, здаля,
і ўдзячны тым прыгожым
чыстым словам,
якія дорыць родная зямля.*

### Неперспектыўная вёска

*Дарогі, што ў родную вёску вялі,
даўно баркуном і травой зараслі.*

*Туды не праехаць ніякай парой,
не толькі дарог — няма й вёскі самой:
ні хат, ні двароў,
ні хлявоў, ні платоў,
нібыта якісьці тут морак прайшоў.*

*А я ж нарадзіўся не дзесьці, а ў ёй,
і зваў тую вёску радзімай сваёй.*

*Адтуль жа, з хацінкі пахілай старой
у школу вучыцца хадзіў баразной,*

*адтуль на вайну я пайшоў юнаком
і марыў вярнуцца калісьці
ў свой дом...*

*Хоць вёску спаліць не паспела вайна,
але перспектыўнай не стала яна:*

*туды не праклалі ніякіх шляхоў,
бо там не рабілі ніякіх будоў...*

*Адсюль толькі бралі людзей маладых
і пасылалі іх ў гарады...*

*Стаю і гадаю: дзе ж хата была?
Сцяжына дзе тая, што ў людзі вяла?*

*Далёка за лесам дымяць каміны —
гартуецца песня чыёйсьці вясны.*

### Уцякай ад старасці...

*Жыў бягом я — уцякаў ад старасці
і не думаў да яе дажыць.
Ды ўцячы не змог во: перастаў расці,
сам стаю, а час — бяжыць, бяжыць...*

*І не спыніш аніякай сілаю,
ні пагрозай,
ні кляцьбой-мальбой...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ясны месяц над вярбой пахілаю
нахіліўся — даўні сябар мой.*

### Адчынім вокны!

*Адчынім жа вокны: вунь ранак ідзе,
прэч гоніць і змрок, і задуху.
Адчынім жа вокны: няхай светлы дзень
выветрыць з душ нашых скруху.*

*Адчынім жа вокны: вунь ранак ідзе,
сагрэе і дрэвы, і хаты;
а ключ жураўліны вясну прывядзе,
і песняй прывецяць дзяўчаты.*

*Адчынім жа вокны: вунь ранак ідзе
і лесам, і лугам, і полем.
Адчынім жа вокны: прыходзь,
новы дзень
з надзеяй на шчасце і волю!*

### Туман

*Туман плыве.
Туман мяняе існасць
і часта цень наводзіць на пляцень:
фантазіяй ён робіць рэчаіснасць
і казкаю — звычайны будны дзень.*

*І нездарма
мы сонцу гэтак рады,
калі яно дае пачатак дню,
бо толькі сонца
адкрывае праўду
і разганяе міражоў хлусню.*

### Цяжкі пераход

*Нялёгка будзе мне адолець пераход
з зямнога пекла ў рай нябесны.
Прывык я да нястач і да нягод
на гэтым свеце непрыветным, цесным.*

*А там — у Царстве Боскім — любата:
і харастdа,
і воля,
і дастатак,
куды ні глянь — прывабнасць, пекната,
куды ні кінься — згода і парадак...*

*Як сцерпіцца з такім душа мая,
прывыклая да кпінаў і прымусу!
"Не, не! — разважыў цвёрда я, —
у рай трапляць нявартa беларусу.*

*Ягоны лёс — усюды, як і тут,
валэндацца з бядой беспрастанку,
гібець-марнець ад жудасных пакут,
пакорліва цягнуць
да скону лямку;*

*ягоны лёс — чужое поле жаць,
чужых дзяцей карміць,
вучыць і песціць,
а ўсё сваё — таптаць і зневажаць,
і на Галгофу крыж абразы несці;*

*крадком любіць свой край і свой народ,
употайкі спяваць матулі
роднай песні..."
...Нялёгкім будзе гэты пераход —
з зямнога пекла ў рай нябесны.*

### Ламсадзе з Замошша

— Непасрэдственна, — гаварыў Давід Іванавіч, — непасрэдственна, добрая сёння азіміна вырасла!

Яго грузінскі акцэнт было не вытравіць нічым, як тое пустазелле на полі.

Па адукацыі ён быў аграном, скончыў Горацкую сельгасакадэмію і на палях роднага саўгаса, якім нязменна кіраваў ужо каля двух дзесяткаў гадоў, адчуваў сябе як рыба ў вадзе.

Занесла хлопца з Поці ў Беларусь, як і многіх у той час, па волі мясцовага ваенкамата. Тут салдат і сустрэў сваю Людмілу, або, як ён яе называў, Лудку. Адвучыўшыся, забраў яе з сабой у вёску пад Полацкам, дзе і нарадзілі яны прыгожую дзяўчынку Ірыну.

— Дочынька, — клікаў за сяброўскі стол у кватэры, куды запрашаў усіх, хто прыязджаў у саўгас, Давід Іванавіч. — паробіш, каўказскі чалавек, а з намі як пахарошаму можна?

Ды беды пачалі сыпацца на сівую галаву Ламсадзе адна за адной. Спачатку прызналі малакроўе ў дачкі. Наваэіўся па курортах, папацягаў да ўрачоў, — усё дарэмна. Прыгожая дзяўчына няўхільна згасала.

Хавалі дачку Давід Іванавіч з жонкай на вясковых могілках. Ні слязінкі не ўпала ў бацькі, ні ў час пахавання, ні за жалобным сталом. Толькі праз некалькі дзён з'явіўся на рабоце на мыліцах: ногі перасталі слухацца. Так на мыліцах і застаўся, і ніхто з дактароў не мог сказаць, адкуль раптам у чалавека з'явілася такая хвароба.

А дні ішлі. За рулём ужо Давід Іванавіч самастойна ездзіць не мог. Нават калі на нараду ў раён прыязджаў, шафёр выносіў яго з машыны, падаваў мыліцы, і разам яны падымаліся на другі паверх у залу пасяджэнняў.

Аднойчы я прыехаў па справах да

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# З цыкла "Шляхі і вяртанні"



раённага начальства і сустрэў у прыёмнай Давіда Іванавіча. Ён пазнаў мяне, заўсміхаўся, памкнуўся быў абняць, але заблытаўся ў мыліцах, і я ледзь утрымаў яго, каб той не паваліўся.

— Вот бачыш, непасрэдственна, які я стаў? — сумна зірнуў на мяне Ламсадзе. — Усё, едзем з Лудмілкаю у Грузію. Толькі што вось заяву падпісаў. Брат кажа, можа, там мае ногі папраўяцца!

— Што ж, Давід Іванавіч! Хай Бог дае. Хай там вам добра будзе!

— Спасыба, дарагі. У госці буду зваць — прыедыш?

Ён стараўся быць бадзёрым, але гэта яму слаба ўдавалася. Грузны, сівы, Давід Іванавіч выглядаў васьмідзесяцігадовым старым.

Амаль праз год я завітаў на родную Полаччыну.

— Як там у "Світанку"? Хто цяпер замест Давіда Іванавіча? —- спытаў я ў рэдактара раёнкі.

— Як хто? Ён і застаўся. Напісаў тады заяву і стаў збіраць рэчы. Нават пераемніку ключы ад кабінета перадаў. Выйшаў з раніцы на панадворак, а там ужо народ стаіць. Даяркі, механізатары, бабыпенсіянеркі.

— Куды, Іванавіч, сабраўся. Не пусцім цябе нікуды. Жыві тут! На руках будзем насіць, толькі не ад'язджай! І тут Ламсадзе заплакаў. Дачку хаваў — ні слязінкі не праліў, а цяпер выў, як бабёр. А з ім і бабы галасілі.

Так паплакалі-паплакалі, пакланіўся ён люду ў пояс і адправіў шафёра здаваць білеты. Так і жыве ў Замошшы, толькі не дырэктар ужо, а намеснік па сацыяльных пытаннях.

Да Замошша я тады, на вялікі жаль, не даехаў. А так хацелася завітаць у знаёмую хату, пачуць ламсадзеўскае "непасрэдственна" і моўчкі прыціснуць да грудзей гэтага сівога чалавека, дарагога і блізкага, як мая родная зямля.

працавала настаўніцай нямецкай мовы. У час акупацыі была перакладчыцай у немцаў, пра што таксама казалі шэптам.

Жыла яна з двума сынамі (старэйшы, Сева, ужо быў жанаты і меў сваё жытло) у саўгаснай кватэры — палове звычайнай сялянскай хаты, дзе, дарэчы, казала мама, жылі мы пасля майго нараджэння.

У хаце Пакасаў (такое рэдкае ў нашых мясцінах прозвішча насіла сям'я) заўсёды панаваў гармідар. Са столі звісала павуцінне, усюды валяліся нямытыя кашулі, бялізна, са стала посуд не прыбіраўся, здаецца, тыднямі.

Між тым сама Ганна Пятроўна была заўсёды акуратна прычасаная, з нафарбаванымі вуснамі і падведзенымі брывамі.

Гарык вечна трапляў ва ўсялякія прыгоды. То ён на поўным скаку, з нагружанымі бульбай калёсамі ўрэзаўся ў суседскі плот, а сам трапіў пад кола, паламаў нагу, то, выраблючы нейкую выбуховую канструкцыю, апаліўся порахам і ледзь не застаўся без вока, то быў заблудзіўся ў лесе, і яго шукалі тры дні.

Ён скончыў сем класаў, вучыцца далей не стаў і цэлымі днямі ганяў галубоў. Да яго часта прыходзілі галубятнікі з блізкіх вуліц. Галубятнікаў у нас было шмат. Я іх баяўся, бо ўсе яны былі хуліганы, бывала, што пераманьвалі адзін у аднаго птушак, потым біліся паміж сабой. Многія з іх былі з татуіроўкай, некаторыя, казалі, сядзелі ў турме.

Галубятня ў Гарыка таксама была нейкая нехлямяжая, касабокая, драбіны, здавалася, вось-вось развалiцца. Ці ж ён краў, ці ў яго, але Гарык часта быў пабіты.

Іншы раз, асабліва ўдзень, калі рабіць не было чаго, ён клікаў па-суседску мяне і пачынаў расказваць пра прачытаныя кніжкі, усялякія гісторыі, часта вельмі пахабныя. Я быў дзесяцігадовым хлапчуком, а ён шаснаццацігадовым падлеткам, і наша сяброўства ўсіх вельмі дзівіла.

Аднойчы Гарык вынес на вуліцу баян, інструмент гэты застаўся ад Віктара, які пасля службы ў марфлоце вярнуўся ў Калінінград. Гарык іграць не ўмеў. Больш за тое, мяркуючы па ўсім, мядзведзь яму не толькі на вуха наступіў, але, як гаворыць адзін мой сябра, і папатаўся ўсімі чатырма лапамі.

Ды іграць вельмі хацелася, і Гарык штодзень стаў мучыць няшчасны інструмент. Ён купляў кніжкі для самавукаў, уважліва чытаў іх, вучыў нотную грамату, а потым прымушаў мяне правяраць, ці правільна ён націскае на кнопкі.

На кнопкі націскаў ён, бывала, і правільна, але мелодыя ніяк не давалася, выслізгвала з-пад яго нязграбных пальцаў, і атрымліваўся нейкі піск і стогн.

Ужо нават я вывучыў некалькі акордаў вальса "Амурскія хвалі", а ў Гарыка ўсё нічога не выходзіла. Але ён не здаваўся.

І вось нарэшце ў яго атрымалася. Вальс "Амурскія хвалі", хоць і не зусім стройна, але ўсё ж шырока разліўся па наваколлі. Гарык шчасліва ўсміхаўся і ўсё паўтараў і паўтараў утаймаваныя акорды.

Такім жа чынам ён вывучыў "Польку Янку", на чым рэпертуар і завяршыўся, бо гэтыя дзве мелодыі аднялі столькі сіл і часу, што на астатнія ў Гарыка проста ўжо моцы не было.

Так ляцеў час, і надышла пара хлопцу ісці ў войска. Праводзілі яго, як і ўсіх, — з двухдзённай п'янкай, песнямі і бойкамі.

Але праз паўгода Гарык вярнуўся. Што там здарылася ў войску, так ніхто і не даведаўся.

Гарык значна пацішэў, стаў задумлівы, на баяне іграў рэдка. Пайшоў працаваць на "ліцейку" — у арцель, дзе выраблялі сякеры і плугі. З працы ён прыходзіў нейкі нібы закапцелы, выціснуты, моўчкі курыў на ганку і мала з кім уступаў у гаворку.

І раптам усё памянялася. Гарык стаў зноў жвавы, вясёлы, а ў закінутай галубятні зноў завуркаталі шызакрылыя птушкі. У Гарыка з'явілася жанчына. Ды не абы-якая — блакітнавокая прыгажуня Ліда, так звалі яе, працавала з ім на заводзе. Яна была невысокая, але зграбная, усмешлівая, і Гарык глядзеўся побач з ёй як блазан побач з каралевай.

Ганна Пятроўна пераехала жыць да старэйшага сына, даглядаць унукаў, і Гарык з Лідай гаспадарылі ў хаце ўдваіх. "Нарэшце хлопец сваё шчасце знайшоў, — казала мама, — а то ўсё ніяк не складвалася. Хоць Ганна Пятроўна цяпер супакоіцца".

Ліда мне падабалася. Такая кампанейская, прывабная. Трымалася яна са мной як з роўным. Аднойчы, калі я быў у іх з Гарыкам і яны жартаўліва тузаліся паміж сабой, яна раптам праз яго плячо паказала мне, нібы гарэзнае дзяўчо, язык і змоўніцкі падміргнула.

Мне ўжо тады было шаснаццаць, і я зачырванеўся ад такой нечаканасці, бо ўбачыў у гэтым не проста суседскае сяброўства.

Відаць, інтуіцыя мяне не падманула: Ліда загуляла — то там, то там бачылі яе з рознымі мужчынамі, не заўсёды яна начавала дома. Гарык зноў счарнеў, неяк сцяўся, стаў маўклівы, часта ад яго пахла гарэлкай.

А Ліда харашэла. Яна станавілася ўсё прыгажэйшай і прыгажэйшай, пакруглела. Вусны цяпер былі заўсёды ярка нафарбаваныя, на іх блукала нейкая таямнічная спакусная ўсмешка.

Незнаёмыя мужчыны сталі бываць ужо ў іхняй хаце. Гарык усё часцей напіваўся, а з хаты па вечарах чуўся залівісты Лідзін смех, музыка, мужчынскія галасы.

"Вось мужык дае, — гаварылі ў пасёлку. — На вачах жонка згулялася, а ён хоць бы хны".

"Любіць моцна", — іранізаваў нехта.

Не ведаю, колькі б такое працягвалася, але аднойчы ля Гарыкавай хаты ўсе ўбачылі міліцэйскі "варанок". З хаты выйшаў Гарык у суправаджэнні двух міліцыянераў. Рукі яго былі складзены за спіной, галава апушчана долу.

Аказалася, што прачнуўшыся пад раніцу, Гарык застаў Ліду з чарговым ухажорам у самы цікавы момант. Схапіў чапялу і адхвастаў госця, ды так, што на ўсё жыццё зрабіў калекам.

Яму далі год, улічваючы ўсе абставіны. Ліда яшчэ пажыла пару месяцаў у хаце адна, а потым некуды з'ехала. Часам забягала Ганна Пятроўна у печы выпаліць ды павуцінне змесці.

У гэты час мы ўжо выехалі з пасёлка. Пра Ганну Пятроўну, Гарыка я больш нічога не чуў. Праляцелі гады. Аднойчы на базары да мяне падышоў сівы бяззубы стары. Рукі ў яго трэсліся, твар быў заплылы, азызлы.

— Не пазнаеш? Я Гарык, Ганны Пятроўны сын, — загаварыў ён хрыплым голасам. — Можа, на піва дасі? Пасуседску, — і ён неяк рыпуча зарагатаў.

Я дастаў кашалёк і моўчкі сунуў яму грошы. У вушах чамусьці загучаў баян, які фальшыва выводзіў вальс "Амурскія хвалі". Я не заўважыў, як адышоў Гарык, я бачыў наш пасёлак, прыгожы летні дзень і шчаслівую ўсмешку на твары танклявага юнака.

 ЧАСАПІС

## Спадчына Каламійцавай

Багаты падарунак атрымалі вучні і выкладчыкі Рэспубліканскага музычнага комплексу гімназія-каледж пры Беларускай акадэміі музыкі. Каля 500 грамафонных дыскаў з запісамі выдатных выканаўцаў класічнай спадчыны перадала нашай установе Рыма Барысаўна Быкава. Гэтыя дыскі на працягу многіх гадоў збірала выдатны беларускі дырыжор народная артыстка рэспублікі Таццяна Міхайлаўна Каламійцава, якую ў апошнія гады яе жыцця Р. Быкава лячыла. Рыме Барысаўне Т. Каламійцава завяшчала сваю фанатэку, якую доктарка падаравала нашаму каледжу. Цяпер будучыя музыкі і іх педагогі маюць магчымасць вучыцца на прыкладзе лепшых майстроў сусветнага інструментальнага, опернага, дырыжорскага мастацтва. Дазвольце праз вашу газету выказаць шчырую падзяку Р. Быкавай за тое, што яна так высакародна распарадзілася спадчынай выдатнага беларускага дырыжора.

Уладзімір КУЗЬМЕНКА

## Ёсць талент, ёсць працавітыя рукі

Менавіта гэты выраз кідаецца першым у вочы, калі зайсці ў невялікі і ўтульны зал Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў (вул. Макаёнка, 12). Тут з 12 па 14 сакавіка праводзіўся першы ў нашай краіне Рэспубліканскі фестываль дзіцячага аматарскага відэа пры падтрымцы Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН у Рэспубліцы Беларусь. Арганізатарамі гэтай знамянальнай падзеі былі Грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя недзяржаўнага тэлебачання" (БАНТ) і Установа адукацыі "Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў".

Адметная рыса фестывалю ў абмежаванні ўзросту яго ўдзельнікаў — да 18 гадоў. Цікава адзначыць, што самай малодшай канкурсантцы ўсяго 11.

Мэта фестывалю — пошук новых талентаў і ідэй сярод маладых аўтараў.

У конкурсе былі прадстаўлены работы па самых розных намінацыях: сацыяльныя ролікі "У XXI стагоддзе — здаровымі", фільмы па тэмах "Мой край", "Гумар", "Добрая справа" і інш.

Па словах старшыні журы Генадзя Хлабыстага, будучыня беларускага кіно — за цяперашнімі аматарамі-энтузіястамі. Генадзь Васільевіч з радасцю адзначыў, што і ў цяперашні "шалёны час" сярод нашай моладзі можна знайсці вялікі патэнцыял, які абавязкова праявіцца ў творчасці. "Застаньцеся! Стварайце!" — з такім заклікам да моладзі звярнуўся старшыня журы Генадзь Хлабыстаў.

Аліса ІГНАЦЕНКА

## Слаўныя імёны Беларусі

Прыхільнікі выяўленчага мастацтва не могуць не ведаць імя Міхала Эльвіра Андрыёлі. Італьянец па паходжанні, ён нарадзіўся ў Вільні, вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства, паспяхова скончыўшы якое, удасканальваў майстэрства ў Італіі. Удзельнічаў у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Але далёка не ўсе ведаюць, што М. Э. Андрыёлі, сасланы ў Вятку, быў настаўнікам будучых вядомых рускіх мастакоў В. і А. Васняцовых. А даведацца пра гэта можна з энцыклапедычнага даведніка "Асветнікі зямлі беларускай", выпушчанага выдавецтвам "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі.

Гэта не першая спроба аўтарытэтнага ў краіне выдавецтва пазнаёміць шырокага чытача з гісторыяй развіцця філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі праз біяграфіі яе лепшых прадстаўнікоў. Яшчэ ў 1995 годзе з'явілася кніга "Мысліцелі і асветнікі Беларусі", якая хутка разышлася і сёння стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Новае ж выданне, у параўнанні з папярэднім, не толькі дапрацавана, а і дапоўнена. Адметнасць і ў тым, што калі ў "Мысліцелях і асветніках..." артыкулы-персаналіі былі аб'яднаны ў асобныя перыяды, што стварала пэўныя нязручнасці пры карыстанні, дык цяпер жа цалкам вытрыманы энцыклапедычны прынцып алфавітнага размяшчэння матэрыялаў.

Прадстаўлена каля 750 біяграфій дзяржаўных, грамадска-палітычных і рэлігійных дзеячаў. Належнае месца адведзена філосафам і педагогам, падарожнікам і выдаўцам. Расказваецца пра знакамітых пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў. Можна пазнаёміцца з выдатнымі дзеячамі рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызваленчага руху. Пры гэтым складальнікі даведніка кіраваліся тым, каб пэўны дзеяч нарадзіўся на этнічнай тэрыторыі Беларусі. Часава ж выданне ахоплівае X стагоддзе — пачатак XX-га.

Паколькі кніга энцыклапедычнага характару, у кожным артыкуле згадваюцца біяграфічныя звесткі пра чалавека, пра якога расказваецца, называюцца яго асноўныя рукапісныя і друкаваныя працы, навуковыя адкрыцці, вынаходствы. Па меры магчымасці прыводзіцца бібліяграфія. А гэта сведчыць на карысць таму, што "Асветнікі зямлі беларускай" зацікавяць усіх, хто цікавіцца пытаннямі гісторыі, філасофіі, хоча паболей ведаць пра развіццё нацыянальнай грамадскай думкі і асветы, а калі дакладней — жадае адчуваць сябе нацыянальна свядомым беларусам.

Ігнат ВЯЛЕВІЧ

САМ-НАСАМ З РАДЗІМАЙ І ЧАСАМ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Ён вяртаў да жыцця і дзеля жыцця нашае адвечнае

У кастрычніку 1995 года на адной з канферэнцый у актавай зале Акадэміі навук Беларусі я атрымаў у падарунак ад сімпатычнага маладога чалавека кнігу. Глянуў на вокладку, на прозвішча аўтара. Успомніў, што мы калісьці знаёміліся, а іменна тады, калі я быў членам Вучонага Савета па абароне дысертацый пры ІМЭФ АН і, натуральна, нярэдка прыходзіў у інстытут. Гэта быў Уладзімір Мінавіч Сысоў, этнограф і фалькларыст, даследчык традыцыйнай беларускай народнай культуры, а прэзентаваная мне кніга называлася "Беларуская пахавальная абраднасць". Помню, адразу ж хораша падумалася: "Нарэшце! Нарэшце і гэтая ніша ў нашай сучаснай этнаграфічнай навуцы запоўнена!" Чаму нарэшце? Таму што, сапраўды, гэта дзялянка народнага побыту і народнай духоўнай культуры — пахавальная і памінальная абраднасць — у значнай меры абміналася ўвагай даследчыкаў як штосьць другараднае і малазначнае. Гэта ішло ад таго бальшавіцкага рэвалюцыянізму, які запанаваў у савецкай гістарыяграфіі, этнаграфіі і фалькларыстыцы яшчэ ў 20—30-я гады. "Далоў усякую старасветчыну, усякую даўніну ў галіне духоўнасці! А тым больш усё тое, што датычыць сямейнага побыту — радзінных, вясельных і пахавальных абрадаў! Будзем і нараджацца, і жаніцца, і паміраць па-новаму, па-савецку! Новыя створым рытуалы, новыя! Нічога з тае язычніцкай і хрысціянскай старыны не возьмем! Прэч усе тыя даўнейшыя вераванні і абрады, бо гэта — шкодныя для нас забабоны і прымхі, гэта — папоўшчына і чартаўшчына, опіум для народа! Далоў і толькі!"

Ну дык жа і пастараліся расправіцца з гэтай "Шкоднай старыною"! Дзесяткі гадоў партыйныя прапагандысты і агітатары вялі барацьбу за новы лад жыцця — гэта значыць за выкарчоўванне з побыту такіх старажытных каляндарных свят, як Каляды, Вялікдзень, Купалле, за вытраўленне з маральнай самасвядомасці чалавека пашаны да векавечных сямейных традыцый, да неймаверна багатай абраднасці, якая суправаджала сямейныя ўрачыстасці — нараджэнне дзіцяці, стварэнне новай сям'і і развітанне з родным-блізкім, каго "Бог паклікаў да сябе". Дзікунства ў адносінах да ўсталяванага ў жыцці народа культу продкаў, ці інакш "дзядоў", нанесла велізарныя страты народнай маральнасці і духоўнасці. І, аднак жа, канчаткова не перамагло. І калі надышоў новы час — час нацыянальна-дзяржаўнага і культурнага адраджэння Беларусі, — з незвычайнай інтэнсіўнасцю пачалі адраджацца і занядбаныя народныя традыцыі, звычаі, абрады, фальклор. Пра гэта — пра незвычайнае багацце пахавальных і памінальных рытуалаў і адпаведнага абрадавага фальклору на Беларусі, пра іх жывучасць ці, калі хочаце, несмяротнасць, пра іх глыбока чалавечую, гуманістычную змястоўнасць і была падараваная мне кніга У. М. Сысова.

Помню, з якой цікавасцю і пачуццём радасці я чытаў гэту таленавіта напісаную манаграфію. Радавала многае, і перш за ўсё — вялікая нераўнадушнасць аўтара да прадмета даследавання. І тое, што ў кнізе, побач са спасылкамі на працы старых этнографаў, шмат матэрыялаў зусім новых, пераважна ўласных назіранняў і запісаў вучонага, і таму агульная карціна стану пахавальнай абраднасці пададзена такою, якою яна ёсць сёння, на сучасным этапе, з канстатацыяй усяго таго, што яшчэ жыве, і з пераканаўчым тлумачэннем, чаму жыве, у якой меры мы верныя традыцыям народнай культуры. А яшчэ, чым мяне прыемна ўразіла і ўсцешыла кніга маладога навукоўца, — гэта сучасная метадалогія даследавання. У. М. Сысоў — можна было зрабіць выснову — належыць да ліку тых, хто вяртае нашай этнаграфіі тое, што было ўласціва ёй у дакастрычніцкі час: грунтоўнае засваенне тэарэтычнай літаратуры, глыбіня пранікнення ў філасофскую сутнасць з'явы і ў яе гістарычныя вытокі, тэрміналагічная аснашчанасць, — хто вызваляе такім чынам гэтую навуку ад павярхоўнага апісальніцтва, ад прыблізнасці ў меркаваннях і аргументацыі.

ВЕЧНАЕ

# Жылі і жыць будзем!

ЯШЧЭ РАЗ ПРА "АЛІМПІЯДУ" Івана ПТАШНІКАВА

На Беларускім радыё закончыліся чытанні рамана Івана Пташнікава "Алімпіяда". Пры ўсёй трагедыйнасці падзей, раман "Алімпіяда" — аптымістычны, не пакідае гнятлівага адчування, бо створаны на аснове народнай маралі і азораны душэўным і духоўным святлом філасофіі пісьменніка-патрыёта, гуманіста.

М. Гогаль сказаў, што талент бярэ звычайнае, а пасрэднасць хапаецца за надзвычайнае. І. Пташнікаў, прайшоў пуцявінамі вясковага, непрыхарошанага жыцця, дзе прыгажосць дадзена не тонамі, а грамамі, на, здавалася б, скупым матэрыяле даў суадносіны Дабра і зла. Духоўнасць у яго — вышэйшага парадку, а таму няма вульгарнай мадыфікацыі быту, няма заігрывання перад чытачом, існуе адпаведная філасофская хваля. Ён пранікае ў эмацыйны свет чытача па-майстэрску і абуджае яго да Дабра і Стварэння насуперак любым сусветным бедам, дакладна ведаючы, што дзеянні чалавека неўміручыя, паколькі Стварэнне — Вялікі Зямны Абавязак, вышэй за які нічога няма. Ён апантаны імкненнем зразумець характары сваіх герояў або даць зразумець іх чытачу і вядзе яго па жыццёвых выпрабаваннях, нібыта пытаючыся: "А ты як зрабіў бы?.."

Героі І. Пташнікава пазбаўлены акварэльнасці, але жыццёва, сурова праўдзівыя, выразныя. Пісьменнік прымушае адкрываць псіхалогію герояў, іх светапогляд, шляхам сутыкнення палярных стыляў жыцця і экскурсам у іх мінулае. Ён не маралізуе, не асуджае сваіх герояў: ён іх любіць, з імі дыхае.

Валодаючы неспасціжным прасторава-глыбінным уяўленнем, І. Пташнікаў не ўпускае ніводнага моманту і выкрышталізоўвае жыццё вёскі па крупінках, паколькі яно складаецца не з эпахальных адкрыццяў і "красивостей", а штодзённай Працы, імгненняў, дэталяў, крокаў, гукаў, пappend позіркаў.

Адчуваецца кожны ланцужок жыцця, усё адбываецца перад вачамі чытача (слухача) у гэты момант. Тоненькай нітачкай перамяжоўваецца вялікае, смешнае, трагічнае. Перасыпаюцца словы, як гарошыны: то вобразна, проста і сурова, то з гумарам, лёгка і светла. Малюнкі жывыя, яны дыхаюць. Пры мностве падрабязнасцяў няма сумятні слова. Гумар — прыкмета дасканалага розуму, і І. Пташнікаў смяецца добрым смехам, жыве жыццём герояў, думае іх катэгорыямі. На фоне гнятліва-шэрай абстаноўкі (спякота, пыл, нулявы жыццёвы патэнцыял Улімы), гумар падаецца, як лекі. (Хітра-мудры Пугач балбоча пра Турцыю-Настурцыю, злаключэнні Кораня, у якога канцы з канцамі не сыходзяцца, а ярасна тырчаць ва ўсе бакі, і жыве былы фінагент у паўтрызненні, купляючы чатыры бутэлькі на адну рыбіну і ў сумненні аб далучанасці да роднага-чужога рыжанькага Валеркі. Наймоцная сцэна, выратавальны прыём, які дапамагае хворай адчуць працяг жыцця, пасмяяцца, выклікаўшы такім чынам дадатковы рэсурс арганізма.)

Вышэйшым якасцям Чалавека і Пісьменніка І. Пташнікаў вучыцца ў Прыроды, якая ў рамане не толькі лекавая сіла, але і, як самастойная Сутнасць, дзейная асоба, бо няма нічога больш дасканалага і універсальнага за Прыроду. Нездарма прыводзіцца цэлы рэестр зёлак ад альдраванды да хвашча.

Малюнкі Прыроды сплецены арганічна з лёсамі герояў і з'яўляюцца сродкам у працівагу бядзе.

Падрабязнасцямі пісьменнік не разбаўляе падзеі да бясколернасці, а, наадварот, расчляняючы іх да ўзроўню "электронных арбіт", стварае аб'ёмнае, жывапіснае палатно жыцця, сатканае з мазаікі нават малазначных фактаў, па праўдзівасці і сіле ўздзеяння параўнальнае з жывапісам І. Шышкіна, паэмамі "Новая зямля" Я. Коласа, "Васіль Цёркін" А. Твардоўскага.

І. Пташнікаў з тонкім мастацкім пачуццём, багатым уяўленнем, фатаграфічнай памяццю, позіркам лазернага промня, які пранікае наскрозь, бачыць усё, быццам прысутнічае неадступна. Нішто не выслізгвае ад яго слыху, погляду: занатаваны кроплі, якія падаюць, раса, іржа, пот, цень ад хмаркі, пыл на дроце, машкара, чарвячок-землямер, гулкая вясковая цішыня, жывое дыханне на ферме, лязгат вядра, шапаценне галінкі аб аконнае шкло; апісанне звалкі, лоўлі зайца, выратавання Сіментала — вышэйшы пілатаж!

Праўду кажуць: хто не цэніць малога, той і вялікага не варты.

Надзіва вобразныя, нечаканыя параўнанні: "чыстая, такая прэсная аж салодкая вада"; "вейкі зліпаюцца, як маладыя, бярозавыя лісты"; "зубы залатыя гараць, як вуглі ў печы"; "Таня крутанулася і беласнежны матылёк у касе паляцеў услед за ёй". Якая дзівосная палітра супастаўленняў!

Няма цяжкасці ў І. Пташнікава для дакладнага выяўлення і самавыяўлення. Ён развівае мову, якая з'яўляецца квінтэсенцыяй асобы і майстэрства.

На матэрыяле рамана можна абараняць дысертацыі, складаць школьную праграму, таму што "Алімпіяду", відаць, варта прылічыць да тых 10-ці галоўных кніг, якія неабходна прачытаць у жыцці кожнаму. Раман — школа працавітасці, мужнасці, патрыятызму, сумленнасці, духоўнасці і прыклад таго, што подзвіг можа здзейсніць кожны.

Раман І. Пташнікава — своеасаблівы маральна-сацыяльны "асялок", на вастрыё якога прадастаўляецца унікальны шанц кожнаму чытачу:

1) ачысціць сваё сумленне і сувымераць каштоўнасць уласнага жыцця, асабліва тым, хто не спіць у начных клубах і дэманструе свой маветон прылюдна ў масавай колькасці, капрызна наракаючы на некамфартабельнасць фізічнай працы;

2) радавацца, што а) не табе ў 10 гадоў давялося (як Мяфодзю), восенню, у замаразкі, басяком бегаць у школу, у Ячнае (па карце за 30 км (!), або прамоклым па пояс у бездараж, сядзець на ўроках галодным; б) не табе ў сцюжу (калі, здавалася, шчокі адлучыліся ад твару і сталі жорсткімі), давялося адвозіць у бальніцу невылечнага бацьку; в) не табе ў жніво, у невыносную спякоту, калі паветра накалялася да выбуху, гнуць спіну на мяжы фізічных сіл, і каштоўнасць хвілін жыцця прыраўнівалася да глытка вады; г) не на тваіх вачах паліцаі везлі савецкіх параненых лётчыкаў, скручаных калючым дротам, і не ты быў сведкам катавання шампаламі пажылага Харбіна; (эпізоды з выратаваннем лётчыкаў Алімпіядай мацнейшыя за падзеі, апісаныя ў рамане "Заўтра была вайна", што пакутуе на многія выдумкі!) д) не ты ў 1946 галодным годзе, моўчкі, еў бліны з травы-рудзіка, душачыся ад ванітаў, і ўлоўліваючы ў вачах роднай маці велізарную крыўду на ўвесь белы свет; е) не табе давялося ў паўзмроку зразаць калгасныя каласкі жыта (за што знявольвалі па КК на 5 гадоў!), рыдаць ад безвыходнасці і прасіць, каб тыя гады "абышлі нават твайго самага лютага ворага"; з) памянуць усіх АЛІМПІЯД, якія ўздымалі гадамі, стагоддзямі спустошаную сваю зямлю, насуперак гулагам і лжэ-прарокам, якія прадказваюць пагібель Айчыны;

3) плакаць светлымі слязьмі радасці, што лёс не закінуў цябе ў куток разнавіднасці прыгоннага права, з якога дагэтуль не могуць вывесці суайчыннікаў новаз'яўленыя герастраты і псеўда-вучоныя, тыпу яўлінскіх, з іх хімерай "500 дзён". І было ад чаго гуманісту І. Пташнікаву сказаць словамі вялікай працаўніцы Алімпіяды: "Намучышся на гэтай зямлі, дык, здаецца, сама б у дамавіну легла і вечка над сабой сваімі рукамі закрыла".

А нам, сучаснікам, можна дадаць: "Іншы народ вымер бы даўно, але не наш! Ён жыве

Праз два гады выйшла яшчэ адна кніга У. М. Сысова — "З крыніц спрадвечных" (1997). На вялікі жаль, сам аўтар гэту выдатна падрыхтаваную кнігу не пабачыў: перад яе выхадам у свет ён трагічна загінуў. А кніга, паўтаруся, сапраўды выдатная. Гэта — свайго роду энцыклапедыя свят беларускага земляробчага календара і ўрачыстасцяў сямейных, — з падрабязным апісаннем усіх момантаў, абрадаў і рытуалаў кожнага свята, кожнай урачыстасці, прычым не суха-акадэмічным апісаннем, а хутчэй пісьменніцкім, зробленым жывой, эмацыянальнай мовай і з адпаведнымі кампазіцыйнымі прыёмамі (каб чыталася). У кожным раздзеле кнігі — шмат экскурсаў у старажытнасць, у дахрысціянскую даўніну, шмат народных песень, прыказак, прыкмет і павер'яў, цытат са Святога пісання, з біблейскіх легенд, што натуральна, у даступным кантэксце, далучае чытача да Бібліі і хораша паясняе змест свята, яго абрадаў і рытуалаў, само сабой — высвятляецца этымалогія назвы свята. А галоўнае: аўтар увесь час акцэнтуе ўвагу на маральна-філасофскіх асновах народнага светапогляду, на тым бессупярэчным факце, што ў народнай абраднасці ўсё было падпарадкавана клопату пра чалавека, пра яго духоўнае здароўе, усё было сцвярджэннем такіх рыс беларуса, як дабрыня, памяркоўнасць, працавітасць, любоў да дзяцей, да зямлі і прыроды, да ўсяго, што ёсць радасцю жыцця.

Зноў перагортваю памятны падарунак маладзейшага калегі. На тытульнай старонцы дароўчы надпіс: "...майму першаму настаўніку — фалькларысту і вучонаму — са шчырай удзячнасцю за падтрымку ў выданні гэтай кніжачкі..."

Як горка і скрушна на душы! Як заўчасна несправядлівы лёс абарваў жыццёвую і творчую дарогу таленавітага і самаахвярнага руплівіца на ніве беларушчыны! Як не хапае нам такіх руплівіцаў сёння.

*2002, люты*

НОВАЕ

# Музы ў Купалавым Доме

Месяц пад назваю "люты" быў на сюрпрызы багаты. Згадайма, напрыклад, вечар 27-га. На Мінск абрынулася такая залева! А да яе яшчэ і навальніца далучылася: з маланкамі напаўнеба, з гучным громам! Вось табе і музыка зімы... А між тым, знаны музычны калектыў, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхала Фінберга, прэзентаваў акурат надвячоркам 27 лютага новы творчы праект.

Нястомны маэстра са сваім аркестрам рыхтуе тэматычныя песенныя праграмы да юбілеяў Янкі Купалы ды Якуба Коласа. А камерныя калектывы, што працуюць у структуры гэтага вялікага музычнага арганізма, правядуць цыкл абанементных канцэртаў у сталічным Музеі Янкі Купалы. Урачыстае адкрыццё акцыі пад назвай "Музычныя сустрэчы ў Купалавым Доме" і адбылося ў той вечар.

Падчас невялічкай цырымоніі з удзелам дырэктара музея Жаны Дапкюнас, намесніка міністра культуры Беларусі Валерыя Гедройца і мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Міхала Фінберга (яго, дарэчы, павіншавалі з "дзвюма пяцёркамі" — прыгожай датай з дня нараджэння) гучалі прыгожыя і ёмістыя словы. Пра непараўнальна важкі ўнёсак гэтага музычнага калектыву ў прапаганду беларускай песні ды паэзіі. Пра ўсвядомленую неабходнасць многіх слухачоў узняцца на прыступку вышэй, наблізіцца да разумення музыкі камернай, прызначанай для больш цеснай, шчырай атмасферы. Пра тое, што талент, у якую б эпоху ён ні нарадзіўся,— заўсёды сучасны, і гэта вымушае людзей раз-пораз вяртацца да яго творчай спадчыны, а ў юбілейныя гады — з асаблівай цікавасцю. Пра тое, што гістарычныя постаці нібы далучаюць да сябе сучасных майстроў мастацтва, і нараджаюцца новыя ідэі, працягваецца творчая праца, развіваецца наша культура.

Першы канцэрт у Купалавым Доме правёў Ансамбль драўляных духавых інструментаў пад кіраўніцтвам знаных музыкантаў і педагогаў Барыса Нічкова ды Генрыха Гедыльтара. Такая розная і такая прыгожая музыка выконвалася! Густоўна і дынамічна "звярстаная" пяцічасткавая сюіта з "Полацкага сшытка". Папулярная віртуозная "скарамоўка" Д. Расіні — "Неапалітанская тарантэла". Канцэрт А. Вівальдзі для двух габояў. Сімфанізаваны вальс М. Глінкі з оперы "Іван Сусанін". Як рамантычны напамін пра духавы аркестр у гарадскім садзе — "Канцэртны вальс" У. Солтана. Нізка старадаўніх пацерак — пяць рознахарактарных кантрадансаў В. Казлоўскага...

Асаблівай вартасцю абноўленай праграмы ансамбля сталася выкананне твораў ужо амаль (і дарма!) забытага беларускага класіка XX стагоддзя М. Чуркіна. Угрунтаваныя ў фальклор, непаўторна прыгожыя, самабытныя мелодыі, нібы пазбавіўшыся колішняга знарочыстага этнаграфічнага акцэнту, раскрылі сваю прыроджаную шляхетнасць. Заставалася толькі здагадвацца: ці не старонкі хрэстаматыйнай сімфаньеты "Беларускія малюнкі" адлюстравалі выскародна-стрыманае і абаяльна-шчырае аблічча старасвецкай паненкі-Еўропы? Ці не безыменная местачковая скакуха дае фору класічным Штраусавым полькам?

Аранжыроўкі ўсіх твораў, прадстаўленых у праграме, зрабіў Г. Гедыльтар, тонкі знаўца тэхнічных і мастацкіх выяўленчых магчымасцяў ансамбля, дзе граюць, дарэчы, высакакласныя музыканты-духавікі, лаўрэаты міжнародных конкурсаў, у тым ліку студэнты Беларускай акадэміі музыкі.

Канцэрты камерных калектываў Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі прадоўжацца ў музеі аж да ліпеня. Затым — рэспубліканскае свята "Купалле" на радзіме песняра, у Вязынцы. Туды ўпершыню збіраюцца завітаць і музыканты на чале з маэстра М. Фінбергам. Працавіты яны, усё ж такі, люд: надзіва!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Г. ЖЫНКОВА*



пасля развалу ельцынымі-гарбачовымі вялікай дзяржавы, чарнобыльскай атамнай катастрофы і прадаўжае здзіўляць свет. І ёсць каму нам пакланіцца і стаць на калені, як стаялі і плакалі Мяфодзя і Таня перад Маці-Алімпіядай, і памятаць тых, хто прайшоў галгофу і напакутаваўся, як Міша Хрол. Не адолеюць нас разнашэрсныя ад палітыкі шаленцы і халуі!

"Жылі і жыць будзем!" — так паўтарае у рамане нетужлівы персанаж — Корань.

Можна стварыць геніяльны літаратурны твор, а прымітыўнае чытанне яго заб'е, калі ў артыста не хопіць агульнай культуры, духоўнай дасканаласці, сталасці — і шэдэўр не адбудзецца.

Творчае прачытанне артыстам Алегам Вінярскім рамана сталася майстэрствам добрага пачуцця, такту. Гэта той выпадак, калі ўзнікае чароўны кантрапункт, гарманічнае цэлае тэксту і яго агучвання, калі знойдзены эквівалент адчування Жыцця.

Перад артыстам стаяла задача максімум: адчуваць у сабе велізарную творчую сілу, здольную стварыць штосьці роўнае арыгіналу. І артыст не сарваўся з высокай ноты пісьменніцкага камертона І. Пташнікава. Нават часам здаецца, што І. Пташнікаў і А. Вінярскі — адна асоба, або сядзяць яны візаві і ствараюць гукавы фільм. Свая рытміка голасу, манера падачы тэксту не супярэчаць багатаму ладу пачуццяў пісьменніка, бо ў яго простае ўзведзена да свячэння Вялікай Праўды звычайнага Жыцця. Артыст не здраджвае ідэі, стылю, Слову, не фальшывіць і дасягае рэальнасці. Можна было слізгаць па сюжэце, але артыст пранік у сутнасць вобразаў і яны зажылі для слухача, сталі аптычна бачнымі; аднатоннае, цяжкае, але існуючае дзень за днём жыццё вёскі задыхала; захаваўся жыватворны сок гаворкі, Слова І. Пташнікава. Няспешнай, як вясковае жыццё, манерай чытання артыст падае ўсё без напалу, але праўдзіва. Лічу, што І. Пташнікаў ухваліў бы такое творчае перанясенне рамана ў эфір у выглядзе гукавой карціны, якую можна прылічыць да залатога фонду Беларускага радыё.

Адбылася кангеніяльнасць дзякуючы роўнавялікай філасофскай хвалі пісьменніка І. Пташнікава і артыста А. Вінярскага, як падобнае здарылася пры экранізацыі прозы В. Шукшына, што з'яўляецца рэдкім супадзеннем. А ў дадзеным выпадку адбылася, трэба разумець, прэм'ера Тэатра аднаго акцёра, хоць бы на той падставе, што Алег Аляксандравіч валодае інфернальнай (у добрым сэнсе) сілай таленту, здольнай валодаць увагай слухача, пранікаючы ў жывую тканіну Слова, імкнучыся да самабытнасці, індывідуальнай інтанацыі.

Хочацца пажадаць Пісьменніку і Артысту плённага, творчага спазнання Свету з тым, каб эстэтычна ўзбагачаць чытачоў і слухачоў духоўнай сілай, неабходнай для выхавання Дабра, Мужнасці, Гонару, Любові да Прыроды і Людзей.

**Таццяна ІГНАТОВІЧ**

# Спачатку было слова...

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4)*

**— З гэтай нагоды як выглядаюць, якім зместам насычаны артыкулы, парады і рэкамендацыі часопіса?**

— Да прыкладу, у адносінах да выкладання мовы пазіцыя "Роднага слова" наступная: у сярэдніх класах засвойваецца лексіка — урокі насычаюцца пераказамі, перакладамі, работамі па развіцці мовы; да 5-6 класа ўся культуралагічная тэрміналогія павінна быць засвоена, бо за кожным нашым тэрмінам — не толькі беларуская рэчаіснасць, але і цвёрдае перакананне ў тым, якая магутная культура за намі стаіць, і што мы, як неад'емная яе частка, павінны рабіць па адраджэнні і ўмацаванні беларушчыны.

Аўтары "Слова", як той колясаўскі Лабановіч, падштурхоўваюць вучня да крытычнага разумення беларускага жыцця... І калі гаворка ідзе пра літаратуру ў старэйшых класах, пры разборы любога твора ніяк не абмінуць тэму смерці, грамадзянскага самаахвяравання, нацыянальнай свядомасці, тэму інтымнай эратычнай лірыкі. Мы людзі, мы павінны ўмець не толькі любіць, але і кахаць... Асноўная тактыка часопіса — комплексны падыход у выхаванні маладога беларуса. Засведчылі яе з першага нумара ў 1988 годзе. Адзначалі тады 150-годдзе з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Падрыхтавалі серыю публікацый, у якіх пастараліся паказаць вобраз змагара за мужыцкую праўду ў яго раскрыцці на старонках літаратурных твораў, у выяўленчым мастацтве, на тэатральнай сцэне, у кіно і музыцы. Працу гэтую, як здаецца, не без поспеху працягнулі і ў наступных нумарах "Слова"... Яшчэ прыклад. У дапамогу настаўнікам-моваведам апублікавалі ў свой час распрацоўку ўрока па напісанні пераказа-апісання. Гаворка ішла пра помнік Максіму Багдановічу. Але пераканаліся, што галоўная праблема тут не **як** пісаць, **а пра што**. Таму распачалі серыю публікацый пра гісторыю стварэння на Беларусі гісторыка-літаратурных помнікаў...

**— Пытанне рубам. Як да нацыяналізму ставіцеся?**

— Беларускую літаратуру, культуру разглядаць ды вывучаць трэба толькі ў кантэксце сусветнай. Гэта неаспрэчна, гэта як працяг філасофскіх разваг аб дыялектычным адзінстве агульнага і прыватнага, часткі і цэлага, нацыянальнага і інтэрнацыянальнага. Словам, нічога кепскага ў нацыяналізме няма, калі ён поруч з краёвым духам прасякнуты яшчэ й духам інтэрнацыяналізму. Калі мы паважаем сябе як нацыю, але й не грэбуем культурнымі здабыткамі блізкіх і дальніх суседзяў. Без гэтага нацыяналізм набывае рысы нацызму. Як, зрэшты, і інтэрнацыяналізм, пазбаўлены нацыяналізму, імгненна ператвараецца ў касмапалітызм. Гаварыў пра гэта яшчэ ў 87-ым, на вольным сойме маладзёвых суполак. Маладыя беларусы са мной пагадзіліся цалкам.

**— Вернемся да школы, да рэформаў у сістэме адукацыі. Брэст зараз эксперыментуе па вышэйшым загадзе з пяцідзёнкай (у суботу дзеці не вучацца — адпачываюць). Але, як расказваюць тамтэйшыя педагогі, не ўсё так проста. У дзень пры захаванні старой праграмы замест пяці ўрокаў — праводзіцца зараз па сем. Да плюс суботнія факультатывы па асноўных прадметах (іншага дня пры сямігадзінным вучнёўскай нагрузцы для іх не адшукаеш!). На факультатывы гэтыя не абавязваюць хадзіць, проста рэкамендуюць. А як не пойдзеш, калі праз год-два трэба паступаць у ВНУ? Карацей, нагрузкі не зменшыліся. І па-ранейшаму школьныя ранцы нашых дзяцей — непад'ёмныя ад падручнікаў і сшыткаў... Дык як вам такія рэформы, Міхась Мікалаевіч? Маю на ўвазе і дзесяцібальную сістэму ацэнкі вучнёўскіх ведаў, і дванаццацігадовы тэрмін навучання, і тую ж пяцідзёнку пры нязменнай перагрувашчанай праграме?**

— Ды пра нагрузкі гэтыя не толькі з вашых, чужых слоў ведаю. Мая дачка ледзь не штодня з 8 гадзін раніцы да 8 вечара са школы не выходзіла... Як мне здаецца, не з таго пачынаем мы гэтыя рэформы. У нас па-ранейшаму няма **нацыянальнай** школы! Вось што галоўнае. І ўсе рэфарматарскія захады ў першую чаргу павінны быць звернуты нават не на адраджэнне менавіта беларускай школы, а на планавае, мэтанакіраванае і як мага больш тэрміновае яе стварэнне...

**— І яшчэ адзін момант, Міхась Мікалаевіч. Растлумачце мне, няўцямнаму, чаму пры паступленні ў інстытуты, акадэміі і універсітэты сённяшняму абітурыенту не хапае ведаў, атрыманых у школе. Чаму плата за рэпетытарства выкладчыку той установы, куды паступае ўчарашні вучань школы (лічыце, яўны хабар за тое, каб стаць студэнтам) , на сёння — справа звычайная і непазбежная?**

— Ды вось не ведаю гэтага і я. Здаецца, яшчэ пры Дземчуку "стыкоўка" паміж вышэйшай і агульнаадукацыйнай школамі яшчэ была. Гэта потым усё неяк зрушылася. Калі штосьці не спрацоўвае, гэта заўжды камусьці выгадна... Паўтару толькі адно: і не з таго мы пачынаем адукацыйнае рэфармаванне.

**— І апошняе. Пра што зараз марыце, на што спадзеецеся?**

— Не задавальняе сённяшні аб'ём "Роднага слова". Каб эфектыўна выконваць рэдакцыйную праграму "да культуры праз адукацыю", патрэбны сур'ёзныя высілкі, мэтанакіраваная маштабная праца калектыву часопіса, нашых пазаштатнікаў, сярод якіх спрэс знаныя руплівіцы беларушчыны. Мару пра часопіс, аб'ём якога дазволіў бы ёміста і змястоўна казаць пра комплексны суцэльны падыход да фарміравання беларускай душы як часткі сусвету. Спадзяюся — усё гэта ажыццёвіцца...

**Гутарыў Яўген РАГІН**

**Калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела пісьмаў і грамадскай думкі штотыднёвіка ГІЛЕВІЧ Марыі Міхайлаўне ў сувязі з вялікім горам — смерцю маці Сцепаніды Мацвееўны.**

ДУХОЎНАСЦЬ

# Ліпеньскія шчадроўкі? Чаму б не...

Народны хор ветэранаў вайны — калектыў у Асіповіцкім раёне прызнаны. Ён існуе даўно і заваяваў заслужаную папулярнасць як на самой Асіпоўшчыне, так і за яе межамі. Апошнім жа часам быццам набыў другое дыханне. Адбылося гэта дзякуючы таму, што хор узначаліла вопытны культурна-асветны работнік Людміла Грынько. Яна працуе выкладчыцай у Асіповіцкай беларускай гімназіі, але знаходзіць вольны час, каб праводзіць рэпетыцыі з тымі, хто і ў пажылым узросце не растраціў маладога пачуцця, захаплення прыгожым. І разам з імі радаваць сваім майстэрствам шматлікіх слухачоў. Да ўсяго сама Л. Грынько выдатная салістка, выступае на многіх раённых мерапрыемствах. І не адна, а разам з народным цымбальным аркестрам.

Пра такіх звычайна кажуць: чалавек, талентам не абдзелены. Правільным будзе і іншае вызначэнне: чалавек на сваім месцы. А творчаму станаўленню Людмілы Уладзіміраўны шмат паспрыяла тое, што яна, выпускніца Мінскага інстытута культуры, у свой час згадзілася на прапанову загадчыка аддзела культуры Асіповіцкага раёна В. Налівайкі вярнуцца ў свой раён. Дарэчы, тамашні і Васіль Фёдаравіч. Яшчэ са школьных гадоў прымаў актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці. Не развітваўся з ёй і ў час службы ў арміі, перад гэтым скончыўшы політэхнічны тэхнікум і папрацаваўшы тэхнічным кіраўніком Клічаўскай раённай кінасеткі. А звольніўшыся ў запас, падаўся ў родныя мясціны. Калі быў дырэктарам Асіповіцкай раённай кінасеткі, якраз праводзіліся выбары новага загадчыка раённага аддзела культуры. З трох прэтэндэнтаў В. Налівайка набраў 90 працэнтаў галасоў.

Тады ж, у 1987 годзе, не адкладваючы на пасля, і ўзяўся па сутнасці за рэфармаванне ўсёй культурнай работы ў горадзе і раёне. Спадчыну, трэба сказаць, атрымаў незайздросную. З двух народных калектываў працаваў толькі хор ветэранаў, а ў цымбальнага аркестра не было кіраўніка. Яшчэ ў горшым становішчы знаходзіліся звычайныя калектывы мастацкай самадзейнасці. В. Налівайка зразумеў, што абапірацца трэба на высокакваліфікаваныя кадры. Неўзабаве паехаў у Мінскі інстытут культуры, у якім тады вучыўся завочна, і ўгаварыў дзвюх землячак — ужо названую Л. Грынько, а таксама Іну Кудзелку вярнуцца на працу ў родныя мясціны. Іна ўзначаліла цымбальны аркестр, а Людміла ансамбль ""Люлечка", які цяпер з'яўляецца народным. Усяго ж на Асіпоўшчыне на сённяшні дзень дванаццаць народных калектываў.

Гэта вынік умела арганізаванай работы загадчыка раённага аддзела культуры. Яго ўлюбёнасці ў культуру. І ягонага разумення, што бездухоўнасць, амаральнасць можна перамагчы толькі ў тым разе, калі ім супаставіць шэраг мерапрыемстваў, якія нясуць духоўнасць. Таму на Асіпоўшчыне стала традыцыйным правядзенне розных святаў, фестываляў.

Канечне, для гэтага патрабуюцца сродкі, пры тым немалыя. Выйсце знайшлі ў аказванні платных паслуг. Па іх Асіповіцкі раён выйшаў на першае месца ў Магілёўскай вобласці. Выгада атрымліваецца ўзаемная. Жадаючыя могуць узяць напракат музычныя інструменты, пaглядзець відэафільмы, наведацца на дыскатэкі. За чыста сімвалічную плату можна пакарыстацца ў выхадныя дні кнігамі, якія ёсць толькі ў чытальнай зале. Заробленыя ж грошы, а летась набралася да 45 мільёнаў рублёў, ідуць на набыццё тых жа кніг, музычных інструментаў, на аплату працы культурна-асветных работнікаў.

Што да святаў, дык асаблівы размах набыў раённы фестываль народнай творчасці "Веснавыя колеры", які сёлета пройдзе дзесяты раз. За мэту ён ставіць актывізацыю культурнага жыцця ў раёне, павышэнне сацыяльнай ролі і ідэйна-мастацкага ўзроўню народнай творчасці, вызначэнне і стварэнне спрыяльных умоваў для развіцця мастацтва і ўдасканалення вольнага часу насельніцтва. Праводзіцца пяць занальных аглядаў-конкурсаў, свята народных традыцый, фестывалі дзіцячай творчасці "Веснавы праменьчык" і эстраднага мастацтва "Асіповіцкая зорка". Заключныя ж мерапрыемствы адбываюцца ў раённым Цэнтры культуры. У Асіповічах збіраецца тысячы чалавек.

Ёсць на Асіпоўшчыне і свята народных традыцый "Ліпеньскія шчадроўкі". Нейкая нестыкоўка атрымліваецца? Маўляў, шчадрэц з ліпенем месяцам несумяшчальны. Пярэчыць не буду, але рэч у тым, што гаворка не пра адзін з летніх месяцаў, а пра вёску, дзе штогод праводзіцца гэтае непаўторнае свята, так моцна звязанае з народнымі традыцыямі. І не дзенебудзь, а на сцэне Ліпеньскага Дома культуры. Пачынаюцца ж шчадроўкі так, як і спакон вякоў было ў беларусаў. Ёсць і куцця, і каўбасы, і блінцы. І, канечне ж, самі калядоўшчыкі, казачныя персанажы. А пасля выступаюць калектывы мастацкай самадзейнасці.

"Ліпеньскія шчадроўкі" таксама арганізуюцца за кошт небюджэтных сродкаў. Як і шмат якія іншыя мерапрыемствы. А асіповіцкія артысты не любяць заседжвацца на месцы. Шмат ездзяць па раёне, бываюць у суседзяў. І нават завітваюць у Маскву, Санкт-Пецярбург, бралі ўдзел у міжнародных фестывалях, што праходзілі ў Польшчы і Малдове. Ахвотна прымаюць у сябе гасцей. Прынамсі, глыбокі след у душы як жыхароў Асіповіч, так і працаўнікоў калгасаў "Авангард" і "Чырвоны ўдарнік" пакінулі выступленні Тульскага рускага народнага хору імя А. Фядзякіна. Асіповіцкія артысты збіраюцца наведаць тулякоў у красавіку сёлетняга года. Гэтыя абменныя канцэрты цікавыя тым, што ў праграму ўключаюцца не толькі пастаянныя нумары, а і новыя. У прыватнасці, хор імя А. Фядзякіна парадаваў асіпоўцаў нашай знакамітай "Лявоніхай" і выканаў некалькі беларускіх народных песень.

Пытаюся ў Васіля Фёдаравіча, а як развіваецца ў раёне бібліятэчная работа. Замест адказу В. Налівайка прапануе наведацца ў новую бібліятэку.

— У новую?

— Памяшканне новае.

Такі адказ выклікае яшчэ большае здзіўленне. На жаль, з-за цяжкага фінансавага становішча сёння ўстановы культуры спраўляюць не так і часта наваселле. Як высветлілася, гэтае будаўніцтва таксама нялёгка давалася і расцягнулася не на адзін год. Затое цяпер Асіповіцкая гарадская бібліятэка № 1 знаходзіцца ў будынку, у якім створаны ўсе ўмовы як для працы супрацоўнікаў, так і для чытачоў. Можна ўзяць кнігу з сабой, можна пасядзець ва ўтульнай чытальнай зале. Агульны фонд бібліятэкі складае каля 35 тысяч кніг. Багата і перыёдыкі. У тым ліку штотыднёвік "Літаратура і мастацтва", часопісы "Полымя", "Маладосць"...

У кожнай бібліятэкі, як і ў кожнага калектыву мастацкай самадзейнасці, свой твар. Асіповіцкая раённая дзіцячая бібліятэка добра вядомая тым, што ладзіць шматлікія мерапрыемствы дзецьмі-інвалідамі. У гэтым заслуга загадчыцы Валянціны Уладзіміраўны Логвін, якая працуе ў бібліятэцы з 1968 года. Скончыла Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, а пасля бібліятэчны факультэт Мінскага інстытута культуры. Дзякуючы В. Логвін рыхтуюцца розныя метадычныя распрацоўкі, якія і іншыя з поспехам могуць выкарыстаць у сваёй рабоце.

Не сумуюць на Асіпоўшчыне. А таму і не сумуюць, што чалавек духоўна багаты — нашмат шчаслівейшы за таго, хто дбае толькі аб асабістым багацці.

**Васіль РАКІЦІН**

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

## На хвалях Беларускага радыё

АНОНС ПЕРАДАЧ ПРА ЛІТАРАТУРУ

У панядзелак, **25 сакавіка, у 22-10** у праграме **"Музейныя тайны"** аўтар Ганна Кашуба гутарыць з пляменніцай Янкі Купалы Ядвігай Юльянаўнай Рамаnoўскай. У сваіх успамінах яна раскажа цікавыя гісторыі, звязаныя з пошукамі матэрыялаў і дакументаў песняра.

У праграме **"Пародненыя музай"** прагучаць пераклады Янкі Сіпакова лірыкі амерыканскага паэта Уолта Уітмена.

**"Белы аркуш"** у сераду прысвечаны Міжнароднаму дню тэатра. Удзельнікі перадачы — маладыя артысты Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

**У чацвер** — праграма Івана Рыбіцкага "Роднасць".

**У праграме да 120-годдзя Я. Купалы і Я. Коласа** Васіль Макарэвіч працягвае знаёміць з жыццёвым і творчым шляхам народных паэтаў.

**25 сакавіка** на канале "Культура" прагучыць перадача Святланы Шалімы "Галасы XX-га стагоддзя" — "Усе мы разам ляцім да зор". Радыёрасказ пра вечарыну, прысвечаную культурным сувязям паміж Украінай і Беларуссю, году Тараса Шаўчэнкі на Беларусі.

Пра навіны літаратуры — усё, што адбываецца ў літаратурным свеце, — вы зможаце даведацца, павандраваўшы па "Літаратурным праспекце" з Маргарытай Прохар, якая прагучыць **у нядзелю, у 15-30.** Акрамя таго, у праграме вас чакае рубрыка "Свежыя старонкі": агляд беларускіх літаратурных часопісаў.

**Н. К.**



*Наступны нумар штотыднёвіка "ЛіМ" выйдзе 5 красавіка 2002 г.*

ПАРОДЫІ

Павел САКОВІЧ

## Хачу натуршчыцу...

Закахацца, бы ў неба ўзняцца,  
Млечным Шляхам блукаць між зор.  
І да раніцы абдымацца,  
як з натуршчыцай Сальвадор

**Эдуард АКУЛН**

***Было б добра да зор узняцца***  
***І з натуршчыцай маладой***  
***доўга ў цемрадзі абдымацца...***  
***Не замерзнуць бы толькі з ёй.***

***Ах вы, мроі, зорныя мроі!***  
***Пабрыду я лепш у свой двор,***  
***Жонку стрэну ў цёплым пакоі...***  
***Ну які з мяне Сальвадор?***

Міхась МІРАНОВІЧ

## Фрашкі

### ПУНКЦІР

***Не праходзіла ў тыдні***  
***Ані дня,***  
***Каб не выбраў***  
***Новых Ясь арыенціраў.***  
***Ён так часта***  
***Свае погляды мяняў,***  
***Што пункт***  
***гледжання ягоны***  
***Стаў пункцірам.***

### ЗЛОДЗЕЙ У ЗЛОДЗЕЯ

***Адчуваючы,***  
***Што ў чымсьці мы няправы,***  
***Тым не менш,***  
***Крадзём пашыху ў дзяржавы.***  
***Нас апраўдвае адно,***  
***Хаця і мала:***  
***Што дзяржава гэта ў нас***  
***Раней украла.***

### АБОЕ РАБОЕ

***Муж часта***  
***Жонку папракае:***  
***— Я браў цябе***  
***Ўжо не дзяўчынай. —***  
***Яна ж яму не саступае:***  
***— Але ж і ты***  
***Быў не мужчына...***

### НЕ РУШ, ЧАГО НЕ РАЗУМЕЕШ!

***— Не разумею:***  
***Як так можна піць? —***  
***Сказала жонка.***  
***— Ты ж штодня***  
***балдзееш!..***  
***Муж у адказ на гэта:***  
***— Годзе кпіць!***  
***Не руш таго,***  
***Чаго не разумееш!***

### ВЕК БЫ НЕ БАЧЫЦЬ!..

***Многіх з нас***  
***Ужо не бачыць вока***  
***Па прычынах,***  
***Што хачу адзначыць:***  
***Тых няма,***  
***А гэтыя — далёка,***  
***А хто блізка —***  
***Век бы іх не бачыць!..***


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІК

**ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"**

ВЫХОДЗІЦЬЗ 1932 ГОДА

**У 1982 г. ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**





**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 284-8461**

**намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985**

**АДДЗЕЛЫ:**

**публіцыстыкі — 284-8204**

**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985**

**літаратурнага жыцця — 284-8462**

**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985**

**паэзіі і прозы — 284-7985**

**музыкі — 284-8153**

**тэатра, кіно — 284-8153**

**выяўленчага мастацтва — 284-8462**

**фотакарэспандэнт — 284-8462**

**бухгалтэрыя — 284-8462**

**Тэл./факс — 284-7965**





Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79)

Індэкс 63856 Наклад 2626

Нумар падпісаны ў друк 21.03.2002 г. у 17.30

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 1771

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12